


**Пётра Сергіевіч.** Эмігранты. Алей, 1934 г.

3'90
ЧАСОПІС
БЕЛАРУСКАГА ФОНДУ КУЛЬТУРЫ
І ТАВАРЫСТВА АХОВЫ ПОМНІКАЎ
ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ

СПАДЧЫНА

# ЗМЕСТ



■

# ЧАРНОБЫЛЬ І НАША ГІСТАРЫЧНАЯ СПАДЧЫНА

Сёння беларускі народ разумее, якія вынікі Чарнобыльскай катастрофы яго чакаюць. Кардынальнага вырашэння патрабуюць шматлікія праблемы. Сярод іх і пытанні духоўнага і этычнага зместу.

Мы ўсвядомілі, што, калі не адсяліць у чыстыя раёны рэспублікі значную колькасць жыхароў Гомельскай і Магілёўскай абласцей і не забараніць ужо ў гэтым годзе вытворчасць забруджанай радыенуклідамі прадукцыі, то генафонд беларускай нацыі будзе значна падарваны, і само яе існаванне ў XXI—XXII стст. ставіцца пад сумненне.

Трэба ратаваць народ. Трэба ратаваць і яго культуру. Але як і якім чынам ратаваць гістарычную тапаніміку, фальклор, шматлікія помнікі гісторыі і культуры ў тых месцах, якія праз год-два будуць пакінуты жыхарамі? Мы і так ужо, у адрозненне ад нашых суседзяў украінцаў, намнога спазніліся, а чакаць больш нельга. Калі мы будзем рассяляць людзей маленькімі групамі на тэрыторыі Беларусі і за яе межамі, мы беззваротна страцім цэлы пласт унікальнай духоўнай і матэрыяльнай культуры.

Камісія па Чарнобылю, нядаўна створаная Вярхоўным Саветам БССР, павінна, на маю думку, акрамя вырашэння складаных эканамічных, вытворчых і будаўнічых задач, стварыць спецыяльную падкамісію па выратаванню ўсіх духоўных і матэрыяльных каштоўнасцей беларускага народа на забруджаных тэрыторыях.

Загадам Савета Міністраў рэспублікі трэба тэрмінова стварыць на базе грамадазнаўчых інстытутаў Акадэміі навук і Міністэрства культуры БССР аб'яднаную навукова-даследчую экспедыцыю па вывучэнню забруджаных раёнаў Беларусі. Члены гэтай экспедыцыі павінны атрымаць спецыяльны транспарт, сродкі для яго дэзактывацыі, індывідуальныя дазіметры, спецвопратку, чыстыя прадукты харчавання і павышаныя (з улікам небяспекі) заробкі. Дзеля атрымання замежнай фота- і кінатэхнікі, відэакасет і фотаплёнкі фірмы «Кодак» Вярхоўны Савет БССР павінен неадкладна звярнуцца па дапамогу ў ЮНЕСКА — арганізацыю, якая мае неабходныя сродкі для захавання культурнай спадчыны найбольш пацярпелых народаў нашай планеты. Цяпер беларусаў трэба аднесці менавіта да такой групы насельніцтва зямлі.

Вышэйназваная экспедыцыя, кіруючыся ў першую чаргу Зборам помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, а таксама энцыклапедыямі «Літаратура і мастацтва Беларусі» і «Этнаграфія Беларусі», здолела б на працягу першага палявога сезона (красавік — лістапад 1991 г.) правесці фота- і кінафіксацыю ўсіх помнікаў Чарнобыльскай зоны, надрукаваць асобнай брашурай іх поўны пералік з указаннем канкрэтнага адраса, ступені захаванасці і рэкамендацый па захаванню. У першую чаргу гэта тычыцца помнікаў архітэктуры. Урад рэспублікі павінен знайсці сродкі і спецыялістаў, каб на працягу 2—3 гадоў правесці кансервацыю і добраўпарадкаванне ўсіх архітэктурных пабудоў, якія маюць гістарычную і культурную каштоўнасць.

Шмат працы і ў нашых фалькларыстаў і этнографаў. Трэба спяшацца, каб паспець запісаць усе старадаўнія паданні і казкі, песні і абрады людзей тых раёнаў, якія неўзабаве пакінуць свае родныя мясціны. А колькі розных прылад працы, вопраткі, старога посуду і іншага унікальнага хатняга рыштунку можа бясследна знікнуць, калі людзі пачнуць пераязджаць са старых котлішчаў. Усё гэта трэба захаваць, пры магчымасці вывезці ў чыстыя раёны, а калі рэчы моцна забруджаны радыенуклідамі, правесці іх дакладную фіксацыю і апісанне.

Археолагі абавязаны праверыць наяўнасць ахоўных знакаў на розных помніках археалогіі і, калі іх няма, тэрмінова ўстанавіць з дапамогаю спецыяльнай будаўнічай брыгады.

Праз 100—200 гадоў, калі скончыцца паўраспад цэзію і стронцыю, нашы далёкія на-

шчадкі змогуць на новым, значна вышэйшым ўзроўні правесці іх вывучэнне.

Паўстае пытанне і аб захаванні гістарычнай тапанімікі. У чыстых раёнах Віцебшчыны трэба збудаваць новыя вёскі і пасёлкі, але назвы ім даць старыя, каб перасяленцы адчувалі сябе як дома. І калі на карце Беларусі на новым месцы праз 10—20 гадоў мы зможам прачытаць знаёмыя нам сёння назвы Брагін, Нароўля, Хойнікі, Ветка, будзем упэўнены, што беларускі народ змог знайсці ў сабе сілы, каб адолець чарговую, бадай што, самую страшную ў сваёй гісторыі навалу.

Асаблівa пільную ўвагу трэба засяродзіць на Веткаўскім этнакультурным раёне, дзе рускія стараверы, што пасяліліся тут у XVIII ст., стварылі унікальную для Беларусі і Расіі культуру. Калі мы развязём гэтых людзей па ўсёй рэспубліцы, то чалавецтва страціць яшчэ адну яркую старонку сваёй гісторыі. У сувязі з гэтым я прапаную звярнуцца да Вярхоўнага Савета РСФСР з просьбаю аб перадачы БССР некалькіх чыстых ад радыяцыі суседніх раёнаў Пскоўшчыны і Смаленшчыны. У якасці прыкладу можна Прывесці Усвяцкі, Веліжскі, Невельскі і Себежскі раёны Пскоўскай вобласці, а таксама Хіславіцкі, Манастыршчанскі і Шумяцкі раёны Смаленскай вобласці, якія да 1924 г. уваходзілі ў склад адпаведна Віцебскай і Магілёўскай губерняў. Цяпер гэтыя раёны маланаселены, і на іх тэрыторыі знайшлося б шмат месца для перасяленцаў з Магілёўшчыны і Гомельшчыны. Пры гэтым, каб не закранаць інтарэсы карэннага насельніцтва, новае будаўніцтва можна весці на месцы былых, ужо амаль пакінутых вёсак і сядзіб.

Комплекснае, кампактнае перасяленне носьбітаў унікальнай для двух братніх народаў культуры, захаванне фондаў Веткаўскага музея і яго адбудова ў старых формах, захаванне і перанос на новую глебу старых назваў вуліц, вёсак і паселішчаў дазволіць адрадзіцца даўнім традыцыям, не дасць загінуць фальклору і самабытнаму веткаўскаму дыялекту.

Алег ТРУСАЎ,
народны дэпутат Беларускай ССР

# БЕЛАРУСЫ І БЕЛАРУСІСТЫКА НА АМЕРЫКАНСКІМ КАНТЫНЕНЦЕ

Немагчыма ў сучасным свеце жыць ізалявана. Усё ў ім узаемазвязана, усё падпарадкавана гістарычным і культурным працэсам. Лёс распарадзіўся так, што людзі нашай нацыі параскіданы па ўсім белым свеце. Беларусы жывуць сёння ў Польшчы і ў далёкай, зусім нам невядомай Аўстраліі, на астравах Злучанага Каралеўства і ў ЗША, Канадзе. Нас шмат па ўсёй Зямлі, і ўсе мы людзі адной культуры. Шмат для каго з нас, пана альбо таварыша, Беларусь — гэта якраз тое, што дае сілы жыць і чуць сябе чалавекам. І культура наша, якую ствараем мы, беларусы, і на адвечнай сваёй зямлі, і на чужыне,— часцінка агульначалавечага тварэння духу. Знікне яна, знікне якаянебудзь іншая, і апусцее свет, адчуе страту, бо ні адзін другі народ не народзіць ужо такога. Можа, таму мы вывучаем мовы, літаратуру, фальклор, мастацтва французаў, англічан, італьянцаў, а яны — нашу культуру. Так не даем мы, людзі, парвацца ніцям, што лучаць нас усіх на гэтай планеце.

Беларусы і беларусістыка за мяжой. Тэма для нас сёння, калі мы вырашылі не разбураць, а збіраць,—архіважная. Гэтай праблеме ў Дні славянскага пісьменства і прысвяцілі мы размову з Томасам Бердам, прафесарам Нью-Йоркскага гарадскога універсітэта. Наш субяседнік — вядомы славіст, апошнія 5—6 гадоў займаецца буларускай культурай: даследуе «Нашу ніву», вывучае сучасную драматургію, у прыватнасці творчасць Андрэя Макаёнка і Аляксея Дударава. Як гаворыць сам вучоныславіст, яго цяперашнім навуковым інтарэсам паспрыялі цесныя і шчырыя сувязі з беларускай эміграцыяй у Амерыцы.

— Пан прафесар, славістыка — высокаразвітая галіна навукі у ЗША. Якое месца у ёй займаюць праблемы беларускай культуры?

— Скажу, што раней з усіх славянскіх культур беларускай мы менш за ўсё займаліся. Апошнім жа часам цікавасць да яе значна ўзрасла. Тлумачыцца гэта ў першую чаргу прысутнасцю вашых вучоных на штогодніх кангрэсах славістаў. Мы з цікавасцю слухаем іх даклады на самыя розныя тэмы, але перш за ўсё — на літаратурныя. Асаблівa важнай для нас з'яўляецца праблема «беларускі фальклор на радзіме і ў Амерыцы». Гэтыя тэмы, якія сталі асноўнымі на нашых кангрэсах, мы абмяркоўваем разам з вашымі вучонымі. Усё часцей у ЗША наладжваюцца розныя выставы, асабліва ў такіх вялікіх і ўплывовых бібіліятэках, як Кліўлендская (штат Агаё) ці Нью-Йоркская публічная. Гэта нашы маякі, сур'ёзныя цэнтры навуковых даследаванняў. Тысячы людзей на такіх выставах ужо змаглі пазнаёміцца з беларускай культурай. У Гарадскім універсітэце Нью-Йорка, дзе я працую, існуе спецыяльны цыкл лекцый, чытаць якія мы запрашаем эмігранцкіх пісьменнікаў. Яны чытаюць свае творы, расказваюць студэнтам пра Беларусь, пра свае асабістыя біяграфіі ў сувязях з гісторыяй і літаратурнымі працэсамі. Так, Антон Аляксандравіч Адамовіч гаварыў пра «Узвышша» і пра пісьменнікаў, якія ўдзельнічалі ў гэтым руху. Кожны год мы запрашаем прачытаць лекцыю вашага пісьменніка, члена дэлегацыі БССР на Генеральнай Ассамблеі ААН. Так, з першых вуснаў, студэнты і выкладчыкі даведваюцца пра сучасны літаратурны працэс на Беларусі.

Распачалі сур'ёзныя навуковыя даследаванні вучоныя ў штатах Агаё, Нью-Джэрсі, Нью-Йорк, а таксама ў Канадзе — ва універсітэтах Таронта і Атавы. У цэнтры іх увагі як гісторыя Беларусі, так і яе літаратура. Над беларускай праблематыкай працуюць і вучоныя-гісторыкі Калумбійскага універсітэта, а таксама некаторых іншых устаноў. Яшчэ раз падкрэслю, што ўдзел вучоных з Беларусі ў нашых кангрэсах славістаў — гэта не проста факт. Ён аказвае вялікі ўплыў на развіццё беларусістыкі ў нашай краіне.

— У Паўночнай Амерыцы наша эміграцыя даволі вялікая. Ведаю, што суайчыннікі групуюцца, аб'ядноўваюцца ў культурныя суполкі, таварыствы. Вернасць матчынай мове, яе спеву для многіх беларусаў — рэч святая. Як Вы, пан прафесар, лічыце, нашы суайчыннікі проста кансервуюць нацыянальную культуру, мову ў сем'ях, абшчынах, ці развіваюць яе?

— Безумоўна, мы маем усе падставы, каб гаварыць пра развіццё. Больш таго, існуе на гэта прынцыповая ўстаноўка. У Амерыцы даволі багатая беларуская літаратура, асабліва проза, паэзія. З драматургіяй горш, бо для пастаноўкі п'ес патрэбна пэўная сітуацыя. Гэты жанр не развіваецца. У кожным пакаленні беларускіх эмігрантаў з пачатку нашага стагоддзя былі яркія, таленавітыя пісьменнікі, паэты. Тэмы, якія хвалююць літаратараў, розныя — каханне, прырода, настальгія па радзіме. Сёння існуе выдатная плеяда творцаў у беларускай літаратуры, з якой, дарэчы, пазнаёміла вашых чытачоў газета «Наша слова» ў трэцім нумары за гэты год. Маладыя таксама падаюць надзеі. Дарэчы, яны маюць свой часопіс «Беларуская моладзь», у якім на роднай мове друкуюць эсэ, апавяданні, вершы. І людзі сталага ўзросту, і моладзь спяваюць у хорах, удзельнічаюць у мастацкіх выставах. Тут прынцыпова важны той факт, што моладзь закладвае свае беларускія сем'і, у якіх і бацькі, і дзеці размаўляюць па-беларуску. А гэта якраз і ёсць умова для прадаўжэння беларускасці і развіцця культуры: калі жыве мова, то будзе жыць і культура, працэс самапазнання і самаасэнсавання. Таму ёсць вялікая надзея, што нават у дыяспары і ў трэцім тысячагоддзі будзе існаваць беларускасць.

— Злучаныя Штаты Амерыкі — шматнацыянальная краіна, у якой знайшлі сабе месца і беларусы. А ў якой ступені дзяржава дапамагае развіццю культур такіх нацыянальных эміграцкіх меншасцей, як беларусы?

— Дзяржава да ўсяго гэтага не мае ніякага дачынення, на жаль, бо сумы на развіццё культуры патрабуюцца немалыя. Але, з другога боку, ёсць тут і станоўчы факт: няма ніякага ўмяшальніцтва ні ў выдавецкія справы, ні ў наладжванне выстаў, ні ў лекцыі — у тую культурна-асветніцкую працу, якую ладзяць вашы суайчыннікі. У Канадзе крыху іншае становішча. Англічане і французы заснавалі гэтую дзяржаву. Сярод нацыянальных большасцей і ўкраінцы. А ў апошнія 50 гадоў туды прыехала вялікая колькасць новых эмігрантаў з усіх бакоў свету — італьянцы, грэкі, кітайцы, карэйцы. Ёсць у Канадзе і шматлікае беларускае грамадства, перш за ўсё ў Таронта. Гэтая хваля эміграцыі паўплывала і на падыход урада Канады да нацыянальнага пытання — падтрымліваць эмігранцкія арганізацыі, друкаванне газет, часопісаў, падручнікаў для дзяцей. Так, канадскі ўрад выдзеліў вялікую суму для выдання двухтомнай граматыкі беларускай мовы спадарыні Пашкевіч. Дасканала зроблены гэты падручнік, з ілюстрацыямі, картамі, слоўнікамі.

— Пан прафесар, ці не замкнёна жывуць нашы суайчыннікі ў ЗША? У якім кантэксце развіваецца беларуская культура, якія існуюць сувязі з іншымі культурамі?

— Беларусы ў Амерыцы маюць некалькі моцных арганізацый. Яны збіраюцца на свае сходы амаль кожны месяц. Раз на год адбываецца вялікі сход усіх беларусаў, што жывуць у Паўночнай Амерыцы. Гэта вельмі ўрачыстае, светлае, цікавае мерапрыемства, якое доўжыцца некалькі дзён. Я лепш ведаю жыццё беларусаў на ўсходнім узбярэжжы ЗША — у Бостане, Нью-Йорку, Філадэльфіі. Там яны падтрымліваюць самыя цесныя сувязі з украінцамі, палякамі, чэхамі, славакамі. Адзін раз у год яны ладзяць так званы «славянскі тыдзень». Гэтае сумеснае мерапрыемства моцна ўздзейнічае на актыўнасць культурнага жыцця і расце з году ў год. Увогуле, беларусы вельмі актыўныя ў грамадскім і культурным жыцці Злучаных Штатаў...

...Людзі, адчужаныя, адарваныя ад радзімы, беражліва захоўваюць сваю спадчыну, развіваюць культуру свайго народа, за што і маюць павагу на той зямлі, якая іх прытуліла. менавіта гэта я адчуў у размове з амерыканскім вучоным Томасам Бердам.

Вячаслаў **РАКІЦКІ**

# «ЛІТВАНІЯ» — ПАДАРОЖЖА Ў БЕЛАРУСЬ XVIII СТАГОДДЗЯ

З далёкай старажытнасці і аж да нашых дзён было створана шмат карт, на якіх падаюцца межы беларускіх зямель. Практычна ўсе вядомыя картографы, ад Пталемея (I—II стст. н. э.) да Меркатара і Артэлія (XVI ст.) і іншых «зорак» сусветнай картаграфіі, у сваіх працах пазначалі нашу радзіму. Сваю ўвагу мы засяродзім на картах, якія з'явіліся ў XVIII — першай палове XIX стст. таму, што яны больш дакладныя і падрабязныя. У гэты ж перыяд узрасло і практычнае значэнне карт, імкненне да іх збірання ў калекцыі.

У асветніцкім XVIII ст. мала якая бібліятэка на Беларусі не мела ў сваіх зборах атласаў ці асобных карт. Яны былі, напрыклад, у гарадзенскім дамініканскім і слонімскім бернардзінскім кляштарах, у навагрудскага ваяводы Юзафа Аляксандра ЯблаКаноўскага і полацкага Яна Сапегі, у нясвіжскіх Радзівілаў, нарэшце ў Іяхіма Храптовіча ў Шчорсах. На жаль, гістарычны лёс карт склаўся так, што ўсе гэтыя зборы апынуліся па-за межамі рэспублікі: аселі ў Вільні, Кіеве, Маскве, Ленінградзе.

Вось чаму вельмі каштоўныя для нас тыя нешматлікія картаграфічныя помнікі, якія ўтрымаліся ў нашых сучасных сховішчах — цэнтральных бібліятэках, архівах і музеях. Не выключана, што маюцца асобныя экземпляры і ў прыватных асоб. Таму наспела неабходнасць шукаць, збіраць. Нарэшце, трэба скласці агульны каталог, каб ім маглі карыстацца ўсе жадаючыя, і пачынаць выданне карт і атласаў з адпаведным тлумачэннем.

Адным з помнікаў картаграфіі, што захоўваецца ў Дзяржаўным музеі БССР, з'яўляецца «Літванія» Матэвуса Зойтэра, якая датуецца прыблізна 1745 г. Карту падарыў музею ў 1976 г. Эмэрык Гутэн-Чапскі, які жыў у Рыме. Ён з вядомага графскага роду, які паходзіў са Станькава, што непадалёк ад Койданава. Яго дзед, Эмэрык Захарыяш Гутэн-Чапскі, у свой час сабраў у сваім станькаўскім палацы знакамітую калекцыю манет і медалёў, а таксама вялікую бібліятэку. Бацька, Караль Аляксандр Гутэн-Чапскі, знаходзячыся з 1890 па 1901 г. на пасадзе гарадскога галавы ў Мінску, зрабіў багата для добраўпарадкавання горада і развіцця культуры. Малады Эмэрык Чапскі таксама збіраў розныя рарытэты, у тым ліку — старажытныя карты і атласы.

Лёс сям'і Чапскіх, адпаведна і іх калекцыі, бібліятэкі, склаўся даволі драматычна. Пасля вядомых падзей 1917—1920 гг. гаспадары вымушаны былі пакінуць Станькава. Яны жылі ў Стоўбцах, Вільні, нарэшце апынуліся на Слонімшчыне, у сядзібе-леснічоўцы пад Сынковічамі. Але і тут ім не паспрыяў лёс: верасень 1939 г. прымусіў графа Гутэн-Чапскага спешна пакінуць гэтыя ўтульныя мясціны. Ён ледзь паспеў захапіць некалькі найбольш каштоўных карт.

Ужо з Рыма, дзе ў эміграцыі дажываў свой век граф-калекцыянер, і была атрымана гэтая самая «Літванія». Кажуць, Гутэн-Чапскі хацеў яшчэ тое-сёе прыслаць са сваёй адноўленай і пашыранай калекцыі, але да такіх жэстаў у тыя часы ставіліся даволі падазрона... Хаця ў нейкім сэнсе картаграфічны збор Эмэрыка Чапскага геаграфічна і наблізіўся да нас: паводле яго тастаменту, збор, у колькасці 772 адзінак розных карт і атласаў, датаваных з канца XV да паловы XIX ст., быў дастаўлены ў Польшчу. Інстытут геаграфіі Польскай Акадэміі навук зараз выдае трохтомны каталог гэтага збору, які ім жа і быў апрацаваны.

«Новая і дакладная Вялікага княства Літоўскага з яго ваяводствамі і паветамі, накрэсленая старанна і выдадзеная Матэвусам Зойтэрам, імператарскім і каралеўскім картографам і друкаром...», карта ўбачыла свет у Германіі, у баварскім горадзе Аўгсбургу. Яе аўтар, Георг Матэвус Зойтэр (1678—1757), картограф і выдавец, асвойваў прафесію гравёра ў Нюрнбергу: спачатку ў Давіда Функа, а потым — у шырокавядомага Іагана Батысты Гомана. Разам з гэтым ён авалодаў асновамі як выдавецкай, так і камерцыйнай справы. Заснаваўшы ў 1707 г. уласную фірму ў Аўгсбургу, Зойтэр потым даволі паспяхова канкурыраваў са сваімі нядаўнімі настаўнікамі. Пры яго непасрэдным удзеле было выдадзена каля 500 карт, цэлы шэраг атласаў вялікага і малога фармату. Дзейнасць зойтэраўскай фірмы працягвалася і пасля смерці заснавальніка, аж да 1810 г.

«Літванія» ўяўляе сабою гравіраваную на медзі карту, размаляваную ад рукі, памерам 552×474 мм. Маштаб яе паказаны ў правым ніжнім кутку ў германскіх і французскіх мілях, адпаведна 15 і 20 міль на адзін градус, што складае прыкладна 1 : 1 300 000 (у 1 см 130 км).

З сімволікі і аздобаў, якія ўпрыгожваюць карту, прыцягвае ўвагу назва, узятая ў дэкаратыўную авальную рамку з лісця аканфу. У ніжняй частцы — геральдычны картуш з «Пагоняй», увянчаны каронай. Прыцягвае ўвагу і ружа вятроў, што сціпла «ўладкавалася» на Балтыйскім моры — уверсе злева. Каралеўская лілея на ёй па старадаўняй картаграфічнай традыцыі паказвае напрамак на поўнач.

Большая частка паверхні «Літваніі» Зойтэра — гэта беларускія землі. На іх пазначаны тагачасныя дзяржаўныя межы, адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел, ваяводствы і паветы з іх цэнтрамі, гарады, мястэчкі і некаторыя сёлы. Ступень інфармацыі ў дадзеным выпадку даволі высокая: каля 400 населеных пунктаў. Трэба мець на ўвазе, што ўсе назвы на карце даюцца на латыні, многія з іх паланізаваныя. Не заўсёды адпавядае рэальнасці тых часоў адміністрацыйна-палітычны стан некаторых тэрытарыяльных адзінак. Але гэта звычайная з'ява ў картаграфіі, якая фіксуе сітуацыю са значным спазненнем.

У нашага сучасніка выклікаюць пытанні фізіка-геаграфічныя элементы карты Зойтэра. Нягледзячы на тое, што асновы нівеліравання ўжо былі дастаткова распрацаваныя, скла-



дальнік не змог даць нават прыблізную характарыстыку рэгіёна. Ён абмежаваўся архаічнымі метадамі, таму размясціў узвышшы там, дзе іх на самай справе не было. Аказаліся запоўненымі тыя ўчасткі карты, для якіх не хапала інфармацыі. Гэта ж адносіцца і да большасці лясоў, якія аўтар паказаў выбарачна і нават гіпатэтычна. Цікава, што не толькі Зойтэр, але і больш вядомыя картографы паказу лясных масіваў надавалі часцей дэкаратыўнае значэнне. Паглядзіце: ва ўсходняй частцы Беларусі вялікія лясы, якія на карце не маюць назвы, а ў заходняй адсутнічаюць і Налібоцкая, і Белавежская пушчы.

Больш дакладна выглядае гідраграфія, калі не ўлічваць прыблізную лакалізацыю забалочаных прастораў Палесся. Паказана большасць вядомых беларускіх рэк і азёр. У некаторых выпадках нават пазначаны рачныя вытокі, напрыклад, Нёмана. Рэкі, як і населеныя пункты, з'яўляюцца найбольш аргументаваным бокам гэтага картаграфічнага твора. Натуральна, што як да ўсёй карты у цэлым, так і да асобных яе частак трэба ставіцца крытычна. Будзем мець на ўвазе магчымасці аўтара і той зыходны матэрыял, якім ён карыстаўся.

Некаторыя даследчыкі старажытнай картаграфіі адзначалі пэўную кампілятыўнасць гэтай і іншых карт фірмы Зойтэра. Тым не менш «Літванія» мае несумненную каштоўнасць для гісторыі і краязнаўства Беларусі. Умела скампанаваная, лёгкая для ўспрымання, яна дае цэласнае і кампактнае ўяўленне аб нашым краі ў XVIII ст.

**Леў КАЗЛОЎ**

# АДМЕТНЫ СЛЕД

Абсяг творчасці Францішка Аляхновіча быў надзвычай шырокі. Аляхновіч займаўся драматургіяй, паэзіяй, прозай, публіцыстыкай, тэатразнаўствам, выступаў як рэжысёр і акцёр, вёў культурна-асветніцкую і грамадскую працу. І амаль ва ўсіх гэтых галінах творчасці пакінуў адметны і значны след. Асабліва плённай стала дзейнасць на тэатральнай ніве, аднак з-за пэўных драматычных акалічнасцей цяпер пра гэта вельмі мала хто ведае. Таму пачнем з біяграфіі пісьменніка.

Нарадзіўся Францішак Аляхновіч 9 сакавіка 1883 г. у Вільні. Пазней у адным са сваіх вершаў ён прызнаецца: «Ты, Вільня, мяне ўзгадавала, тут сніў я дзіцячыя сны!..» Бацька працаваў скрыпачом у Віленскім гарадскім тэатры і, калі споўнілася сыну 5 гадоў, сістэматычна браў яго з сабою на спектаклі. Гэтая акалічнасць, безумоўна, паўплывала на выбар юнаком жыццёвага і творчага шляху.

Пасля пяці класаў гімназіі, Віленскай хімічна-тэхнічнай школы, дзе прабыў год, Францішак Аляхновіч накіроўваецца ў Кракаў, каб вучыцца драматычнаму майстэрству. Аднак на той час тэатральная школа там не працавала, і ён паступіў ва універсітэт. Правучыўшыся год, Аляхновіч пераехаў у Варшаву, дзе яго залічылі ў драматычную школу пры музычным таварыстве. Скончыў яе ў 1907 г. і год вандраваў з польскай трупай.

У 1908 г. Аляхновіч вярнуўся ў Вільню, якая, асабліва з часу выхаду газет «Наша доля» і «Наша ніва», была асяродкам беларускай культуры, увогуле ўсяго нацыянальнага руху. Напачатку ён працаваў рэпарцёрам у польскіх выданнях. А калі па ініцыятыве «Нашай нівы» пачала наладжвацца тэатральная справа, прыняў у ёй самы чынны ўдзел. Так, вялікай культурна-грамадскай падзеяй, што спрыяла абуджэнню нацыянальнай свядомасці, сталася Першая беларуская вечарынка ў Вільні, якая адбылася 12 лютага 1910 г. На ёй паказваўся спектакль «Па рэвізіі» М. Крапіўніцкага ў пастаноўцы Ф. Аляхновіча (ён жа выконваў у спектаклі адну з роляў), выступалі хор пад кіраўніцтвам Л. Рагоўскага і танцавальны калектыў І. Буйніцкага. Уласна, вечарынка і паслужыла штуршком для адраджэння беларускага прафесійнага тэатра. За гэта ўзяўся Ігнат Буйніцкі.

Да Аляхновіча ж, пачынаючы з першых яго творчых крокаў, лёс быў вельмі нялітасцівы. Чалавеку надзвычай няўрымсліваму, здольнаму на нечаканыя ўчынкі, каб не сказаць на авантуры (гэтае слова, дарэчы, часта любяць ужываць героі аляхновічаўскіх драматычных твораў), жыццё нярэдка як бы спецыяльна падстройвала складаныя, трагічныя абставіны і калізіі.

У тым жа, што і Першая беларуская вечарынка, 1910 г. у тыднёвіку «Пэркунас», які выпускаў Аляхновіч, з'явіўся артыкул, дзе было «зневажанне сіл нябесных» і «імкненне скінуць існуючую ўладу». Выдаўца пацягнулі у суд. Ратуючыся ад турмы, Аляхновіч вымушаны быў пакінуць Вільню і з'ехаць у Галіцыю,



Францішак Аляхновіч. Работа мастака А. Медзыблоцкага. Сярэдзіна 20-х гадоў.

якая тады не ўваходзіла ў склад Расіі. Пад псеўданімам Монвіда (гэтым прозвішчам Аляхновіч пазней падпісвае і шэраг сваіх літаратурных твораў) ён выходзіць на сцэну як акцёр польскіх правінцыяльных труп. У 1913 г. з нагоды трохсотгоддзя дынастыі Раманавых быў выдадзены маніфест аб амністыі, і Ф. Аляхновіч вярнуўся ў Вільню. Упэўнены, што цяпер не будуць вінаваціць, ён сам заявіўся да пракурора. «Імкненне скінуць існуючую ўладу» Аляхновічу даравалі, а вось за «зневажанне сіл нябесных» на год засадзілі ў турму. Тут ён і напісаў сваю першую п'есу «На Антокалі», абдумаў шэраг некалькі драматычных твораў. Гаворачы пра Ф. Аляхновіча, акадэмік Я. Карскі адзначаў: «Літаратурную сваю дзейнасць на беларускай ніве ён пачаў з таго, да чаго прыходзяць пісьменнікі пры звычайным развіцці толькі ў канцы сваёй творчасці, менавіта з драмы. Прычынай гэтага, напэўна, з'яўляецца грамадскае становішча аўтара: ён адзін з лепшых беларускіх акцёраў. Заўважаючы недахоп у беларусаў драматычных твораў, ён вырашыў папоўніць лік іх часткова перакладамі, часткова самастойнымі творамі. У гэтых адносінах яго дзейнасць цудоўна супала з імкненнем і іншых беларускіх пісьменнікаў у дадзены момант даць публіцы драмы...»

Калі Ф. Аляхновіч выйшаў з турмы, у разгары была сусветная вайна. Вільню акупіравалі немцы, і на пэўны час замерла беларускае культурнае жыццё. Чым толькі не займаўся ў

гэты час Аляхновіч — працаваў малярам, афармляў шыльды, быў служачым у розных установах, настаўнічаў у дзіцячым прытулку пад Вільняй, выконваў абавязкі карэктара...

З аднаўленнем культурнага жыцця пры беларускім клубе быў арганізаваны драматычны гурток пад кіраўніцтвам Аляхновіча. Ён паставіў спектаклі «Хам» паводле Э. Ажэшкі, «На Антокалі», іншыя свае п'есы. Але ў халоднай, галоднай Вільні жыць і працаваць было надзвычай цяжка. У аляхновічаўскай п'есе «Няскончаная драма», якая апавядае пра тагачасныя падзеі (яна была напісана пазней, у 1920 г.), асноўны герой Васіль як бы спавядаецца: «Ох, каб толькі вырвацца з гэтай Вільні! Зачынілі нас немцы тутака, як у клетцы, адарвалі нас ад усходняй Беларусі — і рабі што хочаш!.. Іншы раз дык проста думаецца прабрацца неяк праз фронт: там — я думаю — кіпіць жыццё, там развіваецца шырокая беларуская работа!..» Гэта не толькі словы персанажа, а і думкі і намеры самога аўтара. Справа ў тым, што з акупацыяй Вільні культурны цэнтр перамясціўся ў Мінск, таму да Аляхновіча прыходзіць смелае рашэнне. Класік беларускай літаратуры Максім Гарэцкі сведчыць: «Дачуўшыся аб шырокай беларускай рабоце ў Менску, Аляхновіч без нямецкага перапуска, пехатою, без гроша ў кішэні пусціўся ў дарогу. Пераапрануўшыся за фурмана, ён з нейкімі засцянковымі шляхцянкамі перабраўся цераз лінію старога фронту (каля Маладзечна) і, абарваны, босы, з ранамі на нагах, после васьмёхдзённай падарожы прыйшоў у Менск».

У Мінску і сапраўды справы ішлі лепш. У красавіку 1917 г. дзякуючы намаганням перш-наперш Ф. Ждановіча і У. Фальскага распачало працу Першае беларускае таварыства драмы і камедыі, якое перыядычна паказвала свае спектаклі. Прыход у гэты калектыў Ф. Аляхновіча прыкметна ажывіў яго дзейнасць. Тут ён ажыццявіў пастаноўку свайго «Бутрыма Няміры» і сыграў цэнтральную ролю, прытым з такім вялікім поспехам, што амаль адразу ж стаў знакамітым. Піша, ставіць новыя п'есы, выконвае ў іх розныя ролі.

Затым Францішак Аляхновіч арганізоўвае сваю трупу. Акрамя ўласных твораў, ён звяртаецца да «Паўлінкі» Я. Купалы. Два беларускія тэатральныя калектывы іншы раз творча супернічаюць, але найбольш як бы дапаўняюць адзін аднаго. Характэрна, што хор пад кіраўніцтвам У. Тэраўскага выступае паперамення з абедзвюма трупамі.

Неўзабаве пасля таго, як у снежні 1918 г. у Мінск уступілі часці Чырвонай Арміі, калектывы Ф. Ждановіча і Ф. Аляхновіча аб'ядналіся ў адзін Беларускі савецкі тэатр. «Тэатральная работа,— прыгадваў Ф. Аляхновіч,— у гэты час пачынаецца з шырокім размахам. Спектаклі ідуць па 3—4 у тыдзень. Праца кіпіць. Рэпетыцыі ідуць штодня, часта па два разы ў дзень. Аркестр прыгатаўляецца да самастойных канцэртных выступленняў і робіць рэпетыцыі з драматычнымі артыстымі п'ес, якія ідуць са спевамі. «Паўлінка» Купалы ў гэты час першы раз ідзе з акампанементам аркестра. Камісарыят народнай асветы багата субсідзіруе тэатр. Артысты з матэрыяльнага боку зябяспечаны. Рэпертуар узбагачаецца новымі творамі... Праектуецца сарганізаваць пяць (!) аб'язных драматычных дружын. Укладаецца план заснавання ў Менску драматычнай студыі дзеля падгатоўкі кадраў новых артыстаў тэатральнага мастацтва...»

Аднак далёка не ўсім планам і намерам наканавана было збыцца. Мінск неўзабаве трапіў пад акупацыю — на гэты раз белапольскую, і сцэнічная справа на нейкі час зусім глухне. У канцы 1919 г. Аляхновіч нанава арганізаваў калектыў. І хоць тэатр атрымліваў ад акупацыйных улад пэўную матэрыяльную падмогу, працаваць стала намнога цяжэй, чым раней. Паводле сведчання самога Ф. Аляхновіча, субсідыя выплочвалася неакуратна, у памяшканні гарадскога тэатра беларускай трупе дазвалялася выступаць толькі ў будзённыя дні. У літаральным сэнсе лютавала цэнзура. Так, былі забаронены да пастаноўкі «Модны шляхцюк» К. Каганца, «Паўлінка» і «Раскіданае гняздо» Я. Купалы, «Каліс» і «Бутрым Няміра» Ф. Аляхновіча. Да таго ж, трупе не дазвалялася выязджаць на гастролі ў правінцыю.

У 1920 г. Ф. Аляхновіч пакінуў Мінск і вярнуўся ў Вільню. Тут ён супрацоўнічаў у перыядычным друку, вёў рэдактарскую работу, займаўся драматургіяй, якая стала асноўнай ва ўсёй яго літаратурнай творчасці.

Пяру Аляхновіча належыць звыш 15 п'ес — твораў вельмі розных як памерам (шматактовыя, аднаактовыя), так і па жанрах (камедыя, фарс, драма, меладрама), па ахопу жыццёвага матэрыялу. Паводле класіфікацыі І. Дварчаніна, п'есы Аляхновіча дзеляцца на 4 асноўныя групы.

Першую з іх складаюць ў асноўным побытавага плану. Нарадзіўшыся і правёўшы амаль усё жыццё ў горадзе, Аляхновіч добра ведаў жыццё гараджан, местачкоўцаў. Яго ён і люструе ў сваіх п'есах, пачынаючы з першай, «На Антокалі» (назва прыгарада Вільні). У гэтым жа радзе — драматычныя рэчы «Манька» (другая рэдакцыя — «Дрыгва»), «Цені», «Шчаслівы муж». Нават тыя персанажы, якія з'яўляюцца выхадцамі з вёскі, пад пяром Аляхновіча набываюць найбольш характэрныя рысы гарадскога чалавека. Так што Францішка Аляхновіча па праву адносяць да пісьменнікаў горада, мястэчка. Прынамсі, з усіх нашаніўцаў ён у гэтым плане самы яркі прадстаўнік.

Да другой групы належаць творы рэвалюцыйнай тэматыкі. Тут перш-наперш трэба назваць двухактовую п'есу «Каліс». Падзеі яе разгортваюцца ў 1905—1906 гг. У гэты ж рэвалюцыйны час яны адбываюцца і ў купалаўскіх творах — абразку «На папасе» і драме «Раскіданае гняздо», якія напісаны раней, чым п'еса Аляхновіча. У абодвух творах Купалы паказаны вобраз Незнаёмага, чалавека, звязанага з рэвалюцыйнымі справамі. Але гэты вобраз вельмі рамантызаваны і не мае, так бы мовіць, рэальнай біяграфіі. У Аляхновіча ж малады рабочы Юрка Івашка, які вядзе рэвалюцыйную працу, пададзены ва ўсёй жыццёвай канкрэтыцы. У п'есе «Каліс» адлюстраваны і самі рэвалюцыйныя падзеі, і яе па праву можна назваць першым у беларускай драматургіі творам на рэвалюцыйную тэму.

Узняты на хвалях адраджэнцкага руху, сфарміраваны ім як творца, Францішак Аляхновіч раскрывае гэта ў драматургічных перса-

нажах. Вобразы адраджэнцаў сустракаем у камедыі «Пан міністр» і асабліва ў «Нясконачанай драме», у пэўнай ступені для Аляхновіча аўтабіяграфічнай. Прынамсі, героі жывуць у тых надзвычай складаных, драматычных абставінах, у якіх даводзілася існаваць і аўтару, а ўчынкі Васіля вельмі падобныя на тыя, што здзяйсняў сам Аляхновіч. «Нясконачаная драма», у якой закладзена шмат патрыятычных ідэй, займае цэнтральнае месца ва ўсёй тэатральнай спадчыне пісьменніка.

І, нарэшце, у чацвёртую групу ўваходзяць драматургічныя творы, напісаныя на матэрыяле літаратурных крыніц. Скажам, паводле казкі створана п'еса «Базылішк». Народная казка-сатыра на тэму «Гдзе чорт не йме, там бабу пашле», раней выкарыстаная Францішкам Багушэвічам, лягла ў аснову камедыі «Чорт і баба». Ф. Аляхновіч піша п'есы і на матэрыяле прафесійных твораў. Напрыклад, легенда В. Ластоўскага «Каменная труна» паслужыла фундаментам для п'есы «Бутрым Няміра». Часам выкарыстанне літаратурных крыніц у Аляхновіча вельмі своеасаблівае. Так, у п'есе «Птушка шчасця» сустракаюцца амаль даслоўныя рэплікі з «Камедыі» Каятана Марашэўскага. Вобразы таксама падобныя да сваіх папярэднікаў. А вось дзеянні, учынкі асоб зусім розныя. Драматург нібы бярэ гатовыя літаратурныя персанажы і вядзе іх новым кірункам. Маўляў, магло быць і так. У аднаактовай камедыі «Заручыны Паўлінкі», у эпіграфе да якой Ф. Аляхновіч пазначае: «Ахвярую Купале», аўтар выводзіць тых жа, што і ў «Паўлінцы», персанажаў, надае ім такую ж характарыстыку, у тым ліку і моўную. Аднак на гэты раз скарыстоўвае іншы драматургічны прыём. Ён прапаноўвае сваю версію: што адбудзецца, калі падзеі камедыі працягваць далей. Прытым гэтая версія грунтуецца на асаблівасцях характараў, логіцы дзеянняў, учынкаў герояў.

Увогуле ж драматургія Францішка Аляхновіча складае вялікі літаратурна-тэатральны абшар, закінуты і забыты. А п'есы заслугоўваюць і практычнага выкарыстання, і грунтоўных даследаванняў.

Пры ўсёй няроўнасці, а іншы раз і пэўнай спрэчнасці, яны заключаюць у сабе шмат агульнага, што характарызуе драматургію Аляхновіча. П'есам уласцівы глыбокі дэмакратызм, а часам і больш — народнасць. Яны вызначаюцца напружанасцю інтрыгі, дынамізмам дзеяння, сцэнічнасцю. Персанажы звычайна рэзка акрэсленыя, яны ўзмоцнена камедыйныя ці ўзмоцнена драматычныя або меладраматычныя. Творы, на першы погляд, простыя, бясхітрасныя, разлічаны на самага шырокага, у тым ліку і тэатральна малападрыхтаванага гледача. Многія з іх даюць магчымасць ствараць яркае сцэнічнае відовішча з выкарыстаннем музыкі, песень, танцаў. Усё гэта — не толькі асаблівасці ўласна драматургіі, а і шырэй — аляхновічскага тэатра, яго эстэтыкі.

У 1924 г. з друку выйшла параўнальна невялікая, але змястоўная кніжка «Беларускі тэатр». У ёй Ф. Аляхновіч даследуе гісторыю нашага нацыянальнага мастацтва ад народных вытокаў да савецкага перыяду. Другая частка працы, дзе ідзе гаворка пра мастацкія з'явы XX стагоддзя, бадай, асабліва каштоўная. Тут аўтар выступае і як непасрэдны сведка і ўдзельнік таго, што адбывалася на сцэнічных падмостках.

Кніга «Беларускі тэатр» як бы падрахоўвае па часе не вельмі працяглы, але самы плённы перыяд тэатральнай дзейнасці Францішка Аляхновіча.

Далейшае жыццё пісьменніка было надзвычай драматычнае. У 1926 г. Аляхновіч прыехаў у Мінск на акадэмічную канферэнцыю. Тут ён быў затрыманы, беспадстаўна абвінавачаны ў шпіянажы на карысць Польшчы, у 1927 г. асуджаны на 10 гадоў і сасланы на Салавецкія астравы.

Толькі ў 1933 г., здавалася б, зноў усміхнулася шчасце: на дамоўленасці з польскімі ўладамі Аляхновіча абменьваюць на Браніслава Тарашкевіча. Можна ўявіць сабе карціну абмену (аўтару гэтых радкоў у свой час даводзілася чуць такую легенду): з польскага боку выпускаюць Тарашкевіча і адначасна з савецкага — Аляхновіча. Яны, добра знаёмыя між сабою, ідуць адзін аднаму насустрач. І калі параўняліся, дык на колькі імгненняў прыпыніліся, і Аляхновіч кінуў: «Ты дарэмна туды ідзеш!» Ён меў права на гэтыя словы: як гаворыцца, на ўласнай шкуры спазнаў. Усё так і адбылося — праз колькі гадоў Тарашкевіча таксама беспадстаўна асудзілі і расстралялі.

Драматычныя творы Францішка Аляхновіча, як і раней, шырока ішлі на падмостках Заходняй Беларусі, іх з поспехам ігралі шматлікія аматарскія і паўпрафесійныя калектывы. Ставіліся яны і ў Латвіі, Чэхіі. (Дарэчы, заўважым, што п'есы Ф. Аляхновіча побач з творамі Я. Купалы, У. Галубка, Л. Родзевіча і некаторых іншых аўтараў часта выконваліся і выконваюцца тэатральнымі калектывамі беларускага зарубежжа). І гэта ў пэўнай ступені суцяшала аўтара, прыглушала боль яго цяжкіх ран. Бо, да ўсяго іншага, Аляхновіч пасля вяртання з лагераў застаў разбураную, зусім да яго пачужэлую сям'ю. Маючы рэпутацыю польскага шпіёна, ён адчуваў пэўнае адчужэнне і ад рэвалюцыйных, дэмакратычных колаў Заходняй Беларусі.

Словам, самі сітуацыі, абставіны штурхалі Аляхновіча ўсё больш перамяшчацца на правыя пазіцыі. (Як жа сталіністы ўмелі ды ўмеюць і цяпер рабіць з людзей дысідэнтаў!) Так ці інакш, але ў сярэдзіне 30-х гадоў ён выпусціў кнігу «У кіпцюрах ГПУ», расказаўшы пра тое, з чым сам сутыкнуўся ў жыцці. Гэта быў ці не першы ў свеце твор на «гулагаўскую» тэму. У Заходняй Еўропе і Амерыцы ён карыстаўся, улічваючы і палітычны аспект, надзвычайнай папулярнасцю, быў перакладзены і выдадзены на 7 мовах свету. У нашай жа краіне Аляхновіча залічылі ў лагер ярых антысаветчыкаў. Жыццёвыя дарогі катастрафічна звужаліся, кола замыкалася.

Пад час нямецкай акупацыі Францішак Аляхновіч жыў у родным для яго горадзе Вільні, з 1942 г. рэдагаваў газету «Беларускі голас», у 1943 г. завяршыў шматактовую, з сімвалічнай для свайго лёсу назвай п'есу «Круці, не круці — трэба памярці». З сакавіка 1944 г. Аляхновіч загінуў. Існуюць розныя версіі наконт яго смерці. Сцвярджаецца, што за супрацоўніцтва з фашыстамі яго завочна судзілі партызаны, і засланы ў горад разведчык выканаў гэты прысуд (па адных звестках,

Ф. Аляхновіч быў расстраляны проста ў рэдакцыі, па другіх — на кватэры). У артыкуле «Францішак Аляхновіч», які ў студзені 1990 г. апублікаваў беластоцкі тыднёвік «Ніва», даводзіцца, што «ён трагічна загінуў ад рукі невядомага тэрарыста ў нявысветленых абставінах». А прымаючы пад увагу неабачлівы, часам вельмі непакорлівы характар Аляхновіча, можна прапанаваць і трэцюю версію. У нейкі час ён не паладзіў і з немцамі, пайшоў ім насуперак. Вось яны і расквіталіся з Аляхновічам, а ў прапагандысцкіх мэтах абвінавацілі «партызанскіх бандытаў». Што ж, аналагічныя правакацыі мелі месца і ў іншых выпадках, з іншымі людзьмі.

На пахаванні Ф. Аляхновіча было многа народу: прысутнічалі прадстаўнікі інтэлігенцыі, вучні беларускай гімназіі, увогуле шмат грамадскасці. У 1989 г. стараннямі членаў Таварыства беларускай культуры ў Літве астанкі пісьменніка былі перанесены з вільнюскіх евангелічных могілак на могілкі Роса, перапахаваны на так званай Літаратурнай горцы.

Наспеў час усебакова даследаваць літаратурную спадчыну Ф. Аляхновіча, яго дзейнасць і ролю ў грамадскім і палітычным жыцці і даць гэтаму адпаведную ацэнку.

Анатоль САБАЛЕЎСКІ

# АРЫШТАВАНЫЯ ПЕРАКЛАДЫ

Як часам карысна пагартаць старыя выданні!

Памятаю, яшчэ студэнтам праседжваў я вечары ў нашай мінскай «Ленінцы», у беларускім аддзеле, абкладзены стосамі літаратурна-мастацкіх часопісаў 20—30-х гадоў. І «Полымя», і «Маладняк», і «Ўзвышша», і многае іншае можна было заказваць і чытаць напоўніцу. Гэта было ў часе «адлігі», што наступіла пасля XX з'езда КПСС. Праўда, студэнтам гэтыя выданні яшчэ не асабліва паказвалі («Зачытаеце да дзірак!»). Але мне бібліятэкары — хочацца сёння ім нізка пакланіцца! — здаецца, ніколі не адмаўлялі...

Аднойчы ў рукі трапіў здвоены, 5 і 6 нумар часопіса «Полымя» за 1930 г. з вялікай падборкай раней не публікаваных вершаў Янкі Купалы. У зносцы да публікацыі паэт указваў, што творы, якія друкуюцца, выпадкова збераглiся ў прыватным архіве (пазней я даведаўся: у архіве Б. І. Эпімаха-Шыпілы), у свой час не маглі ўбачыць свет у асноўным па цэнзурных меркаваннях. Падумалася: вершы, арыгінальныя і перакладныя, калісьці арыштавалі, а цяпер узялі ды выпусцілі на волю...

Былі сярод іх два пераклады з тады зусім невядомага мне ўкраінскага паэта Грыцька Чупрынкі. Здзівіла, што гэтыя пераклады не фіксаваліся ні ў адной з бібліяграфіяй твораў Янкі Купалы. Мне растлумачылі: Г. Чупрынка — «яры нацыяналіст», нават прозвішча яго нельзя ўпамінаць. А што Янка Купала перакладаў ягоныя творы ў 1908 г., дык тут не віна, а бяда перакладчыка: нацыяналістам Чупрынка стаў значна пазней, ужо ў час рэвалюцыі. Калі ж вінаваціць народнага паэта, то толькі за тое, што апублікаваў гэтыя пераклады ў 1930 г., бо тады ён, несумненна, ведаў, хто ёсць хто.

Мне параілі — пад сакрэтам — пачытаць артыкул «Грицько Чупринка» Максіма Багдановіча — у 2-м томе яго двухтомнага Збору твораў. Выданне гэтае тады толькі-толькі з'явілася ў свабодным фондзе. З артыкула не вынікала, што Чупрынка — нацыяналіст. Але ж, думалася, і артыкул напісаны яшчэ да рэвалюцыі, а чалавечы лёс — не роўная лінія, часам такія зігзагі робіць!...

У даступных тады для мяне ўкраінскіх выданнях таксама пра Чупрынку нічога не гаварылася.

Так і давялося ўзяць на веру тое, што нехта некалі сказаў, а пераклады Янкі Купалы і артыкул Максіма Багдановіча проста абыходзіць маўчаннем...

Сітуацыя змянілася ў сярэдзіне 80-х гадоў, з пачаткам перабудовы грамадска-палітычнай сітуацыі ў краіне, калі сляпая вера пачала замяняцца глыбокімі ведамі, калі прыйшлі да нас раней забароненыя імёны, арыштаваныя творы. Вяртаецца Грыцько Чупрынка ў гісторыю ўкраінскай літаратуры. Узнікла неабходнасць вярнуць чытачам і арыштаваныя пераклады Янкі Купалы.

Першы верш — «Песняру» — і ў арыгінале, і ва ўзнаўленні Янкі Купалы мае выразна праграмны характар:

Эй, ўжо годзе песень маркотных, пясняр!
  Дай волю парывам гарачым,
Вясёлым, прывабным, як сонейка жар,
  Каб бліснула яснасць і спячым!

Каб блiснулі іскры ў патухшых вачах
  І вечнай свабоды раздолле,
Каб кожны пачуў сваю сілу ў плячах,
  Каб кожны забыў аб нядолі!

Каб хлынула полымя праўды з грудзей,
  Што ў думках здаўна мы гадуем;
Старым і малым такой песняй запей —
  Хоць раз хай аб шчасці пачуем.

Другі верш Грыцька Чупрынкі (без назвы), які пераклаў на беларускую мову Янка Купала,— таксама грамадзянскага гучання і таксама аб прызначэнні паэта і паэзіі. Дарэчы, такіх

твораў у Чупрынкі, які «імкнуўся лепш адмежавацца ад драматычных супярэчнасцей жыцця, чым унікаць у іх і ў меру сваіх сіл гарманізаваць» (М. Жулінскі), не так ужо і шмат. Таму прыемна ўражвае такі Купалаў выбар твораў для перакладу.

Вось гэты пераклад:

Не каханак чарнавокіх,
Што скрозь сеюць дзіўны чар,—
Я — пясняр стэпоў шырокіх,
Краю вольнага пясняр!

Той, хто волю занядбае,
Хоць у золаце хай спіць,
Хоць царэўну хай кахае,
А не будзе ў шчасці жыць.

Хто забудзе край свой родны,
Аб такім так і пішы:
Ён — як дрэва корч нягодны:
Ні ў ім сэрца, ні душы.

Чым краем не шамоча
Ні няволя, ні бяда,
Хай жыве, як сабе хоча,—
Хоць як труцень, як нуда.

Хто ж маўчыць, чый край без волі
Стогне ў горы сіратой, —
Той благое зелле ў полі,
Між людзьмі скаціна той.

Упершыню, як я ўжо сказаў, купалаўскія пераклады вершаў Чупрынкі змясціла «Полымя» ў 1930 г. Апошні раз беларускія ўзнаўленні твораў украінскага паэта з'явіліся на старонках друку ў 1932 г.— у шостым томе Збору твораў Янкі Купалы. Гэта быў час, калі імя Грыцька Чупрынкі на Украіне або зусім не ўпаміналася, або ўпаміналася толькі ў адмоўным плане. Ці ведаў пра гэта народны паэт Беларусі? Думаецца, ведаў.І верыў, што Чупрынка ніякі не нацыяналіст, яго абылгалі «неистовые ревнители» ў час абвешчанага Сталіным абвастрэння класавай барацьбы. У яго ж, Янкі Купалы, у самога ў той час было такое ж кляймо «нацыяналіста», якое прыклеіў цёмнай памяці Бэндэ. Карыстаючыся недасведчанасцю мінскіх рэдактараў і цэнзараў, Янка Купала ўключыў пераклады вершаў Грыцька Чупрынкі ў свой Збор твораў. Не пабаяўся выклікаць не толькі магчымы гнеў, але і помсту розных бэндэ і падбэнднікаў.

Вячаслаў РАГОЙША

# І НАШЫХ ТРАПІЛА ТУДЫ НЯМАЛА...

1939 год — трагічны год, вынікі якога адгукаюцца і да сённяшняга дня. Фашысцкая ваенная махіна за два тыдні літаральна сцёрла нядрэнна аснашчаную польскую армію, рэшткі якой, адступаючы з баямі і без баёў на ўсход, раптам сустрэліся з магутным усходнім суседам. Прыйшлося скласці зброю і здавацца ў палон таму, з кім не ваявалі.

У адзін з такіх пераможаных, стыхійна створаных атрадаў, які налічваў каля 200 чалавек, давялося трапіць і мне. Амаль палову гэтага «злучэння» склалі маладыя (з адной зорачкай на пагонах, радзей — з дзвюма) афіцэры запасу. Гэта былі хлопцы мірных прафесій, у пераважнай большасці настаўнікі сельскіх школ з т. зв. «крэсаў усходніх» (Заходняй Беларусі). Сустрэў я там шмат знаёмых па вучобе ў Барунска-Віленскай настаўніцкай семінарыі, на Вышэйшых настаўніцкіх курсах пры Віленскім універсітэце, а таксама па сумеснай педагагічнай працы.

Некалькі слоў пра тое, як рыхтавалі ў тагачаснай Польшчы гэтых афіцэраў.

Юнака, які набыў сярэднюю адукацыю (гімназія, семінарыя, тэхнічная школа), бралі ў армію і залічвалі не ў звычайны полк, дзе праходзіла ваенную службу большасць грамадзян, а ў так званую «школу падхаронжых», прычым не на два гады, а на адзін. Там школілі на камандзіра ўзвода і пасля кароткіх вайсковых збораў прысвойвалі званне падпаручніка (малодшага лейтэнанта). Такімі афіцэрамі былі мае калегі, якіх я сустрэў у войску. Такі быў і я.

Узначаліў наш зборны атрад кадравы афіцэр, маёр, які, відаць, думаў яшчэ пра нейкае супраціўленне. Пад яго камандай аказаліся абоз са зброяй, каля паўсотні параконных і аднаконных фурманак, дзве гарматы на коннай цязе, некалькі станковых кулямётаў, вялікі запас гранат і вінтовак. Двое сутак мы ішлі на ўсход, праз лясы і бездараж, высылаючы ў розныя бакі невялікія патрулі. І вось у ноч з 17 на 18 верасня 1939 г. у глухой, пакінутай жыхарамі вёсачцы камандзір загадаў нам пастроіцца на выгане.

«Вайна канчаткова прайграна,— сказаў ён.— Ззаду немцы, спераду бальшавікі. Уладай старэйшага па званню я вызваляю ўсіх прысутных, апроч паноў афіцэраў, ад вайсковай прысягі. Адначасова загадваю звольненым неадкладна пакінуць наш лагер».

На гэта азваўся адзін з жаўнераў: «Мы згодны скласці зброю, але нас можа сустрэць які-небудзь патруль і аб'явіць дэзерцірамі. Дайце нам даведкі аб дэмабілізацыі». Маёр на хвіліну задумаўся, а пасля сказаў: «Добра, будуць вам пасведчанні». Ён рассяліў па некалькіх хатах афіцэраў і загадаў пісаць даведкі, а сам ставіў на іх подпіс і пячатку. Менш чым праз гадзіну ўсё было скончана і зноў быў паўтораны загад пакінуць вёску. Аднак жаўнеры пачалі разбрыдацца па хатах, апраўдваючыся, што не ведаюць, куды ісці.

Тады маёр, які вельмі хацеў адарвацца са сваім абозам ад вялікай грамады, паклікаў мяне ў хату і паказаў на карту: «Вазьміце пад сваю каманду салдат і правядзіце іх да шашы, вось сюды. Гэта кіламетраў 8—9 адгэтуль. Мы, афіцэры, рушым сваім маршрутам, а вас будзе тут чакаць матацыкліст».

З дапамогай іншых афіцэраў сабраў я соннае «войска» і павёў ледзь прыкметнымі сцежкамі праз хмызнякі і балоты да бальшака. Цемрадзь, слата... Можа, заблудзіліся? І калі ўжо страціў надзею знайсці шашу, каваныя боты загрукалі па бруку.

Вярнуўся назад на світанні, але ні абяцанага матацыкліста, ні каго іншага не застаў.

Прыйшлося самому шукаць выйсця з нечаканай сітуацыі. Вырашыў падацца ў бок Брэста. Спачатку ішоў адзін, але паступова такіх, як я, прыбывала, і пад полудзень цягнуліся па ўзбочынах дарогі ўжо сотні. Савецкія вайскоўцы праносіліся на танках і грузавіках то ў адзін бок, то ў другі і ўсіх польскіх жаўнераў скіроўвалі на Брэст. Адначасова з груп выбіралі афіцэраў. Іх ветліва, а то і пад прымусам забіралі ў машыны нейкія, відаць, спецыяльныя функцыянеры. Нашы радавыя спачатку зайздросцілі ім, маўляў, нам трэба дыбаць пехатой, а афіцэрам вунь якая пашана. Аднак памалу пачало закрадвацца ў душу сумненне...

Яшчэ перад тым, як весці салдат да шашы, я (так параіў адзін з сяброў) замяніў кіцель і шынель. Шынель мой быў з прапаленым крысом, а кіцель, узяты з капцёркі наўздагад, вісеў на мне, як на калку. А тут якраз маёр загадаў выгрузіць з фургонаў салдацкую вопратку, бялізну, абутак, працівагазы і іншае і, абліўшы бензінам, спаліць. Мы падышлі з Ясем Шыманскім, настаўнікам з Ашмяншчыны, да цюкоў, падрыхтаваных на знішчэнне, і пры святле вогнішча пераапрануліся ў зусім новае, прапахлае нафталінам абмундзіраванне. Тады я не надаў значэння, што мае новыя пагоны былі без адзнак, што на мне форма салдата, а пасля быў нават рады гэтаму: я нічым не вылучаўся з салдацкай масы.

Праз суткі брэсцкі вакзал не мог змясціць былых польскіх салдат, якіх увесь час прыбаўлялася. Цягнікі ж не хадзілі, і ніхто не ведаў, калі пойдуць. Аж уночы з'явілася некалькі таварных эшалонаў, у якія нам загадалі грузіцца. Гэта былі неабсталяваныя цялятнікі, у якія ўціснулі па 80 чалавек. Нам аб'явілі, што давязуць да Баранавіч, там выдадуць адпаведныя дакументы і распусцяць па хатах. Аднак ні ў Баранавічах, ні ў Стоўбцах нікога не выпусцілі, затое ў Негарэлым перагналі ў савецкія вагоны і павезлі далей.

Ехалі мы ў такой цеснаце, што маглі ляжаць на падлозе толькі бокам і паварочваліся па камандзе ўсе разам. Сядзець можна было толькі падкурчыўшы ногі. Так прамінулі мы Мінск, Оршу, Смаленск, Маскву, Горкі і Арзамас. Кармілі нас салёнай траской і сухарамі. Рассуне канвой дзверы вагона, крыкне: «Посторонись!» — і кіне на падлогу з вялікае міскі кучу парэзанай на кавалкі рыбы, а праз некаторы час з'явіцца зноў і гэтак жа «выдасць» сухары. Гэта быў наш сутачны паёк. Як мы дзялілі і спажывалі гэты харч, нікога не цікавіла; нікога не кранала і тое, што мы смяртэльна пакутавалі ад смагі. На прыпынках, падцягнуўшыся да закратаванага акна і прасунуўшы 2—3 салдацкія кацялкі, мы вымольвалі ў заўважаных паблізу людзей вады. Найчасцей яны не адмаўлялі нам, але ж эшалон быў такі даўжэзны і не заўсёды спыняўся недалёка ад вадакачкі. І, урэшце, што значыла тая кропля вады на вагон засмяглага люду, што млеў ад пакут? Многія з нас пачалі хварэць на нястраўнасць, у вагоне запанавалі бруд і смурод, з'явіліся небывалай велічыні і ў незлічонай колькасці вошы...

Калі-нікалі на прыпынках нам загадвалі выходзіць з вагонаў і апраўляцца тут жа, паміж рэйкамі, пад строгім наглядам канваіраў, узброеных вінтоўкамі са штыкамі. Адбывалася ўсё перад вачыма людзей, што былі на станцыі. Так везлі нас увесь кастрычнік.

І вось дзесьці за Арзамасам, на малым паўстанку ці раз'ездзе Шоніха, зрабілі ўсім уначы допыт, а на раніцу больш за палову людзей пастроілі ў даўжэзную калону і пад моцным канвоем пагналі ў невядомым напрамку. А нас у той жа дзень, пад вечар, дапоўнілі польскімі вайскоўцамі, прыгнанымі з нейкага, як нам казалі, манастыра. Яны расказвалі, што там засталося шмат афіцэраў і малодшага саставу, а ўмовы былі жудасныя.

Мабыць, нам надта пашанцавала — нас павезлі назад на захад. Павезлі у тых самых вагонах, але ўжо без канвою, затое не кармілі. Свабодны, дык і шукай, што зможаш!

Каб ратавацца ад голаду (са мной аказаліся два землякі з Вішнева, з якімі разам хадзіў у школу), мы прадалі свае рамяні, памянялі шынялі на паношаныя ватоўкі і такім чынам дабраліся да Баранавіч, а адтуль «зайцамі» ў пасажырскім цягніку трапілі дамоў. Вярнуўся я да сваіх на пачатку лістапада, брудны, аброслы дзед, якога не адразу пазналі родныя дзеці.

У 1942 г. трапіла мне ў рукі польская газета «Гонец цодзенны», якая выходзіла ў акупіраванай фашыстамі Вільні. У газеце я ўбачыў вялікі артыкул з фатаграфіямі, які апавядаў пра раскопкі ў Катыні пад Смаленскам, на месцы масавых расстрэлаў польскіх афіцэраў. На падставе знойдзеных у могільніку дакументаў (пісьмаў, фатаграфій, пасведчанняў, паштовак, малітоўнікаў і інш), было ўстаноўлена шмат прозвішчаў. На мой вялікі жах, і я там знайшоў шмат знаёмых прозвішчаў. Гэта былі імёны тых, з кім я расстаўся ў глухой, пакінутай жыхарамі вёсцы. Запомніліся такія:

**Багуслаўскі Казімір,** з м. Вішнева Валожынскага павета, настаўнік (разам з ім я скончыў настаўніцкую семінарыю, сядзеў на адной парце);

**Шынкевіч Бернард,** школьны настаўнік з в. Сугвазды Валожынскага павета, ураджэнец в. Шуловічы Вішнеўскай гміны (скончыў Віленскую настаўніцкую семінарыю);

**Каляда Уладыслаў,** з м. Вішнева, настаўнік у в. Заполле былой Карэліцкай гміны (скончыў Віленскую настаўніцкую семінарыю);

**Урбановіч Адам,** з в. Новая Вілейка, настаўнік Ярэміцкай сямігодкі, былой Турэцкай гміны, Стаўбцоўскага павета (скончыў Віленскую настаўніцкую семінарыю);

**Флярыяновіч Ян,** з Нясвіжскага павета, дырэктар школы ў в. Лядкі, Турэцкай гміны, Стаўбцоўскага павета (скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю);

**Сарока Эдвард,** з Ашмянскага павета, настаўнік у Пагарэльцах, Баранавіцкага павета (скончыў Віленскую настаўніцкую семінарыю, мой аднакурснік);

**Мурза-Мурзіч Аляксандр**, з г. Навагрудка (арыенталіст, студэнт апошняга курса Варшаўскага універсітэта, па нацыянальнасці татарын).

Апроч гэтых блізкіх маіх сяброў і знаёмых, я знайшоў там шмат іншых прозвішчаў, якія маглі быць прозвішчамі маіх калег: Бараноўскі, Навіцікі, Маслоўскі, Казлоўскі, Чапроўскі, Драчынскі і іншыя, але, на жаль, гэта былі толькі прозвішчы, без ніякіх удакладненняў.

Пазней з іншых (польскіх) крыніц я даведаўся, што ў Катыні загінулі і іншыя нашы землякі: Палуян, інжынер з г. Ашмяны; Гадлоўскі, прафесар кафедры псіхіятрыі Віленскага універсітэта імя Стэфана Баторыя; Козел-Паклеўскі, уладальнік звераферме ў Вілейскім павеце; Тышынскі з Маладзечанскага павета — ды ўсіх цяжка цяпер успомніць.

Як піша прафесар Віленскага універсітэта Станіслаў Сваневіч (часопіс «Кантрасты»), які цудам пазбегнуў там смерці, палякі былі перавезены ў Катынь з Казельскага лагера, які размяшчаўся ў манастыры «Оптина пустынь». 24 снежня 1939 г. адтуль былі вывезены і зніклі бясследна ўсе капеланы, а першы ліквідацыйны транспарт з польскімі афіцэрамі адбыў 3 красавіка 1940 г. Значная частка гэтых людзей была зняволена ў Асташкаве і Старабельску, лёс іх яшчэ канчаткова не высветлены.

Я ж ад Катыні выратаваўся цудам — і памятаю гэта ўсё сваё жыццё.

**Пятро БІТЭЛЬ**

---



**Я. Кулік.** Касцёл у Гнезне, XVI ст. З серыі «Помнікі дойлідства Гродзеншчыны». Лінарыт, 1974 г.

# ЗАСЛУЖАНЫ ПРАФЕСАР БЕЛАРУСІ



У. Пічэта. 1906—1910 гг.

Учытайцеся ў радкі гэтага жыццёвага настаўлення:

«Маёй Ксянюрцы!

Яшчэ трошкі часу, і ты пачнеш свой самастойны жыццёвы шлях. Я хачу, каб ты была маладая, каб радасць яркім сонечным святлом асвятляла тваю пяшчотную душу; я хачу, каб ты была моцная і вытрымала націск дзевятага вала жыццёвага шляху. Я хачу, каб ты смялялася, каб гора і смутак не азмрочвалі твайго жыцця. Хай будзе яно светлае... Будзь смелая, настойлівая ў дасягненні шчасця і цвёрдая ў смутку. Адганяй чорную тугу: яна старыць і сушыць сэрца, гавары заўсёды: «Хай будзе радасць у жыцці!» Гучна крычы: «Няхай жыве жыццё!» Будзь заўжды маладая. Ніколі не схіляй сваёй галоўкі да зямлі і не ўздымай яе да неба. Глядзі проста перад сабой, пільна і ўважліва, і ты знойдзеш правільны шлях у жыцці. Хаця ты яшчэ расцеш і толькі становішся дарослай, набірайся маладосці і бадзёрасці для доўгага жыцця... З маладой душой можна ўсё перанесці.

Уставай рана на досвітку. Хай сонца сваім прывітаннем абудзіць цябе... Ты маладая, твая будучыня наперадзе. Ты будзеш бачыць новае жыццё. Ты яшчэ паваюеш!

18 мая 1921 г.
Бацька».

У 20-х гадах нашага стагоддзя імя чалавека, які напісаў такія светлыя, шчырыя словы, было добра вядомае. Уладзімір Іванавіч Пічэта — доктар рускай гісторыі, прафесар Маскоўскага універсітэта, першы рэктар і прафесар Беларускага дзяржаўнага універсітэта, заснавальнік беларускай савецкай гістарычнай навукі, адзін з ініцыятараў стварэння Беларускай Акадэміі навук і адзін з першых яе правадзейных членаў.

Не проста склаўся жыццёвы шлях гэтага выдатнага беларускага вучонага, якому першаму ў рэспубліцы было прысвоена ганаровае званне «Заслужаны прафесар БССР».

Пічэта зацікавіўся беларускай культурай яшчэ да Кастрычніцкай рэвалюцыі. Ён падтрымліваў сяброўскія сувязі з Янкам Купалам, з 1915 г. быў асабіста знаёмы з Максімам Багдановічам.

Цяжка пераацаніць заслугі У. І. Пічэты як гісторыка беларускай культуры, як прапагандыста і папулярызатара нацыянальнай мовы і літаратуры ў час яго працы ў Маскве ў 1918 г. і пазней у Беларусі. Гэта былі гады найбольш плённай дзейнасці вучонага.

Пічэта выступаў з лекцыямі па беларускай гісторыі ў Польшчы, Чэхаславакіі, Германіі, Нарвегіі. У час адной з навуковых камандзіровак у 1923 г. У. І. Пічэта сустрэўся ў Празе з вядомым дзяржаўным дзеячам, міністрам замежных спраў Чэхаславакіі Эдуардам Бенешам, які праз шмат год дапамог вучонаму пазбегнуць нягод сталінскай ссылкі.

З 1920 г. Пічэта працаваў у якасці навуковага супрацоўніка і сакратара ў арганізаванай пры Народным камісарыяце замежных спраў камісіі для вывучэння этнаграфічнага складу асобных тэрыторый Літвы і Беларусі. У верасні гэтага ж года яго запрасілі экспертам у дэлегацыю, што накіроўвалася ў Рыгу для мірных перагавораў з Польшчай. Пасля стварэння ў 1921 г. польска-савецкай камісіі пад кіраўніцтвам П. Л. Войкава для выканання ўмоў Рыжскага мірнага дагавора Уладзімір Іванавіч актыўна ўдзельнічаў у яе рабоце. У 1922 г., калі ў Маскве пры НКЗС РСФСР была створана літоўска-савецкая камісія па архіўных справах, Пічэта займаўся пытаннямі Літоўскай Метрыкі, з-за якой спрачаліся прадстаўнікі РСФСР, Літвы і Польшчы. Метрыка засталася на тэрыторыі РСФСР.

Асабліва вялікае значэнне надаваў У. І. Пічэта падрыхтоўцы ў Беларусі высокакваліфікаваных нацыянальных кадраў. Менавіта па яго ініцыятыве на выкладчыцкую работу ў

Беларускі дзяржаўны універсітэт былі запрошаны гісторыкі У. М. Ігнатоўскі, А. А. Савіч, Ф. Ф. Турук, В. Д. Дружыц, А. А. Сянкевіч, пісьменнікі Якуб Колас і Максім Гарэцкі, мовазнаўцы Я. Ю. Лёсік, С. М. Некрашэвіч, географы А. А. Смоліч і Я. С. Канчар, літаратуразнаўца М. М. Піятуховіч і іншыя.

Уладзімір Іванавіч быў адным з ініцыятараў стварэння ў 1928 г. Акадэміі навук БССР і на першых выбарах 26 снежня быў абраны яе сапраўдным членам.

Але ў канцы 20-х гадоў на жыццёвым небасхіле У. І. Пічэты з'явіліся чорныя хмары.

У 1926 г. Інстытут беларускай культуры па ініцыятыве старшыні гісторыка-археалагічнай секцыі, правадзейнага члена Інбелкульта Пічэты выпусціў юбілейны зборнік, прысвечаны 400-годдзю з'яўлення друкаванай кнігі на Беларусі. Пічэта быў і старшынёй рэдакцыйнай калегіі выдання. У кнігу ўвайшлі яго артыкулы «Полацкая зямля ў пачатку XVI стагоддзя», «Беларускае адраджэнне ў XVI стагоддзі», «Друк на Беларусі ў XVI і XVII стагоддзях», «Scoriniana». У матэрыялах зборніка расказвалася пра дзейнасць вялікага беларускага асветніка Францыска Скарыны, які на некалькі дзесяцігоддзяў апярэдзіў у кнігадрукаванні Івана Фёдарава. Гэтага аказалася дастаткова, каб праз два гады сакратар ЦК Кампартыі Беларусі В. Г. Кнорын у сваім артыкуле «Аб рашаючых дробязях у вялікім пытанні» падкрэсліў: «Для пралетарыяту права на беларускую мову вынікае зусім не з таго, што жыў і працаваў на беларускай мове сярэдневяковы манах Скарына, а ад рэвалюцыйнага раўнапраўя ўсіх народаў».

У адзін з восеньскіх дзён 1929 г. у прыёмную АДПУ БССР прыйшоў наведвальнік — на выгляд гадоў пяцьдзесят, у руках кіёчак, на носе пенснэ. Звяртаў на сябе ўвагу модны гальштук. «Рэктар Беларускага універсітэта прафесар Пічэта,— адрэкамендаваўся ён дзяжурнаму.— Мне хацелася б пабачыць старшыню АДПУ...» — «Яго зараз няма,— адказаў дзяжурны.— А па якой Вы справе?» — «У нас ва універсітэце ў апошнія дні арыштавалі некалькі дзесяткаў выкладчыкаў, а цяпер зрываюцца заняткі. Я не ведаю, што рабіць».

Пра гэты выпадак мне расказваў акадэмік АН БССР В. А. Сярбента, які працаваў у той час дырэктарам Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б. У канцы нашай гутаркі ён дадаў, што многія тады лічылі Пічэту вельмі наіўным чалавекам.

Чым жа скончыўся візіт рэктара? Грубай вымовай намесніка старшыні АДПУ: «Вы што надумалі? Прыйшлі абараняць ворагаў народа, контррэвалюцыянераў, нацыяналістаў?» Неўзабаве У. І. Пічэта быў вызвалены ад пасады рэктара Беларускага дзяржаўнага універсітэта, якую займаў з ліпеня 1921 г.

У пачатку 1930 г. У. І. Пічэта атрымаў камандзіроўку для працы ў архівах Масквы і Ленінграда. У Маскве акадэмік М. К. Любаўскі, даведаўшыся, што Уладзімір Іванавіч збіраецца ехаць у Ленінград, папрасіў перадаць ліст акадэміку С. Ф. Платонаву. Пічэта выканаў просьбу, не ведаючы зместу ліста, а таксама таго, што за Платонавым даўно ўжо сочаць работнікі АДПУ. Пасля арышту Платонава за акадэмікам АН БССР, прафесарам БДУ



Сярэдзіна 30-х гадоў.

У. І. Пічэтам таксама пачынаюць сачыць.

У студзені 1930 г. у Ленінградзе арыштавалі акадэмікаў М. П. Ліхачова, Я. В. Тарле і іншых вядучых гісторыкаў АН СССР. У жніўні — верасні 1930 г. у Маскве арыштавалі прафесара Маскоўскага універсітэта, акадэміка М. К. Любаўскага, члена-карэспандэнта АН СССР Ю. У. Гацье і іншых. Нарэшце 13 верасня 1930 г. у Мінску ўзялі У. І. Пічэту.

Па «справе» Платонава-Багаслоўскага (акадэміка, які памёр у красавіку 1921 г. і якога следчыя АДПУ выстаўлялі кіраўніком групы маскоўскіх гісторыкаў.— Э. І.) праходзіла 115 чалавек. Сярод іх было шмат прафесараў, якія выкладалі ў вышэйшых навучальных установах Ленінграда, Свярдлоўска, работнікаў АН СССР, спецыялістаў народнай гаспадаркі. Усім былі прад'яўлены стандартныя для таго часу абвінавачанні ў сувязях з прадстаўнікамі белай эміграцыі, з замежнымі грамадскімі і дзяржаўнымі дзеячамі «з мэтай схілення з іх дапамогай урадаў гэтых дзяржаў да хутчэйшага здзяйснення планаў інтэрвенцыі супраць СССР». Пічэту абвінавацілі яшчэ і ў вялікадзяржаўным шавінізме, беларускім буржуазным нацыяналізме і празаходняй арыентацыі.

Больш за год працягвалася следства. Але да публічнага працэсу справа не дайшла. Ва ўмовах сацыялістычнага будаўніцтва роля і значэнне АН СССР узрасталі, і публічнае шальмаванне яе было немэтазгоднае. Таму пытанне вырашылі пастановай Калегіі АДПУ ў паза-

судовым парадку. Нягледзячы на грозныя абвінавачанні, выстаўленыя супраць арыштаваных вучоных, прысуд для большасці аказаўся адносна мяккі —5 гадоў ссылкі.

Кіраўнік «змовы» Платонаў, а таксама Гацье ў жніўні 1931 г. былі высланы ў Самару, Тарле — у Алма-Ату, Пічэта — у Вятку. Там Уладзімір Іванавіч стаў нарміроўшчыкам, а потым табельшчыкам у адным з гарадскіх кааператываў грамадскага харчавання.

Невядома, колькі б знаходзіўся ў ссылцы прафесар Пічэта, калі б не адзін выпадак, пра які ў 1970 г. расказала мне жонка вучонага, Аляксандра Пятроўна Пічэта.

«Быў пачатак чэрвеня 1934 г. У Маскву прыехаў міністр замежных спраў Чэхаславакіі Эдуард Бенеш. У выніку перагавораў з савецкімі дыпламатамі ён ад імя свайго ўрада 9 чэрвеня 1934 г. падпісаў дагавор аб прызнанні СССР дэ-юрэ і аб устанаўленні з ім дыпламатычных адносін. Э. Бенеша прыняў Сталін. Той быў у добрым настроі і ў канцы гутаркі спытаў у міністра: «Што б вы хацелі паглядзець у нашай краіне, з кім хацелі б сустрэцца?» І тады Бенеш нечакана сказаў: «Я хацеў бы сустрэцца з вядомым вучоным-славістам прафесарам Пічэтам, а то ў нас у Чэхаславакіі ходзяць чуткі, што ён арыштаваны і яго нават няма ў жывых».

Сталін загадаў, каб прафесара Пічэту неадкладна прывезлі на сустрэчу з Бенешам. Памочнік Сталіна І. П. Таўстуха пазваніў у Мінск, і яму паведамілі, што прафесар У. І. Пічэта арыштаваны яшчэ ў 1930 г. і цяпер невядома, дзе ён знаходзіцца. Тады Сталін загадаў старшыні АДПУ Г. Ягоду: «Неадкладна знайдзіце прафесара Пічэту і прывязіце яго ў Маскву».

У Вятку тэрмінова на спецыяльным самалёце накіраваліся два работнікі АДПУ з заданнем прывезці прафесара. У Маскве Уладзіміру Іванавічу выдалі фальшывае пасведчанне члена-карэспандэнта АН СССР (у сапраўднасці У. І. Пічэта быў выбраны членам-карэспандэнтам АН СССР праз 5 гадоў, у 1939 г.— Э.І.) і сказалі: «Калі вас спытаюць, дзе Вы знаходзіліся, то адкажыце: далёка ад Масквы, у працяглай навуковай камандзіроўцы». Пічэта выглядаў стомленым, быў у рабочай вопратцы. Яго крыху падкармілі, апранулі ў добры касцюм, і праз два дні адбылася яго сустрэча з міністрам замежных спраў Чэхаславакіі. На адно з пытанняў Бенеша аб ацэнцы яго навуковых даследаванняў у СССР Уладзімір Іванавіч адказаў, што яго толькі нядаўна выбралі членам-карэспандэнтам АН СССР».

Пасля вяртання ў Прагу Эдуард Бенеш на прэс-канферэнцыі для чэхаславацкіх і замежных журналістаў, прыгадваючы свае сустрэчы ў Савецкім Саюзе, сказаў, што сустракаўся з вядомым савецкім вучоным-славістам прафесарам Пічэтам. «Чуткі аб яго арышце і гібелі, на шчасце, не пацвердзіліся»,— заявіў Бенеш.

Што ж было з Уладзімірам Іванавічам пасля сустрэчы з Бенешам? У верасні 1934 г. яго перавялі ў Варонеж, дзе ў 1934—1935 навучальным годзе ён працаваў прафесарам Варонежскага педагагічнага інстытута і чытаў лекцыі па курсу гісторыі СССР. Вось што пісаў Пічэта пазней у сваёй аўтабіяграфіі: «У выніку таго, што мая справа была перагледжана, я быў

У. Пічэта сярод прафесуры БДУ. 1922 г.



вызвалены датэрмінова 26 красавіка 1935 г. і, атрымаўшы пашпарт, пераехаў у Маскву».

Па ініцыятыве У. І. Пічэты ў 1939 г. на гістарычным факультэце МДУ была створана кафедра гісторыі паўднёвых і заходніх славян, якую ён і ўзначаліў.

Некалькі гадоў назад у аддзеле рэдкай кнігі Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна я знайшоў рукапіс кнігі «Гісторыя Беларусі» ў двух тамах, які ахоплівае перыяд з найстаражытных часоў да адмены прыгоннага права. Праца была напісана ў 1939—1940 гг. З 990 старонак машынапіснага тэксту 664 старонкі напісаны У. І. Пічэтам. Па невядомых прычынах рукапіс кнігі «Гісторыя Беларусі» так і не быў апублікаваны.

Многія працы Уладзіміра Іванавіча па гістарыяграфіі, гісторыі Беларусі эпохі феадалізму і капіталізму не страцілі і сёння сваёй навуковай каштоўнасці. Друкуючы цяпер артыкул Пічэты «Чарговыя пытанні беларускай гістарыяграфіі» (1922), мы звяртаем увагу на неабходнасць глыбокага вывучэння навуковай спадчыны вучонага. Неабходна вярнуць гэтую спадчыну і светлае імя Уладзіміра Іванавіча Пічэты беларускаму народу.

**Эмануіл ІОФЕ**

*Уладзімір ПІЧЭТА*

# ЧАРГОВЫЯ ПЫТАННІ БЕЛАРУСКАЙ ГІСТАРЫЯГРАФІІ

Вывучэнне гісторыі беларускага народа — чарговая задача гістарычнай навукі. Гісторыя Беларусі, як самастойны навуковы аб'ект, да гэтай пары амаль ніколі не была прадметам навуковай увагі ўсіх тых даследчыкаў, што закраналі гістарычныя лёсы тэрыторыі, на якой даводзілася жыць і дзейнічаць беларускаму народу. Гісторыя беларускай тэрыторыі разглядалася або як адна з састаўных частак Кіеўскай дзяржавы, або як дамінуючая частка ў складзе літоўска-беларускай дзяржавы, або як непадзельная частка Расійскай імперыі. Пры такім суб'ектыўным поглядзе на гістарычныя лёсы беларускага народа апошнія ніколі не мелі самастойнага характару, не былі цэнтральным аб'ектам даследчыцкай увагі, таму гісторыя беларускага народа да гэтага часу не выяўлена гэтак жа дакладна і наглядна, як гісторыя ўкраінскага і велікарускага народаў. Кіеўская школа гісторыкаў на чале з нябожчыкам У. Б. Антановічам шмат зрабіла для вывучэння састаўных частак Кіеўскай дзяржавы. Працы праф. М. В. Доўнар-Запольскага, П. В. Галубоўскага, Д. Я. Данілевіча, Д. І. Багалея тычыліся гістарычных лёсаў тэрыторыі, на якой жылі гістарычным жыццём палачане, дняпроўскія крывічы, дрыгавічы, але ўсе змены ў дарожным жыцці апошніх разглядаліся даследчыкамі толькі на агульным фоне палітычных лёсаў Кіеўскай дзяржавы. Такую пастанову пытання можна прызнаць правільнай у метадалагічных адносінах толькі часткова. Калі для даследчыка асноўная задача — вывучэнне зменлівых лёсаў Кіеўскай дзяржавы, то гістарычныя перамены ў жыцці Полацкай, Смаленскай і Дрыгавіцкай зямель могуць цікавіць яго толькі таму, што дазваляюць у больш выразным выглядзе выявіць структуру Кіеўскай дзяржавы. Між тым, уваход беларускіх зямель у склад Кіеўскай дзяржавы аказваў тое ці іншае ўздзеянне на іх палітычныя лёсы, у той жа час ніколькі не паралізаваў унутранага жыцця кожнай вобласці паасобку, што і з'явілася асноваю вылучэння беларускіх тэрыторый са складу Кіеўскай дзяржавы ў момант распаду апошняй. Калі кіеўская школа гісторыкаў пры вывучэнні састаўных частак Кіеўскай дзяржавы ў большай ці меншай ступені лічылася з адноснай адасобленасцю абласцей нават у момант уваходжання апошніх у склад агульнай дзяржавы, то гісторыкі-юрысты пецярбургскай і маскоўскай школ, як В. І. Сугавіч і інш., у сваім захапленні дагматычным мысленнем шукалі ў арганізацыі грамадскіх і палітычных устаноў толькі тыповыя для кіеўскага перыяду формы і з'явы. Пры такім дагматычным метадалагізме гісторыкам-юрыстам заставалася зусім незразумелай адметнасць палітычнага жыцця беларускіх абласцей, таму і юрыдычная прырода Кіеўскай дзяржавы паказана апошнімі ў дастатковай ступені вузка і аднабакова.

Нават такі тонкі даследчык, як В. В. Ключэўскі, захоплены універсалізмам Кіеўскай дзяржавы, не палічыў магчымым прыняць да ўвагі ўсёй даследчыцкай работы кіеўскай школы гісторыкаў, дзякуючы чаму агульная структура Кіеўскай дзяржавы паказана больш чым аднабакова. Аднак погляды В. В. Ключэўскага запанавалі ў маскоўскай школе гісторыкаў, за выключэннем прац М. К. Любаўскага, які ў сваім курсе па старажытнай рускай гісторыі больш лічыцца з адасобленым станам абласцей былой Кіеўскай дзяржавы. Іншая пастаноўка пытання з'яўляецца цалкам непрымальнай у такіх выпадках, калі даследчык падыдзе да вывучэння беларускіх зямель, маючы на ўвазе выключнасць гісторыі беларускага народа. Нельга, вядома, адмаўляць таго, што аднабаковыя меркаванні прадстаўнікоў пецярбургскай і маскоўскай школ выкліканы не толькі традыцыямі той гісторыка-юрыдычнай школы, якая яшчэ не адышла ў сферу паданняў, але тым, што цэнтралістычна настроеныя даследчыкі бачылі ва ўсіх складаных славянскіх этнаграфічных фарміраваннях толькі адзіны «рускі народ», гісторыю

якога яны ўяўляюць як няўхільнае і сістэматычнае імкненне да нацыянальнага адзінства пад уладай нашчадкаў Маскоўскай дзяржавы. У наш час этнаграфічны манізм скончыўся. Толькі своеасаблівая наіўнасць у ацэнцы нацыянальна-культурнага руху асобных народаў прымушае некаторых даследчыкаў да гэтай пары трымацца старога, якое ўжо не існуе, уяўлення пра нацыянальны манізм у гісторыі велікарускага народа. Час ужо расстацца з гэтымі яўна метафізічнага паходжання тэорыямі і правесці грандыёзную рэвізію ўсіх вынікаў папярэдняй даследчыцкай працы. Такая пераацэнка ўсіх гістарычных каштоўнасцей патрабуе пэўнай мужнасці, бо занадта мы прывыклі падпарадкоўвацца меркаванням аўтарытэтных гісторыкаў і юрыстаў. Велізарны нацыянальна-культурны зрух, які адбыўся ў жыцці беларускага народа, уладна настойвае на такім крытычным пераглядзе меркаванняў і думак, спадзяюся, дастаткова абгрунтаваных і агульнапрызнаных у навуцы. Такая рэвізія была фактычна распачата яшчэ задоўга да рэвалюцыі. Ініцыятарамі яе з'явіліся М. С. Грушэўскі ў сваёй «Гісторыі Украіны і Русі» і пецярбургскі вучоны А. Я. Праснякоў. Рэвізіянізм М. С. Грушэўскага прайшоў незаўважаным для маскоўскай і пецярбургскай гістарычнай і гісторыка-юрыдычнай школ. Апошнія былі мала праінфармаваны ў напрамку і ў стане ўкраінскай гістарыяграфіі, а часам зусім яе ігнаравалі, таму што высновы апошняй разыходзіліся з трафарэтнымі меркаваннямі маскоўскай і пецярбургскай школ. Тым цікавейшы рэвізіянізм А. Я. Праснякова. Праўда, з яго рэвізіяніcцкімі метадалагічнымі прыёмамі пагадзіцца цяжка, але характэрна тое, што буйны прадстаўнік пецябургскай гістарычнай школы навуковага рэалізму знайшоў неабходным і своечасовым перагляд традыцыйных поглядаў. А. Я. Праснякоў меў мужнасць прызнаць правільнасць поглядаў М. С. Грушэўскага ў ацэнцы ўзаемаадносін Кіеўскай і Растова-Суздальскай абласцей, што рэзка разыходзілася з паланізатарскай тэорыяй В. В. Ключэўскага. На жаль, на пазіцыю А. Я. Праснякова гісторыкі не звярнулі ўвагі. Між тым пытанняў, якія патрабуюць рэвізіянізму, шмат.

Асноўнае з іх — гэта пытанне аб тым, ці можна гаварыць і пісаць пра гісторыю беларускага народа як пра самастойнае цэлае, а не толькі як адпаведную частку Кіеўскай дзяржавы. Ранейшая цэнтралістычна пабудаваная гістарыяграфія заўсёды давала на гэтае пытанне адмоўны адказ, сцвярджаючы, што славяне, якія займалі тэрыторыю створанай пазней беларускай народнасці, ні ў адным моманце свайго дзяржаўнага быцця не жылі самастойным жыццём, а былі толькі часткай больш значных дзяржаўных комплексаў. Гісторыкі, якія адважваліся гаварыць і пісаць пра гісторыю беларускага народа як пра факт самастойнага характару, выклікалі ў цэнтралістычна настроенай гістарыяграфіі рэзка адмоўнае стаўленне да сябе.

Вядома, правільна, што выяўленне этнаграфічных асаблівасцей беларускага народа — факт адносна позняга паходжання (XIII ст.), але ж і ўзнікненне велікарускай народнасці адносіцца да параўнальна позняга часу, што ніколькі не перашкаджае даследчыкам вывучаць даўнюю гісторыю велікарускага племені. Беларуская тэрыторыя ўваходзіла ў склад Кіеўскай дзяржавы. У далейшым яна адасобілася ад Кіеўскай дзяржавы, і беларускія землі існавалі як самастойныя палітычныя арганізмы, звязаныя не палітычнымі адносінамі, а агульнасцю эканамічных інтарэсаў. Для гісторыі беларускага народа ўваходжанне яго тэрыторыі ў склад Кіеўскай дзяржавы — толькі адзін з момантаў палітычнага жыцця. Этнічна беларуская народная маса чысцейшая ў параўнанні з украінскай і велікарускай. Паводле свайго этнічнага складу беларусы адрозніваюцца ад усіх іншых этнічных фарміраванняў, і гэта з'яўляецца фундаментам для стварэння гісторыі беларускага народа, які з-за розных палітычных умоў і адносін не змог утрымаць сваё самастойнае нацыянальна-палітычнае быццё. У геаграфічных адносінах тэрыторыя, якую заняў беларускі народ, адасоблена басейнамі рэк у самастойны раён, які паводле характару сваёй глебы, клімату і прыродных багаццяў адрозніваецца ад тэрыторый украінскай і велікарускай народнасцей. Ужо адным гэтым геаграфічным месцазнаходжаннем абумоўлены гістарычныя лёсы беларускага народа і агульны характар яго народнагаспадарчага жыцця.

Па тэрыторыі Беларусі праходзілі часткі гандлёвых шляхоў, якія з'ядналі Балтыйскае мора з Чорным. Для дзяржавы, зацікаўленай у балтыйска-чарнаморскім гандлёвым шляху, было вельмі неабходна мець увесь шлях у сферы палітычнага ўздзеяння. Адсюль пачынаецца барацьба за гандлёвыя шляхі, барацьба за ўваходжанне Беларусі ў сферу палітычнага ўздзеяння Кіеўскай дзяржавы, якое, аднак, не адбівалася на ўнутраным жыцці беларускіх абласцей, бо палітычная залежнасць беларускіх абласцей ад Кіеўскай дзяржавы ніколькі не датычылася беларускага народа як адасобленага цэлага.

Усё гэта дае лагічную падставу гаварыць і пісаць пра гісторыю беларускага народа як пра цалкам самастойнае індывідуальнае цэлае, якое мае самастойнае значэнне. Калі прызнаць выказаную вышэй думку правільнай, то гісторыю беларускага народа можна падаць у іншым асвятленні, і яна паўстане перад чытачом не толькі як састаўная частка гісторыі Кіеўскай дзяржавы. Ад гісторыкаў беларускага народа ў цяперашні момант патрабуецца скарыстанне рэвізіяніcцкага метаду па ўсяму фронту. Ды і метадалагічныя прыёмы рэвізіянізму павінны адрознівацца ад метадалагічных прыёмаў ранейшых даследчыкаў. Трэба звярнуць увагу на гандлёвыя шляхі і дарогі, якія праходзілі праз Беларусь, і толькі барацьбой за іх можна растлумачыць вядавочныя змены ў палітычным жыцці Беларусі. У сувязі з гэтым многія з асаблівасцей гістарычна-культурнага жыцця Беларусі выяўляюцца вельмі рэальна як гістарычныя з'явы самастойнага характару і адрозніваюцца ад падобных з'яў у жыцці велікарускага і ўкраінскага народаў.

Перадрукавана з весніка Наркамасветы ССРБ,
вып. 11—12, кастрычнік — лістапад 1922 г.,
г. Мінск.

*Язэп ЛЕСІК*

# АЎТАНОМІЯ БЕЛАРУСІ

## I

Магутным рухам народаў Расіі зруйнованы муры маскоўскага царызму. Апалі кайданы пякельнай пакуты, паламаны ёрмы няволі і нядолі, і ўсе народы Расіі выйшлі на вольны шлях жыцця. Празваніў звон волі, і ўстае з руін заняпаду наша айчына, наша бацькаўшчына Беларусь. Заруніцца яна жытам-пшаніцаю і заквітнее цветам-калінаю!

Але не ўсе яшчэ разумеюць у нас, нашто здаліся нам новыя парадкі. Не кожнаму зразумелы інтарэсы народу. Не ўсім відна выгода ад самабытнасці і аўтаноміі. Шмат ёсць і да гэтага часу прыхільнікаў адсталасці і русіфікацыі Беларусі. Шмат каму не пад густ наша адраджэнне, і часта можна чуць, як верадуюць ворагі нашы і крычаць фальшывыя заступнікі долі народнай, пратэстуючы процi нацыянальнай незалежнасці нашай і асветы народа ў яго роднай, спрадвечнай мове. Але гісторыя сведчыць, што не было тае справы, не было такой ідэі, якая б не нажыла сабе ворагаў. Гэта яны, гасіцелі праўды, распіналі Хрыста, палілі Гуса і білі прарокаў...

Заўважыўшы гэта, мы павінны памятаць і заўсёды трымаць на ўвазе, што беларусы — народ асобны і непадобны ні да расійцаў, ні да палякоў, а значыцца, і патрэбы мы маем асобныя, свае беларускія, адметныя і нават нязгодныя з патрэбамі расійцаў, палякоў ці якога іншага народу. Кожны разважае свае справы па-свойму, на карысць свайго ўласнага жыцця, дзеля гэтага і мы павінны меркавацца з тым, што вымагаецца варункамі нашага жыцця, што карысна нам і што спрыяе нашаму нацыянальнаму, культурнаму і гаспадарскаму дабрабыту.

Але што ж будзе, калі мы забудземся аб сваіх беларускіх патрэбах і сапраўды згодзімся з тымі, каторыя кажуць, што ў дзяржаве Расійскай трэба зрабіць адзін парадак, аднакі для ўсіх народаў Расіі? А будзе тое, што маскоўцы пабудуюць гэты парадак на свой густ, дапасуюць яго да патрэб свайго жыцця і зямлю, напрыклад, падзеляць так, як яны звыклі карыстацца ёй спакон веку. Усё гэта трапіцца з намі, калі мы станем слухаць тых «дабрадзеяў», што не прызнаюць нас за асобны народ, не лічаць нас за беларусаў, каторыя кажуць, што ў нас свае мовы няма і нам не патрэбна яна, што мы павінны парабіцца расійцамі або палякамі, дзеля чаго, моў, будуйце ў сябе школы расійскія ці польскія, а не свае, беларускія. Іншыя кажуць гэта наўмысля, а другія проста па недавумству і глупству. А то бывае і так, што чалавек, як расійскі сацыяліст, напрыклад, не ведае ні нас, ні жыцця нашага. Ён нават і шчыра хацеў бы зрабіць нам дабро, дык не можа і сваёю фатыгай толькі псуе нам і нарабляе шкоды, бо, не ведаючы ні нас, ні жыцця нашага, шые абутак для нас на свой уласны, маскоўскі капыл. Разумеецца, такі абутак будзе заўсёды муляць нам і дапекаць пры ўжыванні.

Ніхто лепей не ведае нашых патрэб, як мы самі: ніхто не завядзе лепшага парадку ў гаспадарцы, як сам гаспадар. Калі мы папусцімся і аддамо развагу сваіх патрэб у рукі чужынцаў або сваіх вырадкаў, што адракліся і нас, і мовы нашае, дык яны ўсё зробяць так, як гэта добра для жыцця на Маскоўшчыне або дзе-небудзь у Польшчы. Канец канцом мы сцямім і схамянемся па часе, што нарабілі сабе бяды, але будзе позна. Нас заўсёды запыняць і скажуць: «Не верадуй, васпан,— скачы, уража, як пан кажа!..»

Вось дзеля таго, каб ухіліцца ад усіх гэтых прыкрых з'явішч, каб не папасціся пад загад і кіраўніцтва чужынцам, каб потым не скардзіцца, не верадаваць, праклінаючы жыццё сваё па часе, каб не клялі нас дзеткі нашы, апыніўшыся праз нас, праз недавумства і нядбаласць нашу, у нацыянальным палоне ў чужынцаў — маскоўцаў або палякоў,— дзеля ўсяго гэтага мы і павінны дамагацца аўтаноміі для свайго краю, аўтаноіі Беларусі. У вольнай дзяржаве ніхто не мае права забараняць жыць так, як народ сам таго хоча, абы не перашкаджала гэта вольнаму жыццю другога народу, бо кажуць, што кожны народ мае права на самаадзначэнне, т. -е. мець свае парадкі, вучыцца і гаварыць сваёю моваю, словам, жыць уласным жыццём, развіваючы сваю культуру і свой гаспадарскі дабрабыт. І калі народ у дзяржаве жыве сваім уласным жыццём, калі ён мае свае парадкі, свае законы і ўстановы ў сваім родным краю і ніхто яму не перашкаджае, дык і кажуць, што гэты народ жыве аўтаномна. Аўтаномна жыве Ірландзія, Трансваль (буры) у Англіі, на грунце аўтаноміі пабудавана жыццё ўсіх краёў у Амерыцы. Усе культурныя, асвечаныя людзі дамагаюцца аўтаноміі, а гэта знача, што і мы, беларусы, не павінны прыставаць ад іх, каб не заблудзіць ды не згінуць у цемры. Хто хоча сабе дабра, той не скажа, што яму не патрэбна аўтаномія. Толькі цёмны, забіты народ можа гэта сказаць...

Нашы сяляне на з'ездах выслаўляліся ў тым сэнсе, што ім не патрэбна аўтаномія, але ж рабілі яны гэта па недавумству і цемнаце сваёй, а найбольш па падашуканству, бо разам з гэтым яны казалі, што і мова іх ім не патрэбна. Ніхто на свеце не адракаецца ад свае мовы — і немцы, і французы, і палякі, і расійцы, чэхі і баўгары шануюць і любяць сваю мову, а нашы сяляне — адракаюцца. Значыць, робяць яны гэта па недавумству і цемнаце. Ведаючы, што наша сялянства забітае і цёмнае, ворагі Беларусі карыстаюць з гэтага і кажуць: «запытайце ў народу». А хіба, спытаем мы іх, рэвалюцыянеры пыталіся ў на-

роду, як ушчыналі рэвалюцыю? Хіба яны не ведалі, што народ, па цемнаце сваёй, мог спалохацца ды выслявіцца за тое, каб цара не чапалі? Яны гэта ведалі і рабілі так, як яно па разумнаму дaследу выходзе лепей і карысней.

Яшчэ ворагі беларушчыны кажуць: нашто будаваць беларускія школы, калі народ іх не хоча? Народ... Як жа народ запатрабуе сваіх беларускіх школ, калі ён іх ніколі не бачыў і нічагутка ў гэтай справе не цяміць? Дзіўная гэта звычка ў людзей — пасылацца на народ там, дзе яно саўсім недарэчы. Ува ўсіх іншых пытаннях мы звяртаемся да знаўцаў і спецыялістаў, а вот пры дзяржаўным адбудаванні здавальняемся думкамі такіх майстраў, як цёмны, некультурны народ, каторы ў халерны год забіваў дактароў, а ў час рэакцыі лавіў ды выдаваў царскай паліцыі рэвалюцыянераў, паламаўшы ім рэбры... Народ добрая рэч, але яму трэба расказаць, растлумачыць, яго трэба спачатку асвяціць, навучыць, а ўжо потым клікаць да сябе на параду...

## II

Да гэтага часу Расія была і покі што застаецца дзяржаваю не хаўруснаю, або, як кажуць, не федэратыўнаю. Ніводзін народ у Расіі не меў аўтаноміі, а жыў так, як загадвалі яму з Петраграда цар і яго служкі. Манархічная Расія ўяўляла з сябе велізарную казарму, дзе павінны былі жыць адным парадкам, слухаць аднае каманды. Усе народы і краі Расіі былі цесна звязаны паміж сабою, але не добраахвотным перавяслам братэрскага пачуцця, а прымусам і прынукаю, ланцугамі царскага самадзяржаўя, накшталт таго, як звязвалі колісь катаржнікаў, заганяючы іх у Сібір.

Няма чаго казаць, што такое супольнае жыццё народаў не мае жаднай вартасці і пры першай прыгодзе рвецца, як гнілая нітка. Толькі добраахвотная, палюбоўная супольнасць моцна звязвае людзей і стварае грунтоўную і магутную дзяржаву. Гэта мы бачым на прыкладзе Англіі, Амерыканскіх Злучаных Штатаў і самой Германіі, з каторай мы цяпер ваюем. У гэтых дзяржавах не толькі кожны асобны народ, але і кожная асобная па жыццёваму ўкладу частка дзяржавы мае свае парадкі, свае законы і ўстановы. Раней за ўсіх зразумела патрэбу і няўхільнасць аўтаноміі Англія. Праўда, дорага гэта ёй каштавала — за сваю навуку яна заплаціла стратаю багатае калоніі — Паўночн. Амерык. Злучаных Штатаў, але раз дасведчыўшыся, што сіламоц нікога ўтрымаць нельга, яна павярнула на іншую дарогу і цяпер сама спрыяе і дапамагае завядзенню аўтаномнага ладу. Сваёю разумнаю палітыкай яна ўтрымала за сабою Канаду, частка якой хацела прылучыцца да суседніх Злучаных Амер. Штатаў, і ўмацавала прыхільнасць прылучаных да сябе вайною бураў у Афрыцы. За цяперашнюю вайну гэтыя калоніі многа дапамагалі Англіі грашмі, людзьмі і ваеннымі прыладамі, хоць маглі і не рабіць гэтага.

Усе гэтыя прыклады сведчаць пра тое, што аўтаномны лад дзяржавы не аслабляе і не разлучае дзяржаву, а, наадварот, спрыяе таму, каб яна ўзмацнялася ды зноў злучалася нават тагды, калі распад ужо пачаўся. Знача, тыя людзі, што палохаюць распадам дзяржавы пры завядзенні аўтаномнага ладу, не маюць пад сабою жаднага грунту. Яны або кепска дасведчаны ў гэтым пытанні, або наўмысля, маючы на ўвазе ўласную карысць і рахуючы выкарыстаць чужую недасведчанасць, пускаюць байкі пра шкадлівы ўплыў аўтаномнага ладу. Гэта трэба запамятаць і, адхіліўшы ўсялякія нагаворы, як мага дамагацца аўтаномнага ладу для свайго роднага краю. Мы павінны мець свой беларускі парламент, сваю Беларускую Краёвую Раду, цалкам незалежную ў межах свайго краёвага заканадаўства ад цэнтральнага, агульнадзяржаўнага ўрада. Толькі такія справы, як зносіны з заграпічнымі дзяржавамі, мытна, грашовая сістэма, вярхоўнае кіраўніцтва ваеннымі сіламі, важнейшыя жалезныя дарогі,— павінны знаходзіцца пад загадам агульнадзяржаўнай уласці, каторая гэтаксама павінна складацца з прадстаўнікоў усіх нацый і краёў. Агульнадзяржаўная ўласць павінна быць прадстаўніцай усіх людзей, усіх народаў і краёў і іх аб'яднаць.

Мала дабіцца рэспублікі, трэба дамагацца яшчэ і таго, каб рэспубліка была і федэратыўнай, або хаўруснай па латыні, кожны край, кожны асобны народ каб меў сваю аўтаномію. У Францыі рэспубліка існуе ўжо больш соткі год, але яна цэнтралістычная. Там, як і ў нас цяпер і як было гэта пры царызме, усім загадваюць міністры з Парыжа, а міністраў вызначае агульнадзяржаўны парламент. Пры кожнай перамене большасці ў парламенце змяняюцца і міністры. Жыццё валтузіцца кожны раз пры змене загадчыкаў-міністраў. У самых дробных мясцовых справах трэба чакаць дазволу і ласкі цэнтральнага правіцельства. Такая рэспубліка нас не здавальняе. Мы ўсе патаміліся страшным і прыкрым цэнтралізмам старога, скінутага рэжыму і не хочам, каб ён жыў далей, хоць бы і пад рэспубліканскім чырвоным сцягам. Мы хочам, каб у нашым краі будавалі сваё жыццё нашы людзі і каб у нашы беларускія справы не мяшалася цэнтральная ўласць з Масквы ці з Петраграда. Мы хочам, каб знікла нарэшце тая абрыдлая, да смерці шкадлівая, розніца паміж дзяржаўнаю і недзяржаўнаю нацыяй, каторая высмоктвала з нас усе нашы сілы. Мы хочам, каб усе народы былі дзяржаўнымі на сваёй зямлі.

Усе ў адзін голас кажуць, што Беларусь самы бедны край, а народ наш самы цёмны пасярод народаў Расіі, але ніхто даладне не расказаў, чаму гэта так, чаму Беларусь, колісь складаўшая магутнае Літоўска-Рускае гасударства, не ведаўшая татаршчыны, дыктаваўшая сваю волю Маскве, прылучыўшая да сябе ўсю багатую Украіну,— чаму цяпер дайшла да такога заняпаду? Беларусь наша бедная, а народ наш цёмны не затым, што ён горшы за другіх або не мае здатнасці да навукі і прасветы. Нядоля наша ў тым, што мы, страціўшы сваю незалежнасць, па цяжкім умовам гісторыі, не здолелі адстаяць сваю нацыянальную самабытнасць і сталі папасам для суседзяў, спажыткоўнаю ніваю для чужынцаў.

Яны высмоктвалі з нас апошнія сокі, адбіралі ў нас нашых лепшых людзей (Міцкевіч, Касцюшка, Дастаеўскі) і зруйнавалі краіну нашу да сучаснага становішча. Але гэта мінулася, недарма настала свабода. Мы павінны дабіцца сабе аўтаноміі і стварыць у сябе свае ўласныя беларускія парадкі і зажыць сваім уласным беларускім жыццём. Годзе быць пашаю для чужынцаў, годзе карміць чужынцаў сабе на згубу і пастаянную пакуту. Аўтаномія для нас — пытанне жыцця і смерці. Калі мы любім свой край, калі жадаем сабе лепшае долі, калі абрыдзела нам парабецтва, калі мы не страцілі дашчэнту свайго нацыянальнага гонару і не рашыліся чалавечай вартасці,— дык мы павінны стаць на ўласныя ногі. Мы павінны дамагацца самакіравання, бо цэнтралізм маскоўскі і ўплыў польскі заесць нас дазвання. Цэлыя соткі год нас апалячвалі, больш ста год нас амаскальвалі, але ні паланізм, ні русіцызм не кранууўся народу нашага ані звання. Народ у істоце сваёй застаўся непарушаным. У гэтым наша сіла, наша збавенне і залог светлай будучыні.

## III

Утварыўшы аўтаномны лад на Беларусі, мы станем паўнамоцнымі гаспадарамі на сваёй зямлі і атрымаем поўную магчымасць павярнуць усе скарбы нашага краю на карысць свайго народу, на свае нацыянальныя патрэбы, дзеля развіцця культуры і гаспадарскага дабрабыту. Тагды беларускія працоўныя масы, каторыя на працягу цэлых вякоў абдзіраліся і выкарыстоўваліся дзеля росту і панавання багатых станаў, чужых ім як па нацыянальнасці, так і па культуры,— і дзеля развіцця гэтай чужой культуры,— дастануць змогу выйсці на вольны шлях эканамічнага і культурнага развіцця і збавяцца ад свайго заняпаду матэрыяльнымі і духоўнымі скарбамі свае зямлі. Тагды можна будзе ўжыць усіх багатых заходаў дзеля развіцця ўсёй паўнаты беларускага культурнага і палітычнага жыцця, далучыўшы да гэтага шырокія народныя масы, увесь працоўны народ, коштам каторага да гэтага часу выраслі толькі чужакультурныя станы і іх эканамічныя і палітычныя ўплывы.

З эканамічнага боку вельмі важна, каб дастаткі беларускае зямлі і людская сіла нашага краю не марнаваліся дарэмна ды не перацягваліся наўмысля на чужы бок рознымі штучнымі і прыватнымі эканамічнымі рахункамі з вялікаю шкодаю для краю і дарэмнаю стратаю для ўсяго нашага народу, а каб ужываліся мудра, маючы на ўвазе інтарэсы свайго краю і дабрабыт свайго народу. Беларусь уяўляе з сябе асобную краіну, з сваім уласным выразным тварам і жыццёвым укладам. Яна як трэба абдаравана ўсялякімі прыроднымі ўмовамі для эканамічнага развіцця і поступу. Яна мае свае рэчкі, горы, радзючы грунт, многа лугоў для гадоўлі гавяды, вялікія запасы лесу, а перш за ўсё і важней за ўсё — народ працавіты, старанны, крэпкі, здольны і цямушчы, што пры самых цяжкіх умовах свае гістарычнае долі здолеў паставіць сваё земляробства вышэй за ўсіх у Расіі. Нягледзячы на свой пяшчаны грунт, зямля наша родзіць добра і, дзякуючы разумнай працавітасці народу нашага, Беларусь не бачыла павальнай галадоўлі — гісторыя не ведае такога здарэння, каб дзяржаўная казна прыходзіла да нас на дапамогу сваімі коштамі, як гэта рабілася на Маскоўшчыне і па іншых кутках Расіі. Зямля там, бадай што, і лепшая, ураджайнейшая за нашу, але народ маскоўскі (велікарусы) да таго некультурны, нядбалы і няўмелы, што галадаў амаль не кожнае пакаленне. Пры самых цяжкіх варунках беларус не траціў датэнпнасці і быў гаспадаром свайго становішча. Адным словам, Беларусь мае ўсё патрэбнае, каб зрабіцца краем цвітучым і багатым, а не такім заняпалым і занядбаным, якім стаўся ён пад загадам маскоўскай дзяржаўнасці. І мы ўсе, грамадзяне зямлі беларускай, павінны далажыць усіх сіл, каб скінуць з сябе апякунства чужынцаў і збавіць край наш ад кіраўніцтва маскоўцаў. Гэта мы павінны зрабіць, бо грубае, некультурнае ўладарства Масквы знішчыць край наш дашчэнту і прывядзе яго да загібелі, як яно вынішчыла і загубіла дзяржаву Расійскую. Нам трэба дабіцца, каб кіраўніцтва эканамічнымі і грамадзянскімі справамі належала да самога краю, да яго аўтаномнага краёвага сойму. Тагды Краёвая Рада, кіруючыся інтарэсамі і дабрабытам свайго народу, не дазволіць, каб цэнтральны ўрад рознымі тарыфнымі штукамі і мытнаю палітыкай калечыў развіццё нашае прамысловасці і гандлю; тагды краёвы ўрад не папусціцца, каб нашу эканамічную энергію і сыровы прадукт перацягвалі штучна да розных пазакраёвых фабрычна-прамысловых раёнаў; тагды не будзе таго, каб цэлы край, заселены народам з светлай і вялікай гісторыяй, пазбаўлены быў вышэйшых навучных інстытуцый і праз соткі год не мог вярнуць таго, што ў яго адабралі гвалтоўна (Віленскі універсітэт). Дзеля ўсяго гэтага нам патрэбна аўтаномія. Нам патрэбна аўтаномія, каб запэўніць беларускаму хлебаробу як найбольшы прыбытак, а беларускаму пралетарыю — як найвышэйшы заработак, каб даць сваім людзям работу дома, на месцы, на грунце ўласнай беларускай прамысловасці і каб нашы людзі не вандравалі, шукаючы заработкаў, у свет, на чужыну, дзе і сам работнік, і яго рабочая сіла прападалі для нашага краю. І мала таго, што наш работнік, трапіўшы ў чужы край, пераймаўся чужыншчынаю і навекі гінуў для роднага краю, але, апарт таго, вярнуўшыся дадому, ён нарабляў шмат шкоды, пашыраючы дэнацыяналізатарскую заразу.

З погляду на культурнае становішча нашага краю становіцца ясна, што толькі пры аўтаномным ладзе пачне расці і квітнець культура, навука, літаратура і ўмеласць здольнага і багата абдараванага нашага народу. Толькі пад загадам аўтаномнага ладу народ наш, з прышчэпу да агульнадзяржаўнага будаўніцтва, вырасце ў магутную асобную расліну — заваюе сабе пачэснае месца ў свеце, стаўшы поплеч з народамі Еўропы. Узгадаваўшы культуру багатую, моцную і арыгінальную, разгарнуўшы ўсю сваю вялікую здольнасць, народ наш стане цэнтрам у сваім краі і сваёю літара-

тураю, навукаю і мастацтвам звяжа шчыраю любоўю ўсе народнасці Беларусі, каторыя, у сваю чаргу, аддадуць усе свае сілы і розум на карысць супольнай айчыны, на дабро і пыху роднага краю. Усё гэта так важна, проста і ясна, што сапраўды трэба ўлажыць усю сваю душу, аддаць усе свае сілы, каб утварыць светлую будучыню сваёй бацькаўшчыне, здабыўшы шырокую нацыянальна-тэрытарыяльную аўтаномію для Беларусі. «Падумайце,— піша праф. Грушэўскі,— якая гэта будзе эканомія часу і энергіі, колькі адпадзе дарэмных турботаў... Адпадзе ўся барацьба за нацыянальнае права, якая пастаянна валтузіла і затрымоўвала эканамічны і палітычны поступ... Не трэ будзе пакладаць свае здольнасці і энергіі на заходы каля палагоджання сваіх нацыянальных і краёвых спраў у агульнадзяржаўным парламенце, не патрэбны будуць хітрыя партыйныя камбінацыі, каб правесці сваю справу, не трэ будзе «абрабляць» расійскае ліберальнае грамадзянства і іншыя расійскія партыі, каб прыхіліць іх да сваіх нацыянальных і краёвых патрэб. Даволі гэтага! Даволі мы мелі гэтага пры змарлым рэжыме і добра ведаем, як прыемна стасавацца да расійскага грамадзянства! Няхай яно жыве, здарова, як само хоча, а нам трэба свае справы разважаць у сябе дома, у сваім краёвым сойме, і толькі тое невялічкае, што датычыцца ўсяе дзяржавы, мы разважым супольна на агульным прадстаўніцтве Расійскай федэратыўнай рэспублікі».

Але не досыць атрымаць аўтаномію, хоць бы і самую поўную. Трэба яшчэ падбаць аб тым, каб сама дзяржава, у склад каторай Беларусь мае ўвайсці, была пабудавана на цвёрдым федэрацыйным грунце, каб гэта была дзяржава дэмакратычная і федэратыўная. Чаму ж гэта важна, і дзеля чаго гэта трэба?

«Рэч простая,— піша вышэйпамянёны праф. Грушэўскі ў сваёй брашуры «Якой мы хочам аўтаноміі і федэрацыі»,— калі мець нават шырокую палітычную аўтаномію свае нацыянальнае тэрыторыі, але калі дзяржава, з каторай яна будзе злучана, застанецца дзяржавай цэнтралізаванаю, дык хоць бы аўтаномія была забяспечана на моцы канстытуцыйнай хартыі, тым часам становішча яе не будзе пэўнае і адносіны яе да дзяржавы не будуць добрыя. Наша старая гетманская Украіна,— чытаем мы далей,— мела шырокую аўтаномію, была праўдзіваю дзяржаваю, а як звязалася з цэнтралістычнаю Маскоўскаю дзяржаваю, дык яе аўтаномія стала на дрыгвяную плошчу. Да таго часу тая аўтаномія трывала, покі маскоўскі ўрад (Пятра I) не пачуў сябе дужым ды не наважыўся зламаць свой «трактат з Багданам Хмяльніцкім». І зламаў. «Гэтаксама было і з Беларусю. На моцы Люблінскай уніі (1569 г.) яна злучылася з Польшчай у адну Рэчпаспалітую (дзяржаву) як роўная з роўнай і вольная з вольнай, а тым часам стрэў яе аднакі лёс з гістарычнай доляй Украіны. Тое самае мы бачым і на прыкладзе Фінляндзіі. Яна мела сваю канстытуцыю, покі расійскі ўрад яе не скасаваў. Нават Катарына II, прылучаючы прымусам Беларусь да Маскоўшчыны, дэкляравала захаваць яе вольнасці і права паводлуг старых звычаяў і прывілеяў «на вечныя часы», але ўсім нам ведама, колькі трывалі гэтыя «вечныя времена». Скончылася тым, што паступовая русіфікацыя Беларусі, аб якой Катарына II пісала графу Разумоўскаму, была ўквечтана страшэнным у свеце гвалтоўствам — забаронаю ўжываць беларускую мову.

На моцы гэтага гістарычнага і палітычнага даследу мы павінны дамагацца, каб усе часткі Расійскай Рэспублікі былі не толькі аўтаномнымі правінцыямі, а і дзяржавамі, злучанымі паміж сабою федэрацыйным (хаўрусным) перавяслам на грунце агульнага інтарэсу, супольнае патрэбы і ўзаемнай дапамогі. І толькі тагды становішча Беларусі будзе забяспечана і адносіны яе да Расійскай Рэспублікі будуць шчырыя і пэўныя, калі гэта станецца або калі справы аўтаномнага жыцця злучаць усе народы Расіі ў адзін вольны дзяржаўны хаўрус — федэрацыю. А гэта будзе, бо яно вымагаецца і жыццём, і гістарычным поступам народаў Еўропы. Так, гэта будзе, бо павінна быць, калі хоча таго жыццё, калі ў гэтым — прагрэс і культура ўсяго чалавецтва.

# БЕЛАРУСЬ... ЯКОЙ ТАБЕ БЫЦЬ?

Такое пытанне часта паўстае цяпер. І людзі зноў і зноў звяртаюцца да гісторыі і ў ёй шукаюць разумнага адказу.

«Разгарніце кнігу ўласнай гісторыі і адтуль набірайцеся сілы, знацця і разумнага даследу... Чытайце гісторыю продкаў сваіх, шукайце парады ў дзядоў вашых!..» Гэтыя словы Я. Лёсіка як ніколі надзённа гучаць сёння...

Імклівы і багаты на падзеі 1917 год толькі пачынаўся. Імкліва разнеслася па неабсяжнай імперыі вестка пра лютаўскую рэвалюцыю. Каланіяльная дзяржава пала. З думкамі пра Беларусь, пра яе лёс вяртаецца Я. Лёсік з сібірскай ссылкі. Вясна ў Мінску толькі надыходзіла, і гэтае яшчэ ледзь прыкметнае абуджэнне прыроды перадавалася яму, былому «палітыку», усяляла веру: зрусіфікаваны, здратаваны вайною край акрыяе, устане на ногі ды зажыве самабытным, уласным жыццём. Пасля доўгіх сямі гадоў разлукі і вымушанага бяздзеяння энергічная, валявая натура яго шукала працы, усезахапляючай працы на карысць роднай старонкі.

Сябра мінскай секцыі Беларускай Сацыялістычнай Грамады, Язэп Лёсік абіраецца першым з'ездам беларускіх нацыянальных арганізацый (25.III.1917 г.) у склад Беларускага нацыяналь-

нага камітэта (БНК) па каардынацыі дзейнасці беларускіх арганізацый, становіцца рэдактарам газеты «Вольная Беларусь», органа БНК (першы нумар выйшаў 28 мая).

Без нацыянальнай свядомасці, культуры і асветы не будзе шчасця і спакою на Беларусі — Я. Лёсік, настаўнік па прызванню, найбольш адчуваў гэта. Ён адзін з першых арганізатараў беларускіх курсаў у Мінску, а пад час працы другога з'езда беларускіх нацыянальных арганізацый (8—10.VII.1917 г.) — закладчык Беларускага вучыцельскага хаўрусу, адзін з аўтараў яго статута.

Мацнее аўтарытэт Я. Лёсіка. Сябры па партыі вылучаюць яго кандыдатам у Мінскую гарадскую думу, а неўзабаве — і кандыдатам на выбарах ва Устаноўчы сойм на Міншчыне. На другім з'ездзе беларускіх нацыянальных арганізацый ён абіраецца старшынёй Выканаўчага камітэта Цэнтральнай рады Беларускіх арганізацый.

Язэп Лёсік шмат піша. Яго вострыя, разважлівыя артыкулы ў «Вольнай Беларусі» не пакідаюць абыякавымі. Тэматыка іх самая разнастайная — гэта палітычныя агляды, гістарычныя нарысы, працы па мовазнаўству і пытаннях культуры. Яны ўсе розныя, але прасякнуты нязгаснай любоўю аўтара да радзімы, вераю ў свой народ і яго светлую будучыню.

Адзін з такіх артыкулаў — «Аўтаномія Беларусі» — быў напісаны Я. Лёсікам у верасні 1917 г. і выйшаў асобнай брашурай праз месяц, у кастрычніку... Думаю, што гэтая праца аднаго з буйнейшых дзеячаў нашага Адраджэння будзе гучаць даволі актуальна цяпер, калі праблемы незалежнасці, суверэнітэту Беларусі хвалююць усё наша грамадства. Трэба толькі памятаць, што артыкул пісаўся тады, калі ў беларускіх нацыянальных колах пераважала ідэя аўтаноміі, а не поўнай незалежнасці. Яшчэ не адбыліся Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя і разгон Усебеларускага кангрэса (17.XII.1917), яшчэ не было Брэсцкага мірнага дагавора, дзе ўлічваліся любыя інтарэсы, апроч беларускіх...

Сумны лёс напаткаў аўтара і яго кніжачку. «Книга Лесика «Аўтаномія Беларусі» была запрещена к распространению как «шовинистического характера» 26.XII.1922 г.» — паведамляў чэкіст І. Апанскі сакратару ЦК КП(б)Б А. Крыніцкаму. Добрасумленна быў выкананы прысуд інквізіцыі — «Аўтаномію Беларусі» не знайсці нават у «спецхранах» буйных беларускіх бібліятэк.

Самога Я. Лёсіка ўлетку 1930 г. арыштавалі па справе выдуманага чэкістамі «Саюза адраджэння Беларусі». Згодна з прысудам калегіі АДПУ 10.IV.1930 г. ён быў высланы з Беларусі на 5 гадоў. Але гэтага здалося мала. 25 чэрвеня 1938 г. Я. Лёсіка забралі з дому і болей ён туды не вяртаўся...

«...Чытайце гісторыю продкаў сваіх, шукайце парады ў дзядоў вашых!..»

**Алесь ЖЫНКІН**

Выбух цікавасці да сівой і нядаўняй мінуўшчыны, выкліканы «перабудовачным» разняволеннем грамадскіх навук ад ідэалагічных догмаў сталінскага і застойнага часоў, абудзіў пільную ўвагу і беларускага чытача да гісторыі станаўлення БССР і ўзнікнення КПБ. У апошнія гады з'явілася багата публікацый, прысвечаных гэтай тэматыцы. З найбольш грунтоўных трэба адзначыць артыкулы Міколы Сташкевіча, надрукаваныя ў часопісе «Неман» (1988, № 12; 1989, № 10—11). Дакументальнае эсэ пра Цішку Гартнага і пра атмасферу 20—30-х гадоў напісаў Эрнест Ялугін. Сярод апошніх публікацый — серыя «круглых сталоў» і палітычнай публіцыстыкі, што друкавалася ў перыёдыцы ў сувязі з вострай палемікай вакол пытання аб дзяржаўнасці БНР. Такім чынам, сёння нашу чытацкую аўдыторыю можна лічыць дастаткова дасведчанай пра характар стварэння БССР, склад яе першага ўрада, пра тагачасных партыйных дзеячаў і драму гэтых людзей у змрочныя гады сталіншчыны.

Даследаванне «Айцы» Беларусі і іхны лёс» было надрукавана ў эміграцкай газеце «Час» у 1978 г., а праз 4 гады перавыдадзена кніжкай у Кліўлендзе (ЗША). Аўтар даследавання Аўген Калубовіч нарадзіўся ў 1910 г. у мястэчку Ціхінічы Рагачоўскага раёна. У 1930 г. ён скончыў педагагічны тэхнікум, а неўзабаве быў арыштаваны па абвінавачанню ў прыналежнасці да беларускай арганізацыі альтруістаў. Пасля трохгадовага зняволення ў сібірскіх лагерах Калубовіч вярнуўся ў Беларусь. Дапамога старшыні ЦВК БССР Аляксандра Чарвякова дазволіла яму атрымаць месца настаўніка ў Мінску і паступіць у Мінскі педагагічны інстытут. Пасля заканчэння інстытута Калубовіч працаваў кансультантам-метадыстам у Наркамасветы БССР.

У гады вайны Калубовіч далучыўся да тых беларускіх дзеячаў, якія супрацоўнічалі з немцамі. Ён уваходзіў у Беларускую Цэнтральную Раду, быў старшынёй Беларускага культурнага згуртавання, кіраўніком аддзела культуры. Напярэдадні вызвалення Беларусі ад акупантаў Калубовіч з'ехаў у Германію, дзе праз год, каб пазбегнуць апазнання і рэпатрыяцыі, змяніў сваё прозвішча на прозвішча жонкі — Іны Каханоўскай. У Заходняй Германіі Калубовіч пражыў да 1950 г., потым эміграваў у Амерыку, дзе працаваў рабочым на фабрыцы на працягу 22 гадоў. Памёр Калубовіч у 1987 г. Сярод яго літаратурнай спадчыны варта адзначыць двухтомнае даследаванне «Мова ў гісторыі беларускага пісьменства», «На крыжовай дарозе» (пра гады зняволення ў мінскай турме і лагеры) і ўспаміны пра Якуба Коласа і Янку Купалу.

Артыкул «Айцы» Беларусі і іхны лёс» мае тую цікавасць для нашага чытача, што адлюстроўвае погляды на пачатковы перыяд сацыялістычнага будаўніцтва з боку эміграцкіх колаў. Артыкул заслугоўвае ўвагі, бо дае ўяўленне, як светапогляд адбіваецца на інтэрпрэтацыі гістарычнага матэрыялу.

Кастусь ТАРАСАЎ

*АЎГЕН КАЛУБОВІЧ*

# «АЙЦЫ» БССР І ІХНЫ ЛЁС

**Нарыс «Айцы» БССР і іхны лёс», які мы прапануем увазе нашых паважаных чытачоў, ставіць мэту высвятліць, як паўстала БССР і які лёс спаткаў ейных творцаў, высвятліць праўдзівую гісторыю ў адрозненне ад фальшывай...**

**За «айцоў» БССР мы ўважаем беларусаў нацыянал-камуністаў, якія, апынуўшыся па-за межамі БНР (на савецкім баку лініі фронту), гуртаваліся ў свае нацыянальна-аўтаномныя Беларускія секцыі РКП(б) [1] і ў Белнацкоме. Яны былі левымі беларускімі патрыётамі, каторыя шчыра верылі, што, апіраючыся на савецкую ўладу ў Расеі і камуністычную дактрыну, можна будзе адрадзіць беларускую дзяржаўнасць — хутчэй і лепей, чымся на аснове іншых палітычных канцэпцый. Як сведчаць факты і дакументы, гэта яны былі ініцыятарамі абвяшчэння БССР і першымі ейнымі будаўнікамі [2].**

## I

Адсунем стрэлкі гадзінніка назад і праэкзаменуем гісторыю паўстання БССР. Пачнём ад гісторыі Беларускіх секцый РКП(б) і Белнацкома.

Пачатак Беларускім секцыям РКП(б) дала левае крыло Петраградскага (пераважна работніцкага, каля 500 усіх сяброў) і Гэльсінскага (матроскага Балтыйскага флоту, каля 200 усіх сяброў) аддзелаў Беларускай Сацыялістычнай Грамады (БСГ), каторае, адкалоўшыся ад свае партыі, увосені 1917 г. засноўвае Беларускую СДРП. На чало новае партыі выбіраецца камітэт у складзе былых сяброў ЦК БСГ А. Чарвякова, А. Усціловіча, Сосны, Гурыновіча, Лаўрэцкага, Паляцка і Я. Лагуна [3]. У снежні 1917 г. БСДРП высылае дэлегатаў ад свае партыі (А. Чарвякоў [4], Я. Лагун, А. Усціловіч, У. Скарынка, Сосна [5] і інш.) на 1-шы Усебеларускі кангрэс у Мінск [6]. Пасля VII з'езда РСДРП(б) (сакавік 1918 г.), які перайменаваў сваю партыю ў РКП(б), БСДРП перайменоўваецца ў Беларускую секцыю РКП (б) [7]. З яе ініцыятывы ў верасні — лістападзе 1918 г. такія ж секцыі паўстаюць у Саратаве і Маскве, а за імі — і ў іншых беларускіх перасяленскіх і ўцякацкіх асяродках Расеі, а таксама і ў самой Беларусі (Казань, Тамбоў, Казлоў, Менск, Невель) [8]. Дзеля ўплыву Маскоўскай секцыі на арганізацыйнае жыццё іншых назавём персанальны склад ейнага камітэта, выбранага 24.11.1918 г.: З. Жылуновіч, П. Клыш, З. Чарнушэвіч, А. Чарвякоў, А. Дзедзя, І. Няцецкі, Я. Дыла, І. Мазур, У. Фальскі [9].

На прапазіцыю БСДРП, 7—20. І. 1918 г. у

Петраградзе склікаецца нарада прадстаўнікоў левых беларускіх арганізацый — БСДРП, Петраградскага аддзела БСГ, левых эсэраў і вайсковых груп Кранштата і Фінляндыі. На гэтай нарадзе выбіраюцца кандыдаты ў г. зв. Беларускі Нацыянальны Камісарыят (Белнацком). У кіруючы склад Белнацкома выбраны: А. Чарвякоў (БСДРП)— на становішча камісара, У. Скарынка (БСДРП)— ягонага заступніка і З. Жылуновіч (тады яшчэ БСГ)— сакратара. 31. 1—13. 2. 1918 г. Белнацком з прапанаванымі кандыдатамі ў ягоны кіруючы склад зацвярджаецца дэкрэтам СНК РСФСР як аддзел Народнага Камісарыята ў нацыянальных справах РСФСР («Камісарыят у беларускіх справах», паводле тэрміналогіі дэкрэта [10]) [11], падобна такім жа аддзелам (камісарыятам) для іншых народаў (палякаў, летувісаў, армянаў і г. д.), створаным з мэтаю кантралявання нацыянальных рухаў нерасейскіх народаў Расіі. Хутка па пераездзе СНК РСФСР і Белнацкома ў Маскву (канец сакавіка 1918 г.) месца А. Чарвякова, змабілізаванага ў палітаддзел Чырвонай Арміі, займаюць спярша левы эсэр з Беларускага Абласнога Камітэта пры Усерасейскім Савеце сялянскіх дэпутатаў [12], тады выкліканы з Петраграда А. Усціловіч, а ад 23.12.1918 г.— З. Жылуновіч [13].

Беларускія секцыі РКП(б) і Белнацком сваю актыўнасць у падрыхтоўцы абвяшчэння БССР (яны мелі ўжо прыклад — УССР, праклямаваную 25.12.1917 г.) разгортваюць у трох кірунках: у кірунку збірання сваіх сіл і прапаганды сярод іх ідэі БССР, у кірунку інспірацыі падтрымкі ідэі БССР знізу і ў кірунку планавання абвяшчэння БССР і націску ў гэтай справе на маскоўскі бальшавіцкі цэнтр.

Падобна БСГ і эсэрам, яны, апрача беларускіх работнікаў Петраграда (пуцілаўцаў, абухаўцаў, артылерыйскага завода і інш. [14]) ды маракоў Балтыйскага флоту, асаблівую ўвагу зварочваюць на сотні тысяч беларускіх уцекачоў 1-ай сусветнай вайны і іхныя асяродкі ў РСФСР. Каб мець на іх большы ўплыў, у снежні 1917 г. тады яшчэ як БСДРП рэвалюцыйным парадкам яны ліквідуюць Беларускі ўцякацкі камітэт у Петраградзе (Камітэт Беларускага таварыства арганізацыі дапамогі пацярпелым ад вайны), а замест яго паклікаюць свой у складзе А. Чарвякова, А. Усціловіча, Я. Лагуна, Сосны, З. Жылуновіча (БСГ) [15]. Ужо ад імя Белнацкома арганізуюць сетку сваіх эмісараў пры беларускіх уцякацкіх асяродках Калугі, Саратава, Тамбова і г. д., а ў Петраградзе і месцах занятай РСФСР часткі БНР — у Смаленску, Віцебску, Оршы — закладаюць мясцовыя аддзелы Белнацкома [16].

1.3.1918 г. Белнацком пачаў выдаваць пад рэдакцыяй З. Жылуновіча ў Петраградзе (ад № 6— у Маскве) свой прэсавы орган — тыднёвую газету «Дзянніца» (ад № 40 за 3.12. 1918 г. — орган Белнацкома і Маскоўскай Беларускай секцыі РКП(б) [17], а ад 19.7.1918 г. у Петраградзе пад рэдакцыяй А. Вазілы — дзвюхмоўны (беларуска-расейскі) часопіс «Чырвоны шлях» (орган Петраградскага аддзела Белнацкома), у якіх сістэматычна, з розных нагодаў, побач прапаганды супраць БНР, папулярызуецца ідэя БССР (у «Дзянніцы» ужо ў № 8 артыкул —«Беларусь як частка Савецкай Федэрацыйнай Рэспублікі») [18].

У Петраградзе, Маскве і іншых перасяленскіх і ўцякацкіх асяродках РСФСР Бслнацком адчыняе свае клубы, бібліятэкі, школы, творыць розныя палітычныя і культурна-грамадскія гурткі і таварыствы. Для падрыхтовы кіруючых кадраў арганізуе Вышэйшыя курсы беларусаведаў у Петраградзе, а ў Маскве — Беларускі народны універсітэт, дзе для слухачоў (пераважна беларускіх настаўнікаў і культурна-асветных працаўнікоў) праф. У. Пічэта, праф. З. Анучын, праф. М. Янчук, праф. А. Ясінскі, этнограф У. Дабравольскі, П. Растаргуеў, А. Канчар і інш. чытаюць курсы з геаграфіі, гісторыі, этнаграфіі і эканомікі Беларусі, беларускай мовы і літаратуры [19]. У канцы 1918 г. Белнацком выдае альманах з твораў Я. Купалы, Я. Коласа, Цёткі, А. Гаруна, У. Галубка, Х. Чарнышэвіча, а ў тым і сваіх супрацоўнікаў — Ц. Гартнага (З. Жылуновіча), Я. Нёманскага (Пятровіча) і Ф. Шантыра [20].

Падтрымка знізу ідэі БССР, інспіраваная Беларускімі секцыямі РКП(б) і Белнацкомам, выяўлялася галоўна ў прыняцці аднатыпных рэзалюцый беларускімі сходамі, канферэнцыямі і з'ездамі. Рэзалюцыі гэтыя дзеля таго і маюць у розных варыянтах адну і тую ж схему з трох тэзаў: непрызнанне пазафронтавай БНР і яе кіруючых органаў — Рады і Урада БНР, дэкларацыі ў адданасці савецкай уладзе і Расеі, супрацьстаўлення БНР ідэі БССР (федэрацыі ці саюзу Беларусі з Расеяй як спосабу вырашэння права беларускага народа на нацыянальнае самавызначэнне). Першыя дзве тэзы вымагаліся ад маскоўскага цэнтра, трэцяя дадавалася ад сябе.

«Адзіны беларускі народ не можа і не павінен быць падзелены на часткі, ён павінен застацца цэлым: і яму павінна быць дадзена, як і іншым народам, права вызначыць сваю долю»,— яшчэ нясмела заяўляе рэзалюцыя беларусаў-уцекачоў з Гарадзеншчыны ў Казанскай губерні 23.4.1918 г. [21]. «Няхай жыве Беларуская Федэрацыйная Савецкая Рэспубліка з вялікай свабоднай працоўнай Расеяй!» — завяршаецца рэзалюцыя Каралеўскай воласці Віцебскага павета 14.5.1918 г. [22].

Такія ж рэзалюцыі прымае скліканы Белнацкомам у Маскве 17—21.7.1918 г. Усерасейскі з'езд уцекачоў з Беларусі: «Прэч незалежнасць, накінутую немцамі з дапамогаю беларускіх паноў! Няхай жыве адзіная вольная работніцка-сялянская Беларусь у цесным братнім саюзе з Расейскай Савецкай Рэспублікай!» (рэзалюцыя ў пытанні «Бягучы момант») [23], і, «... прызнаючы, што Беларусь павінна ўвайсці ў будучым у склад саюза свабодных народаў на аснове аўтаномнасці ў федэрацыі з Расейскай Савецкай Рэспублікай, з'езд вызначае за канечнае, каб на будучай мірнай канферэнцыі народаў былі прадстаўнікі ад працоўнага беларускага народа для абароны ягоных інтарэсаў...» (рэзалюцыя ў пытанні «Аб прадстаўніцтве Беларусі на будучай мірнай канферэнцыі народаў») [24].

23—24.8.1918 г. з ініцыятывы Петраградскага аддзела Белнацкома ў Петраградзе склікаецца «Першая канферэнцыя беларускіх са-

вецкіх арганізацый і партый», у якой бяруць удзел прадстаўнікі ўсіх лакальных аддзелаў Белнацкома, маракоў Балтыйскага флоту, работнікаў Петраграда і Кранштата, петраградскай Беларускай секцыі РКП(б), сацыял-дэмакратаў, інтэрнацыяналістаў і эсэраў. Па абмеркаванні дакладаў камісара Петраградскага аддзела Белнацкома Я. Лагуна на тэму «Палітычны стан Беларусі» і старшыні Беларускага абласнога камітэта пры Усерасейскім Савеце сялянскіх дэпутатаў эсэра А. Канчара на тэму «Чым павінна быць Беларусь» канферэнцыя «прыйшла да аднадушнае пастановы, што Беларусь павінна быць шырокааўтаномнай дзяржаўнай адзінкай, павінна... увайсці ў вялікі федэрацыйны Расейскі Саюз раўнапраўным сябрам» [25].

Актыўнасць беларускіх нацыянал-камуністаў і іхных прыхільнікаў у кірунку да абвяшчэння БССР ад самага пачатку спаткалася з маўклівым ці адкрытым супрацівам і непрыхільнасцю з боку маскоўскага бальшавіцкага цэнтра і ўсіх іншых кіруючых органаў РКП(б) і савецкай улады, якія ў нацыянальным пытанні стаялі на пазіцыях расейскага вялікадзяржаўнага шавінізму.

19.7.1918 г. група дэлегатаў згадванага з'езда беларускіх уцекачоў у РСФСР на чале з камісарам Белнацкома А. Усціловічам была прынята Леніным. Дэлегацыя не пачула ад галавы РСФСР ніякіх запэўненняў ці хоць бы абяцанак у справе будучага ўладжвання Беларусі, над чым так шмат дыскутаваў з'езд [26]. І гэта тым болей дзіўна, калі ўзяць на ўвагу факт, што група левых эсэраў выступіла на з'ездзе ў абарону БНР і ейных кіруючых органаў [27], а з'езд у сваім прывітанні ЦВК РСФСР «выказаў упэўненасць, што... (ЦВК) пойдзе насустрач з'езду і дапаможа беларускаму народу ў вырашэнні ягоных надзённых патрэб і абароне ягоных інтарэсаў» [28].

4.8.1918 г. беларусы-работнікі Пуцілаўскага завода ў Петраградзе на сваім сходзе прымаюць рэзалюцыю з дамаганнем перайменаваць Заходнюю вобласць (куды ўваходзіла Беларусь) у Беларускую і пастанаўляюць паслаць у гэтай справе ў Маскву, у СНК РСФСР, дэлегацыю з двох работнікаў завода [29]. 13.8.1918 г. беларусы-маракі Балтыйскага флоту ў Петраградзе прымаюць у той самай справе рэзалюцыю, адрасаваную ў СНК РСФСР. Паводле рэзалюцыі маракоў «Саветам народных камісараў павінен быць выданы дэкрэт пра ўтварэнне Беларускай вобласці... цэнтрам якое ў будучыні мусіць стацца Полацк — гэты старажытнейшы асяродак самастойнага дзяржаўнага жыцця беларускага народа», а «часовым адміністрацыйным цэнтрам — Смаленск» [30]. Амаль адначасна з гэтай ініцыятывай Белнацком падае ў Наркамнац РСФСР адпрацаваны ім канкрэтны «Праект дэкрэта пра ўтварэнне Беларускай вобласці» як часовай «аўтаномнай палітычнай адзінкі» ў складзе РСФСР і далучае да яго «Тлумачальную запіску». Белнацком просіць дэкрэтам СНК РСФСР зліквідаваць Заходнюю вобласць, якая «ў складзе Расейскай Савецкай Рэспублікі цяпер не творыць нат асобнай вобласці з нацыянальным назовам, афіцыйна мянуючыся «Заходняй», ды распусціць ейныя кіруючыя органы, «паўсталыя пры выпадковых акалічнасцях з вайсковых арганізацый Заходняга фронту, без удзелу свабоднага волевыяўлення беларускага народа». Заміж іх у межах этнаграфічнае карты Беларусі акад. Я. Карскага і «на правах самастойнасці ў сваім дзяржаўным і палітычна-эканамічным жыцці» мусіць быць створана «Беларуская вобласць». Як такая, падкрэсліваецца ў «Запісцы», яна павінна існаваць толькі часова, «да склікання Усебеларускага ўстаноўчага з'езда», каторы (на аснове арт. 11 Канстытуцыі РСФСР) канчальна ўжыццёвіць права беларускага народа на самавызначэнне, пастанавіўшы пра будучы «дзяржаўны лад і кіраўніцтва Беларускае Нацыянальнае Рэспублікі». Да «Запіскі» былі прыкладзены копіі рэзалюцый з'езда ўцекачоў, работнікаў Пуцілаўскага завода і маракоў Кранштата [31].

На ўсе гэтыя рэзалюцыі, праект і тлумачальную запіску, як і на ўсе іншыя справаздачы, інфармацыі і дакладныя запіскі Белнацкома ў Народны Камісарыят нацыянальных спраў РСФСР, ні з боку СНК РСФСР і ягонага старшыні Леніна, ні з боку наркома ў нацыянальных справах Сталіна не было ніякага рэагавання ці адказу (прынамсі іх няма ў дасюлешніх публікацыях дакументаў, у чым Камуністычная партыя СССР была б зацікаўлена).

Яшчэ большую непрыхільнасць да ўсяго беларускага выказаў Смаленскі абласны цэнтр і ягоны кіраўнік — старшыня Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РКП (б) і Абласнога выканаўчага камітэта (Аблвыкамзаха) А. Мяснікоў. Тут нат не пажадалі мець аддзела Белнацкома і ў пачатку чэрвеня 1918 г. яго зліквідавалі. Прэсавы орган гэтага цэнтра, газета «Звезда» (адным з рэдактараў якое быў А. Мяснікоў), у артыкуле «Самавызначэнне народаў і дыктатура пралетарыяту» (№ за 12.6.1918 г.) даў і тэарэтычнае ўгрунтаванне такой сваёй пазіцыі. У артыкуле сцвярджаецца, што ўсялякае патрабаванне самавызначэння народаў у Расеі ў інтарэсе буржуазіі. Адбудова нацыянальных дзяржаў раней прыгнечаных народаў — з'ява рэакцыйная. «Итак: лозунг самоопределения народов мы должны вычеркнуть из программы Советской России» [32]. Калі дэлегацыя Белнацкома на чале з Я. Лагуном прыехала ў Смаленск з прапазіцыяй перайменаваць Заходнюю вобласць у Беларускую, то «пленум Заходняга абласнога камітэта РКП(б)... 13 верасня 1918 г. адкінуў прапанову Лагуна і перайменаваў Заходнюю вобласць у Заходнюю камуну» [33]. Такая пазіцыя Смаленскага цэнтра выклікала ў верасні — кастрычніку 1918 г. палеміку ў нацыянальным пытанні паміж газетамі «Дзянніца» і «Звезда» [34].

Таксама і Камуністычная партыя Беларусі і Летувы, што нелегальна існавала ў БНР і Летувіскай манархіі, у рэзалюцыі свае 1-ае канферэнцыі, скліканай Паўночна-Заходнім абласным камітэтам РКП(б) у Смаленску 8—11.8.1918 г., класавае змаганне супрацьпаставіла нацыянальна-вызвольнаму [35], а ейны 1-шы ўстаноўчы з'езд (1—3.10.1918 г., Вільня) самавызначэнне народаў прызнаў дробнабуржуазным лозунгам [36].

Тым часам у канцы верасня — пачатку лістапада нямецкія войскі выпростваюць лінію фронту і пакідаюць Лепельскі і часткі Сенненскага і Аршанскага паветаў, Магілёў і Шклоў. 3.11.1918 г. у Нямеччыне выбухае рэвалюцыя, і нямецкі ўрад змушаны адклікаць свае войскі з усходняга фронту, у выніку чаго савецкія войскі пачалі далей пасоўвацца на захад, займаючы тэрыторыю БНР.

Прыход расейскай камуністычнай улады ў Беларусь выклікаў масавыя антысавецкія абурэнні. Ужо ад вясны 1918 г. на землях, што знаходзіліся на савецкім баку, «былі раскрыты і ліквідаваны розныя контррэвалюцыйныя змовы і мяцяжы, арганізаваныя... эсэрамі, меншавікамі, буржуазнымі нацыяналістамі» [37]. Згодна з савецкімі крыніцамі, яны ўзніклі ў Оршы, Сенненскім, Віцебскім і Полацкім паветах Віцебскай і Горацкім, Клімавіцкім, Чэрыкаўскім і Мсціслаўскім паветах Магілёўскай губерняў [38]. Найбольшыя з іх — Аршанскае і Сенненскае паўстанні ў жніўні месяцы [39]. «У Оршы... мяцежнікі (да якіх далучыўся вайсковы гарнізон) разагналі мясцовы савет, іншыя савецкія ўстановы і два дні ўтрымлівалі ўладу ў горадзе» [40]. «У Сенненскім павеце... (паўстанцы) на чале з Закрэўскім і Прышчэпавым [41] часова захапілі ўладу» [42]. На падаўленне паўстання, галоўнай сілай якога быў 2-гі полк 2-ой Смаленскай дывізіі [43], былі кінуты «атрады Віцебскага губЧК і латышскага палка» [44].

Яшчэ большыя абурэнні ўзняліся ад моманту, калі следам за адыходам немцаў Чырвоная Армія пачала рухацца далей на захад. Тады «па некаторых паветах Заходняй вобласці пракацілася хваля мяцяжоў. (Паўстаўшыя) разганялі выканкомы, нападалі на ваенныя камісарыяты... спрабавалі ўводзіць свае парадкі. Воласці і паветы, ахопленыя выступленнямі, абʼяўляліся на ваенным становішчы» [45].

11 лістапада паўстаў Вяліжскі павет. На 7-мы дзень змагання, пасля разбіцця 3000-га паўстанчага злучэння ў Семічоўскім лесе пад Вяліжам і коннага паўстанчага аддзела ў самім Вяліжы, паўстанне было пераможана. Паводле прысудаў Выязной тройкі Віцебскага губЧК, Рэўтрэбунала 15-ай арміі і штаба ЭКА [46], на Пакроўскім полі за Вяліжам колькі дзён і начэй расстрэльваліся паўстанцы [47]. Калі 10-гадовага сына аднаго з кіраўнікоў паўстання ЧК змусіла капаць магілу для бацькі, бацька, дзякан Ільінскай царквы ў Вяліжы, Ціхан Абрадзін, пазіраючы на сына і чакаючы расстрэлу, спяваў над сваёй магілай пахавальныя песняспевы [48].

27.11.1918 г. смаленская газета «Западная коммуна» [49] паведамляла, што «ад 11 да 17 блізу ўся Віцебская губерня была ахоплена контррэвалюцыйным паўстаннем, каторае выбухла ў Вяліжскім павеце і перакінулася ў іншыя месцы... У Гарадоцкім павеце паўстанне ўжо канчальна здушанае. У іншых паветах ліквідуецца» [50]. У паўночнай частцы Полацкага павета (дзе паўстанцы захапілі Расоны) «раззбраенне працягваецца, адабрана каля 1500 стрэльбаў» [51].

Аднак, не зважаючы на ўсё гэта — на дасюлешнюю акцыю беларускіх нацыянал-камуністаў, заняцце Чырвонай Арміяй новых тэрыторый БНР і спрычыненае гэтым незадаволенне беларускага насельніцтва,— беларускае нацыянальнае пытанне на савецкім баку фронту ўсё не вырашаецца, ні ў якай форме. Гэта выклікала падазрэнні і недавер з боку Беларускіх секцый РКП(б) і Белнацкома да маскоўскага цэнтра. Падазрэнні і недавер з дня на дзень паглыбляюцца, пагражаючы канфліктам і разрывам.

19.11.1918 г. у газеце «Дзянніца» зʼяўляецца роспачлівы, але разам з тым рашучы і выклікаючы артыкул пад вымоўным загалоўкам «Як жа з Беларуссю?». У ім у адрас Народнага Камісарыята нацыянальных спраў РСФСР і кіраўніцтва Заходняй камуны робяцца адкрытыя папрокі, што ў іх дагэтуль няма аніводнага праекта дзяржаўнага ўладжання Беларусі. Артыкул патрабуе ад цэнтральных маскоўскіх улад «выразна паставіць пытанне аб лёсе Беларусі» [52].

27.11.1918 г. склікаецца пасяджэнне камітэта маскоўскай Беларускай секцыі РКП(б). На ім абмяркоўваецца паўсталая сітуацыя; для большае аператыўнасці выбіраецца бюро камітэта (З. Жылуновіч — старшыня, П. Клыш — заступнік старшыні, З. Чарнушэвіч — сакратар і Я. Дыла — скарбнік); прымаецца пастанова аб скліканні зʼезда ўсіх беларускіх секцый РКП(б) (для хутчэйшай падрыхтовы яго ў Петраград камандзіруюцца З. Жылуновіч і А. Чарвякоў, у Саратаў, Тамбоў і іншыя месцы Расеі — А. Дзедзя, у Беларусь — П. Клыш і В. Майзель); выбіраецца дэлегацыя ў складзе Я. Дылы, І. Няцецкага і З. Чарнушэвіча для перамоваў з Сталіным [53].

2.12.1918 г. на пасяджэнні Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РКП(б) прымаецца пастанова аб скліканні 27.12.1918 г. у Смаленску 6-ай абласной партыйнай канферэнцыі. У парадку дня канферэнцыі (апублікаваным у газеце «Звезда») пытання пра абвяшчэнне БССР няма [54]. Калі дзень канферэнцыі пачаў набліжацца, А. Мяснікоў высылае ў Маскву на імя сакратара ЦК РКП(б) і старшыні ЦВК РСФСР Я. Свярдлова тэлеграму: «Некоторые местные работники будируют вокруг вопроса о так называемой Белоруссии. Как передают, по этому поводу Вам из Минска была послана телеграмма. Изложенное в ней является частным мнением. Ставшая на очередь литовская проблема как будто бы может стать общей и для Запобласти. Ввиду того, что в некоторых кругах местных Советов и на областной партийной конференции вопрос этот может всплыть, просил бы сообщить, как обстоит дело с литовской властью, не объясняется ли ее появление исключительно политическими агитационными мотивами?..» [55].

Які адказ А. Мяснікоў атрымаў ад Я. Свярдлова, мы не ведаем, але ў газеце «Западная коммуна» (орган Аблвыкамзаха) 21.12.1918 г. (г. зн. за 6 дзён перад адкрыццём 6-ай абласной партыйнай канферэнцыі) публікуецца рэдакцыйны артыкул «Национальные республики Советов». У артыкуле даводзіцца патрэба захаваць вобласці і немэтазгоднасць тварыць нацыянальныя рэспублікі, якія, калі і творацца, то выключна дзеля тактычных меркаванняў. «Спрашивается, зачем эта игра в советские республики?.. Ведь для нас ясно, что Совет-

ская власть ставит своей задачей... не создание национальной обособленности в рамках маленьких национальных государств, а снесение всяких национальных рогаток. Провозглашение Советской республики Белоруссии не только не служило бы интересам борьбы с националистическими тенденциями мелкой буржуазии, но как раз развивало бы простор этим тенденциям. А это не в интересе социалистической революции. То, что мы признаем допустимым в одном месте в силу тактических соображений, не должно быть перенесено в другие места, где таковых практически соображений нет и быть не может» [56].

У той самы дзень, 21.12.1918 г., у Маскве адкрываецца канферэнцыя Беларускіх секцый РКП(б), на якую прыслалі сваіх дэлегатаў 6 секцый — Маскоўская, Петраградская, Саратаўская, Тамбоўская, Менская і Невельская. Канферэнцыя, якая працягвалася да 23.12.1918 г., выбірае ЦБ Беларускіх секцый РКП(б)— З. Жылуновіч, Ф. Балбека, А. Чарвякоў, І. Няцецкі, М. Драко-Дракан, Я. Дыла; пастанаўляе склікаць усебеларускі з'езд Беларускіх секцый РКП(б) у намеры заснаваць сваю асобную Беларускую Камуністычную партыю (БКП), і самае галоўнае — ідучы за прыкладам толькі што праклямаваных Эстонскай (29.11.1918 г.), Летувіскай (16.12.1918 г.) і Латвійскай (17.12.1918 г.) ССР, 22.12.1918 г. прымае пастанову пра абвяшчэнне БССР. Пасля канферэнцыі ЦБ Беларускіх секцый РКП(б) інфармуе Сталіна пра ейны прабег і прынятыя на ёй пастановы [57].

23.12.1918 г., г. зн. на другі дзень па прыняцці канферэнцыяй Беларускіх секцый РКП(б) пастановы пра абвяшчэнне БССР, ЦВК РСФСР (за подпісам Я. Свярдлова) прымае пастанову пра «абласныя аб'яднанні». Згодна з гэтай пастановаю, на хадайніцтва Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РКП(б) і Аблвыкамзаха, падтрыманых Народным Камісарыятам унутраных спраў РСФСР, Заходняя камуна як тэрытарыяльна-адміністрацыйная адзінка РСФСР зацвярджаецца і надалей вобласцю ў складзе Смаленскай, Магілёўскай, Віцебскай, Менскай і Горадзенскай губерняў (частка Віленскай і Ковенская губерні ў сувязі з паўстаннем Летувіскай ССР з яе выключаюцца) [58].

Толькі 24.12.1918 г. у беларускім пытанні прымаецца якаясь пастанова ЦК РКП(б). Дагэтуль яна не апублікавана, і мы не ведаем, дзеля якіх мэт была прынята. Пастанова ЦК прадухіліла канфлікт і разрыў паміж Беларускімі секцыямі РКП(б) і маскоўскім бальшавіцкім цэнтрам ды сталася паваротнай у справе зрэалізавання абвяшчэння БССР.

25.12.1918 г. Сталін запрасіў да сябе на нараду кіраўнікоў Белнацкома і прапанаваў ім вылучыць кандыдатаў ва ўрад БССР і на старшыню ўрада. У Белнацкоме зараз жа склікаецца надзвычайнае пасяджэнне супрацоўнікаў Белнацкома, ЦБ Беларускіх секцый РКП(б) і камітэта Маскоўскай секцыі [59]. У тым жа дні Сталін выклікае «к аппарату для разговора по очень важному вопросу» А. Мяснікова і паведамляе яму, што «ЦК партии по многим соображениям, о которых теперь говорить не приходится, согласился с белорусскими товарищами на образование Белорусского советского правительства [60]... Очевидно, придется на несколько дней отложить вашу областную конференцию. Все это абсолютно необходимо для того, чтобы в будущем избежать возможных недоразумений. Говорю все это по поручению ЦК партии» [61]. Сказанае ён паясніў, што у сутнасці, «необходимо произвести только некоторые изменения конструкции Облискомзапа» [62]. Таму для вырашэння «вопросов, имеющих громадное практическое значение», А. Мяснікову прапанавана неадкладна выехаць у Маскву [63].

27.12.1918 г. Сталін тэлеграфаваў у Менск прадстаўніку СНК РСФСР: «Сегодня я договорился с Мясниковым и Калмановичем. С белорусами тоже. Вопрос не вызовет на конференции никаких трений, ибо конференция будет иметь дело с решением ЦК партии... Все вопросы перестройки Облискомзапа уже решены» [64].

6-ая Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РКП(б), на каторую Беларускія секцыі РКП(б) дэлегавалі З. Жылуновіча, Я. Лагуна, П. Клыша і В. Ханіна [65], была перанесена з 27 на 30 снежня. Парадак дня канферэнцыі застаўся той самы, што быў прыняты 2.12.1918 г.

Асобнага пытання пра абвяшчэнне БССР на парадку дня не было. Адно, на дырэктыву ЦК РКП(б), у даклад А. Мяснікова па пытанню «Бягучы момант» устаўлены пункт «Беларуская Савецкая рэспубліка» [66]. 30.12.1918 г. канферэнцыя прымае агульную рэзалюцыю пра абвяшчэнне БССР (дакладней: ССРБ — Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусі) з цэнтрам у Менску. На прапазіцыю адмысловай камісіі, выбранай канферэнцыяй, прымаецца асобная пастанова ў справе тэрыторыі БССР, куды ўлучаюцца Менская, Магілёўская і Горадзенская губерні цалкам, Віцебская без частак Дзвінскага, Рэжыцкага і Люцынскага паветаў, Смаленская без Гжацкага, Сычаўскага, Вяземскага і Юхнаўскага паветаў, а таксама Вілейскі і часткі Ашмянскага і Свянцянскага паветаў Віленскай губерні, частка Нова-Аляксандраўскага павета Ковенскай губерні, Аўгустоўскі павет Сувалкаўскай губерні, Суражскі, Мглінскі, Стaрадубскі і Навазыбкаўскі паветы Чарнігаўскай губерні [67].

Канферэнцыя «дала отпор» прадстаўнікам Беларускіх секцый РКП(б), «пробовавшим протянуть постановление о создании независимой Компартии Белоруссии» [68]. 31.12.1918 г. яна пастанавіла ператварыць Паўночна-Заходнюю абласную арганізацыю РКП(б) у Камуністычную партыю (бальшавікоў) Беларусі (КП(б)Б), але як «составную и неотъемлемую часть РКП(б)», якая «и впредь всецело будет руководствоваться директивами ЦК РКП(б), считая его своим высшим партийным органом» [69].

Насуперак прадбачанням Сталіна, пастановы Смаленскай канферэнцыі (яна пераназвалася ў 1-шы з'езд КП(б)Б) не ўсунулі ўсіх супярэчнасцей і не спынілі далейшага змагання паміж Беларускімі секцыямі РКП(б), з аднаго боку, і ЦБ КП(б)Б і ЦК РКП(б), з другога.

Змаганне разгараецца на самой канферэнцыі, асабліва ў часе выбараў ЦБ КП(б)Б, а яшчэ болей — як толькі канферэнцыя закончылася і ЦБ КП(б)Б, разам з прадстаўнікамі ЦБ Беларускіх секцый РКП(б), прыступілі да фарміравання ўрада БССР на аснове г. зв. «Умоваў утварэння БССР», выстаўленых 27.12.1918 г. ад ЦК РКП(б) і СНК РСФСР [70]. Не зважаючы на тое, што «Умовы» гэтыя і так робяць урад БССР не самастойным (п. 6 «Умоваў» пакідае без змен працы ЦБ партыі і наркаматаў урада такімі ж, як былі правы абласнога камітэта партыі і аддзела Аблвыкамзаха — г. зн. поўнасцю ўзаляжняе цэлы ўрад і кожны ягоны наркамат ад ЦБ КП(б)Б, а праз яго і ад ЦК РКП(б)),— у Смаленску «Умовы» парушаюцца на яшчэ большую некарысць ураду. Найперш старшыня ўрада З. Жылуновіч не выбраны адначасна старшынёй ЦБ КП(б)Б, як таго патрабуе п. 5 «Умоваў» (ім стаўся А. Мяснікоў). На аснове п. 1 «Умоваў» З. Жылуновіч дамагаецца для Беларускіх секцый РКП(б) 10 месцаў ва ўрадзе з усіх 16, а яму даюць 7 з 17 (10 месцаў аддаецца групе Заходняй камуны):
ад Беларускіх секцый РКП(б) —

1) З. Жылуновіч — старшыня ўрада,
2) У. Фальскі — нарком замежных спраў,
3) А. Чарвякоў — нарком асветы,
4) З. Чарнушэвіч — нарком сацыяльнага забеспячэння,
5) Я. Дыла — нарком працы,
6) А. Квачанюк — нарком юстыцыі,
7) І. Пузыроў — нарком аховы здароўя;
ад групы Заходняй камуны —
8) А. Мяснікоў — нарком вайсковых спраў,
9) Р. Пікель — нарком саўнаргаса,
10) І. Рэйнгольд — нарком фінансаў,
11) М. Калмановіч — нарком харчавання,
12) А. Андрэеў — нарком земляробства,
13) С. Іваноў — нарком унутраных спраў,
14) К. Разенталь — нарком пошты і тэлеграфа,
15) І. Савіцкі — нарком шляхоў зносін,
16) С. Берсан — нарком дзяржаўнага кантролю,
17) Ф. Шантыр — нарком нацыянальных спраў (ён — беларускі нацыянал-камуніст, які стаяў на пазіцыях Беларускіх секцый РКП(б) [71].
(7.1.1918 г. ва ўрад уводзяцца яшчэ 2 асобы ад групы Заходняй камуны:
18) Г. Найдзёнкаў — старшыня калегіі ў справах палонных і ўцекачоў і
19) В. Яркін — старшыня ЧК [72].

Такім чынам, урад БССР камплектуецца з 7 (з Ф. Шантырам — з 8) прадстаўнікоў ад Беларускіх секцый РКП(б) — ініцыятараў абвяшчэння БССР і 12(11) ад групы Заходняй камуны — фактычна праціўнікаў БССР. У сувязі з гэтым група З. Жылуновіча ставіць пытанне пра зліццё ЦБ КП(б)Б і ЦБ Беларускіх секцый РКП(б) у адзін партыйны цэнтр на парытэтных пачатках [73], бо ў ЦБ КП(б)Б ад Беларускіх секцый РКП(б) на канферэнцыі было выбрана ўсяго 2 прадстаўнікі (З. Жылуновіч і Я. Лагун) [74] на ўсіх 15 сяброў, прычым і ў самім урадзе на аднаго З. Жылуновіча ад праціўнага боку іх 6 [75]. Калі ж не магла дамагчыся і гэтага, З. Жылуновіч заявіў, што ён не будзе падпарадкоўвацца ЦБ КП(б)Б [76].

Каб развязаць канфлікт, у той жа дзень, 1.1.1919 г., А. Мяснікоў тэлеграфуе ў Маскву са скаргаю на супрацію З. Жылуновіча і ягонае групы, зазначаючы, што З. Жылуновіч не згаджаецца ўключыць у склад урада яго (Мяснікова), Калмановіча і Пікеля ды адмаўляецца апублікаваць маніфест урада пра абвяшчэнне БССР [77]. Адказ з Масквы рашуча падтрымаў групу Заходняй камуны: «Предложение Жилуновича о невключении трех членов нахожу дезорганизаторским и в корне противоречащим решениям партии. Никаких особых решений группы Жилуновича не может быть. Список членов, всего 17, является окончательным. Я требую от Жилуновича, его группы категорического ответа на вопрос, подчиняется ли он беспрекословно решению ЦК партии. Жду срочного ответа. По поручению ЦК партии Сталин» [78].

З. Жылуновіч падпарадкаваўся. Маніфест са спазненнем быў падпісаны (у поспеху толькі 5 сябрамі ўрада з 17 — Жылуновічам, Мясніковым, Івановым, Чарвяковым і Рэйнгольдам), уначы з 1 на 2 студзеня 1919 г. апублікаваны [79]. 2.1.1919 г. на пленуме Аблвыкамзаха была прынята пастанова пра ліквідацыю Заходняй камуны.

5.1.1919 г. урад БССР пераехаў са Смаленска ў Менск.

Так, без удзелу самога беларускага народа, на абласной партыйнай канферэнцыі, паводле дырэктывы ЦК РКП(б) з Масквы, і нат «несмотря на полное несочувствие делегатов» [80] гэтай канферэнцыі, была праклямавана БССР.

Абвяшчэнне БССР не спыніла расейскага вялікадзяржаўнага шавінізму ў КП(б)Б. Побач Магілёўскага губернскага камітэта КП(б)Б, які «единогласно присоединяется к мнению ЦК и ЦБ о необходимости выделения Белоруссии в самостоятельную республику» [81], з боку іншых — паасобных сяброў партыі, цэлых партыйных арганізацый і іхных прэсавых органаў — гэты шавінізм і далей выяўляе сябе ў адкрытай ваяўнічай варожасці да права беларускага народа на нацыянальнае самавызначэнне ў кожнай форме, хоць бы сабе і такой фікцыі беларускай дзяржаўнасці, як БССР.

Вось колькі прыкладаў таму. 7.1.1919 г. у «Известиях Витебского Совета» друкуецца артыкул, у якім кіраўніцтва былой Заходняй камуны абвінавачваецца ў здрадзе сваім ранейшым прынцыпам. І «что, собственно, пикантного в этом вопросе, так это то, что наши областники раньше вели упорную борьбу с национализмом белорусов. Мы видели в «Звезде» ряд статей по этому вопросу. Прибывшие на 3-й областной съезд белорусы-коммунисты получили должный отпор. Прибывшие с целью добиваться переименования Западной области в Белорусскую, они не только не добились этого, но даже не смогли поставить этого вопроса. Больше того, товарищи областники обвинили витебских товарищей за связь с белорусами». Адзін з прамоўцаў на меставай

партыйнай канферэнцыі ў Віцебску ў 1-ай палове студзеня 1919 г. заявіў, што самавызначэнне Беларусі ў інтарэсе толькі мясцовай інтэлігенцыі, «выдумывающей Белоруссию». Другі катэгарычна пацвердзіў, што «ни один рабочий и крестьянин так называемой Белоруссии белорусом себя не считает, а искони знает в себе русского... а поэтому и речи быть не может о самоопределении Белоруссии». Таксама і Віцебская губернская канферэнцыя КП(б)Б у сярэдзіне студзеня 1919 г. у сваёй рэзалюцыі «самым решительным образом высказывается против расчленения Советской России на ряд мелких «самостоятельных» республик». Абвяшчэнне БССР канферэнцыя разглядае «как интеллигентскую затею, обязанную своим происхождением националистическому увлечению товарищей [из] Белорусского комиссариата». Партыйныя і савецкія кіраўнікі Віцебскай губерні звярочваюцца ў ЦК РКП(б) з патрабаваннем: БССР зліквідаваць, а ЦБ КП(б)Б распусціць [82].

Такія настроі ў КП(б)Б змусілі кіраўнікоў КП(б)Б, бліжэй утаямнічаных у сапраўдныя мэты нацыянальнай палітыкі ЦК РКП(б), раскрыць карты. Ужо на самой 6-ай абласной канферэнцыі дакладчык у пытанні абвяшчэння БССР А. Мяснікоў (ён толькі што вярнуўся з Масквы, куды яго ў гэтым пытанні выклікалі), каб «местные товарищи согласились с доводами центра... в целесообразности создания нового положения» [83], хоць і разглядаў абвяшчэнне БССР як якуюсь уступку Беларускім секцыям РКП(б), за галоўны матыў абвяшчэння выстаўляў міжнародны фактар. Заходнія дзяржавы даюць народам «буржуазнае самавызначэнне» (у раёне Заходняй камуны — гэта БНР і Летувіская манархія), яму трэба супрацьпаставіць самавызначэнне на базе савецкай улады. «Нужно противоядие «союзным начинаниям», каторае б з большым шансам магло «замкнуть» «проход», праз які «силы черного интернационала» «устремляются на Советскую Россию» [84]. Іншымі словамі: калі б не было БНР, не тварылася б і БССР; БССР — гэта супрацьвага («противоядие») БНР, клін супраць БНР, і прытым напачатку вылучна прапагандовы, без сапраўднага жадання тварыць яе. Тымі ж матывамі палітычнай кан'юнктуры моманту тлумачыў абвяшчэнне БССР на згаданай Віцебскай губернскай канферэнцыі КП(б)Б сябра ЦБ (і ўрада БССР ад групы Заходняй камуны) Р. Пікель [85], а таксама другі сябра ЦБ (і ўрада БССР ад той жа групы) С. Іваноў на Смаленскай губернскай канферэнцыі КП(б)Б, заявіўшы, што абвяшчэнне БССР — гэта тактычны манеўр партыі з мэтаю паралізаваць палітыку вільсонаўскага лозунгу самавызначэння народаў, ужываную заходнімі дзяржавамі [86]. 24.9.1919 г. сакратар ЦК КП(б) Летувы і Беларусі В. Кнорын у газеце «Звезда» ў гэтай справе пісаў, што «Коммунистическая партия... мотивировала свой шаг исключительно причинами международного характера» [87].

Ні А. Мяснікоў, ні іншыя кіраўнікі КП(б)Б не паклікаліся пры гэтым на самае галоўнае: на права беларускага народа на нацыянальнае самавызначэнне.

Зусім натуральна, што расейскі вялікадзяржаўны шавінізм у КП(б)Б не мог не насцярожваць беларусаў нацыянал-камуністаў, якія не збіраліся складаць зброі. У сваім намеры пераняць кантроль над БССР з рук КП(б)Б «яны (зноў.— А. К.) абмяркоўвалі пытанне аб арганізацыі ў процівагу ёй Беларускай Камуністычнай партыі... Разбітыя ў пытанні аб утварэнні свае Камуністычнае партыі, яны прабавалі арганізаваць асобна прыязджаючых з Савецкай Расеі беларусаў-камуністаў і тварыць нацыянальна-беларускія секцыі» [88]. Але ЦБ КП(б)Б 15.1.1919 г. прымае пастанову пра ліквідацыю і Беларускіх секцый [89]. 17.1.1919 г. яно публікуе ў гэтай справе ў газеце «Звезда» афіцыйнае паведамленне. У ім гаворыцца, што «некаторыя сябры партыі працягваюць называць сябе «беларускімі камуністамі»... Яны вядуць нацыяналістычную агітацыю, уносяць дэзарганізацыю ў партыйную і савецкую працу. Таму мясцовым партыйным арганізацыям прапануецца лічыцца толькі з ЦБ і мясцовымі камітэтамі Кампартыі Беларусі... а Беларускія камуністычныя секцыі ліквідуюцца, выдадзеныя імі партыйныя сяброўскія білеты губляюць сваю сілу» [90]. 16.1.1919 г. (праз 2 тыдні па абвяшчэнні БССР) ЦК РКП(б) пастанаўляе адарваць ад БССР 3 губерні — Віцебскую, Смаленскую і Магілёўскую — ды далучыць іх да РСФСР [91]. Каб правесці пастанову ў жыццё, з Масквы ў Менск камандзіруецца прадстаўнік ЦК Іофе [92].

Маскоўская пастанова ў Менску здавалася нагэтулькі неверагоднай і непрымальнай, што ніякія аргументы Іофе на спецыяльным пасяджэнні ЦБ КП(б)Б 22.1.1919 г. не маглі пераканаць нават прамаскоўскае ЦБ, якое ў поўнасці з пастановаю ЦК не згадзілася. Калі пра гэта было паведамлена ў Маскву, стуль 26.1.1919 г. ад Я. Свярдлова прыйшла тэлеграма: «...Цэка пацвярджае сваю папярэднюю пастанову, выказаную тав. Іофе...» [93]. Тады ЦБ КП(б)Б 27.1.1919 г. дэлегуе ў Маскву 2 сяброў ЦБ да Леніна. Ленін, які на пасяджэнні ЦК РКП(б) 16.1.1919 г. сам галасаваў за гэтую пастанову, у просьбе дэлегацыі адмовіў [94]. Дэлегацыя не паспела даехаць да Менска, як ад Я. Свярдлова 30.1.1919 г. на імя старшыні ўрада З. Жылуновіча прыйшла новая тэлеграма ў дыктатарскім тоне: «Дэлегатам Цэбэ было рашуча адмоўлена ў адмене пастановы Цэка. Пацвярджаю: Віцебская, Магілёўская, Смаленская губерні адыходзяць; у Беларусі застаюцца 2 губерні — Менская і Горадзенская [95]. Дадаю пастанову Цэка правесці на з'ездзе Беларусі аб'яднанне з Летувою... Сёння па прамым провадзе ў мяне пыталіся з Магілёва са з'езда пра пастанову Цэка аб іхняй губерні. Паведамілі тэлеграмы Вашы і Цэбэ. Лінія Цэка і там пройдзе бясспрэчна. У Віцебску таксама. Смаленск пад сумнівам, але падпарадкаванне будзе безумоўнае, як і на з'ездзе ў Менску» [96].

Ужо ў канцы студзеня 1919 г. Магілёўская, Віцебская і Смаленская губерні, а таксама 4 паветы Чарнігаўскай, адышлі да РСФСР. Гэты бесцырымонны акт гвалту і грубага па-

рушэння суверэнных правоў беларускага народа і новая, на прапазіцыю Леніна [97], пастанова ЦК РКП(б) пра аб'яднанне рэшты БССР з Летувіскай ССР у адну г. зв. ЛітБел, што фактычна ёсць ліквідацыя БССР, выклікалі ва ўрадзе БССР крызіс. На знак пратэсту супраць такіх метадаў паступавання Масквы з Беларуссю (як і папярэдніх забарон тварыць БКП, роспуску Беларускіх камуністычных секцый, недапушчэння ў БССР беларускае прэсы [98] і г. д.) у канцы студзеня 1919 г. урад БССР пакідаюць 3 наркомы — Ф. Шантыр, У. Фальскі і Я. Дыла [99].

ЦБ КП(б)Б і сябры ўрада ад групы Заходняй камуны ў духу патрабаванняў Леніна і Свярдлова арганізоўваюць старанны падбор дэлегатаў на 1-шы з'езд саветаў БССР. Таму на з'ездзе, які адбыўся 2—3.2.1919 г. у Менску, былі дэлегаты, не выбраныя дэмакратычным спосабам і ў няправільнай прапорцыі ад паасобных губерняў (121 — ад Менскай, 11 — ад Горадзенскай, 25 — ад Вілейскага павета Віленскай), а таксама ад губерняў, якія ўжо адышлі ад БССР (48 — ад Смаленскай, 10 — ад Магілёўскай, 0 — ад Віцебскай) і 7 — ад уцекачоў. 213 з іх — сябры КП(б)Б, а рэшта — «спачуваючыя ёй» [100]. Нічога дзіўнага, што і групу беларускіх нацыянал-камуністаў на з'ездзе спаткаў поўны разгром.

З'езд апрабуе ўсе, прадыктаваныя ЦК РКП(б), вымогі: абвяшчэнне БССР; адарванне ад яе Віцебскай, Смаленскай, Магілёўскай і часткі Чарнігаўскай губерняў, далучаных да РСФСР; неадкладны ўваход рэшты БССР у РСФСР і, урэшце, ліквідацыю БССР ці зліццё яе з Летувіскай ССР у адну для абодвух народаў ЛітБел, каб супольна змагацца з «Летувіскай Тарыбай і Беларускай Радай», якія нібы «выступаюць супраць работнікаў і сялян Беларусі і Летувы адзіным контррэвалюцыйным фронтам» [101]. Выбраны з'ездам ЦВК БССР стварае 5.2.1919 г. пад старшынствам А. Мяснікова новы ўрад БССР не толькі без Ф. Шантыра, У. Фальскага і Я. Дылы, але і без З. Жылуновіча, А. Чарвякова і А. Кваванюка [102]. З групы былых Беларускіх секцый РКП(б) у новым урадзе застаюцца ўсяго З. Чарнушэвіч і І. Пузыроў [103].

У той жа дзень (5.2.1919 г.) газета «Звезда» ў рэдакцыйным артыкуле «К итогам съезда Советов Белоруссии» сваім чытачам тлумачыць: «Почему съезд ограничился только пожеланием о вступлении в Российскую Советскую федерацию, почему он сразу не претворил в дело свое пожелание о полном объединении с Россией? Для этого были очень и очень важные причины международно-политического характера. Перед Белоруссией был поставлен вопрос, как она принесет больше пользы... существуя как самостоятельная республика или сливаясь с РСФСР. И после зрелого и всестороннего обсуждения данного вопроса... политическая мудрость говорит нам, что мы должны пока существовать самостоятельно» [104]. Разам з тым, працягвае артыкул, «съезд подтвердил, что потуги белорусской националистической интеллигенции к созданию «своего» белорусского языка, «своей» национальной культуры напрасны... Пусть примут это к сведению белорусские писатели» [105].

27.2.1919 г. на апошнім, сумесным пасяджэнні ЦВК БССР і ЦВК Летувіскай ССР спынілі сваё існаванне БССР і Летувіская ССР. На іхным месцы творыцца новы прадукт нацыянальнай палітыкі РКП(б) — Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Летувы і Беларусі (ЛітБел, са сталіцай у Вільні). У кіруючыя органы гэтай новай рэспублікі не ўводзіцца ніхто з беларусаў [106].

За 3 дні перад тым, 24.2.1919 г., выходзіць апошні № 5—49 «Дзянніцы» ў Маскве. У ім чытачам паведамляецца, што «наша газета зачыняецца, і гэты нумар з'яўляецца развітальным. Замест яе,— выказвае надзею рэдакцыя,— будзе арганізавана камуністычная газета на беларускай мове ў адным з цэнтраў Беларускай Савецкай Рэспублікі: у Менску ці ў Вільні». [107]. У сакавіку ліквідуецца і Белнацком [108]. Адгэтуль на ўсім савецкім баку лініі фронту ўжо няма ніякае беларускае прэсы [109] (пасля стольскіх беларускіх газет і часопісаў у БНР!) і ніякіх беларускіх савецкіх устаноў.

Ліквідацыя БССР і тварэнне ЛітБела не прынеслі для РКП(б) спадзяванага эфекту. А ўжо што казаць пра беларусаў і летувісаў. Гаспадарчы хаос, голад, беззаконне і тэрор шалелі з той жа лютасцю. Усё гэта выклікала ў Беларусі новую хвалю антысавецкіх паўстанняў: у сакавіку — Рагачоўскае [110], Кармянскае [111], Гомельскае і Рэчыцкае [112], у красавіку — Слуцкае і Старобінскае [113], Нясвіжскае [114], Барысаўскае [115], Полацкае [116] і іншыя.

У бальшавікоў зямля гарэла пад нагамі. У такіх акалічнасцях польскае войска, падтрыманае заходнімі аліянтамі, пачынае наступ на ЛітБел, хутка пасоўваючыся на ўсход. 21.4.1919 г. яно займае Вільню, скуль урад ЛітБела эвакуіруецца ў Менск; а 17.7.1919 г., калі з літбелаўскай тэрыторыі на савецкім баку застаецца колькі ўсходніх паветаў Меншчыны, ЦК РКП(б) распускае кіруючыя органы ЛітБела, перадаючы ўладу ў гэтых паветах Менскаму губернскаму вайскова-рэвалюцыйнаму камітэту (ВРК) у Бабруйску, ЛітБел перастала існаваць.

8.8.1919 г. палякі займаюць Менск і ідуць далей на ўсход, да лініі р. Заходняя Дзвіна — Полацк — Лепель — Барысаў — Рагачоў — Жлобін. ВРК выязджае ў Смаленск.

У неспрыяльных умовах польскай акупацыі Рада і Урад БНР дзеюць у кірунку аднаўлення БНР. Хутка ўмовы гэтыя спрычыняюць чарговую ініцыятыву ў заснаванні БКП. У скрайняй апазіцыі да польскай акупацыі БНР, 1.1.1920 г. ад беларускай партыі эсэраў (БПС-Р), адной з партый Рады БНР, адкалолася найбольш левая група («Маладая Беларусь») і перайменавалася ў Беларускую Камуністычную Арганізацыю (БКА). Узначаленая некаторымі выкладчыкамі і студэнтамі Беларускага педагагічнага інстытута ў Менску, настаўнікамі і грамадска-культурнымі працаўнікамі — У. Ігнатоўскім, Я. Каранеўскім, А. Сташэўскім, М. Гурыным (Маразоў-

скім), Л. Родзевічам, М. Кудзелькам (Чаротам), А. Капуцкім і іншымі — яна ідзе ў падполле і арганізоўвае супраць польскіх вайсковых гарнізонаў партызанскі рух. Баявыя «сялянскія дружыны» БКА, кіраваныя ейным Беларускім паўстанскім камітэтам, дзейнічаюць у Менскім, Слуцкім, Ігуменскім, Слонімскім, Горадзенскім, Лідскім і Дзіснескім паветах [117].

У ліпені — пачатку жніўня 1920 г. Чырвоная Армія зноў займае сярэднюю і заходнюю Беларусь, ідучы на Варшаву. Але 17 жніўня польская армія пачала контрнаступ, змусіўшы яе да адступлення на ўсход. У абарону БНР узнімаюцца новыя паўстанні: у ліпені месяцы — Койданаўскае (г. зв. 4-дзённая «Койданаўская Незалежная Рэспубліка» [118] і 27.11.—28.12.1920 г. найбольшае — Слуцкае. Каля 10 000 паўстанцаў, зарганізаваных у 2 палкі (Слуцкі і Грозаўскі), на чале Рады Случчыны (старшыня — адвакат У. Пракулевіч) і пад камандаю вайсковага штаба (палкоўнік Гаўрыловіч, капітаны А. Сокал-Кутылоўскі, Анцыповіч, Семянюк, маёр Якубецкі і інш.) у баях з аддзеламі 16-ай савецкай арміі болей за месяц утрымліваюць уладу БНР у 15 валасцях Случчыны (цяперашніх Слуцкім, Капыльскім, Салігорскім, Чырвонаслабодскім і ўсходніх частках Клецкага і Нясвіжскага раёнаў) [119].

ЦК РКП(б) дзеля няўдачы з ЛітБелам, а мо і пад націскам антысавецкіх паўстанняў вырашае зноў змяніць сваю нацыянальную палітыку ў беларускім пытанні і вярнуцца назад, да канцэпцыі БССР. І вось: як без удзелу беларускага народа 1-шы з'езд саветаў БССР, на вымогу ЦК РКП(б), пастанавіў зліквідаваць БССР, так без удзелу народа 31.7.1920 г., з апрабаты таго ж ЦК, на сумесным пасяджэнні неразвязанага ЦК КП(б) Летувы і Беларусі з прадстаўнікамі БКА, Бунда і прафсаюзаў Менскай губерні прымаецца «Дэкларацыя» пра 2-ое абвяшчэнне БССР. Уся ўлада, паводле дэкларацыі, перадаецца ВРК БССР з 5 асоб — А. Чарвякова, Я. Адамовіча і В. Кнорына (ад КП(б) Летувы і Беларусі), У. Ігнатоўскага (ад БКА) і А. Вайнштэйна (ад Бунда) [120]. 2-гі з'езд саветаў БССР, скліканы на 13—17.12.1920 г. у Менску, дзе, як і на 1-ым з'ездзе саветаў, былі дэлегаты, не выбраныя дэмакратычным спосабам і толькі з адной (і то няпоўнае) Менскае губерні, зацвярджае 2-ое абвяшчэнне БССР і выбірае ЦВК на чале з А. Чарвяковым. Тэрыторыю гэтай 2-ой БССР, яшчэ большай фікцыі беларускай дзяржаўнасці, ЦК РКП(б) абмяжоўвае ўсяго да 6 паветаў адной Менскай губерні [121] з плошчай у 52,3 тысячы кв. км і з насельніцтвам у 1 144 000 чалавек [122].

Беларуская Камуністычная Арганізацыя, як самастойная партыя, у БССР не дазваляецца, і ў жніўні месяцы 1920 г., на прапазіцыю А. Чарвякова [123], яна ўлучаецца ў КП(б) Летувы і Беларусі (ад 5.9.1920 г.— у адноўленую КП(б)Б).

Ад гэтага часу ў самой КП(б)Б да былых сяброў Беларускіх секцый РКП(б) і БКА далучаюцца іншыя адказныя беларускія камуністы — Я. Адамовіч, А. Баліцкі, З. Прышчэпаў і г. д. У 1920-ыя гады беларусы, падтрыманыя імі, «айцамі» 1-ае і 2-ое БССР, легальнай дарогай дамагліся частковага пашырэння тэрыторыі БССР і пэўных магчымых поспехаў у адбудове гаспадаркі і развіцці нацыянальнай беларускай культуры, навукі і мастацтва.

Заканчэнне будзе.

---

[1] Расейская Камуністычная партыя (бальшавікоў), цяпер пераназваная ў КПСС.

[2] ...

[3] Турук Ф. Белорусское движение. Москва, 1921, б. 42.

[4] Краўцоў М. 20 гадоў назад — час. «Шлях моладзі». Вільня, 1938, № 4(120), б. 4.

[5] Жылуновіч З. Беларускія секцыі РКП(б) і стварэнне Беларускай Савецкай Рэспублікі — час. «Полымя», Менск, 1928, № 10, б. 77.

[6] Турук Ф. Там жа, б. 33.

[7] Беларуская Савецкая Энцыклапедыя (БелСЭ). Мінск, 1970, т. 2, б. 229—231.

[8] Жылуновіч З. Там жа, б. 81; БелСЭ, т. 2, б. 260.

[9] БелСЭ. Там жа.

[10] Упершыню дэкрэт апублікаваны ў «Газете рабочего и крестьянского правительства», № 24 за 2—15.2.1918 г.

[11] Турук Ф. Там жа, б. 42—43; Жылуновіч З. Там жа, б. 78.

[12] Круталевич В. Организация и деятельность Белорусского национального комиссариата (1918—1919 гг.) — час. «История СССР», 1963, № 6, б. 118. Прозвішча ягонае ні тут, ні ў іншых вядомых публікацыях не называецца.

[13] Жылуновіч З. Там жа, б. 79—84, 91.

[14] Турук Ф. Там жа, б. 42.

[15] Там жа, б. 43; БелСЭ, т. 2, б. 230.

[16] Турук Ф. Там жа; БелСЭ, т. 2, б. 243.

[17] Тут з пісьменнікаў друкуюцца Ц. Гартны, А. Гурло, М. Гарэцкі, пачынаючыя Я. Нёманскі, П. Каравайчык і інш.

[18] БелСЭ, 1971, т. 4, б. 221.

[19] Турук Ф. Там жа, б. 43; Жылуновіч З. Там жа, б. 79; БелСЭ, т. 2, б. 242—243.

[20] Турук Ф. Там жа, б. 43; Гісторыя беларускай савецкай літаратуры, т. 1. АН БССР, Мінск, 1965, б. 559.



**Язэп Драздовіч.** Усяслаў Полацкі ў порубе пад палатамі кіеўскага князя. Алей, 1923 г.



Беларускі майстар са Шклова Сцяпан Іваноў («Палубес»). Евангелісты Мацвей, Марк, Іаан, Лука. Керамічныя рэльефы на барабане купала Успенскай царквы ў Ганчарнай слабадзе Масквы. Другая палова XVII ст. Яркі ўзор важнейшага дасягнення беларускіх майстроў-цаніннікаў — выкарыстанне невядомай на той час у Маскоўіі тэхнікі рэльефнай паліхромнай кафлі.



**Язэп Драздовіч.** Пагоня. Алей, 1927 г.

[21] Документы и материалы по истории Белоруссии, т. 4. АН БССР, Минск, 1954, б. 391.
[22] Там жа, б. 403.
[23] Час. «Чырвоны шлях», № 3—4 за 25.8.1918 г., б. 26.
[24] Там жа, б. 28.
[25] Там жа, № 5—6 за 13.10.1918 г., б. 8.
[26] Час. «Полымя», 1971, № 5, б. 149 (поўная справаздача спатканняў — у «Дзянніцы», № 21 за 26.8.1918 г.).
[27] Круталевіч В. Там жа, б. 122.
[28] Час. «Полымя». Там жа, б. 148.
[29] Час. «Чырвоны шлях», № 3—4 за 25.8.1918 г., б. 25—26.
[30] Там жа, б. 25.
[31] Там жа, б. 30—31.
[32] Круталевіч В. Пасля абвяшчэння рэспублікі — час. «Полымя», 1966, № 9, б. 129—130.
[33] Канчер Е. С. Белорусский вопрос. Петроград, 1919, б. 98.
[34] Круталевич В. На імя Леніна — час. «Полымя», 1965, № 4, б. 104.
[35] КП(б)Б у рэзалюцыях (1903—1921 гг.), ч. 1. Менск, 1934, б. 92.
[36] Там жа, б. 110.
[37] Азараў С., Каменская Н. На варце заваёў Кастрычніка — час. «Полымя», 1967, № 12, б. 224.
[38] БелСЭ, 1975, т. 12, б. 138; Гісторыя БССР, т. 3. АН БССР, Мінск, 1973, б. 103.
[39] БелСЭ, 1974, т. 10, б. 496; Гісторыя БССР, т. 3, б. 111.
[40] Гісторыя БССР, т. 3, б. 103.
[41] Пазнейшы (у 1925—1929 гг.) нарком земляробства БССР.
[42] Азараў С., Каменская Н. Там жа.
[43] Гісторыя БССР. Там жа.
[44] Азараў С., Каменская Н. Там жа.
[45] Круталевіч В. Ля вытокаў — час. «Полымя», 1969, № 8, б. 167.
[46] Экспедиционно-карательный отдел.
[47] Віцьбіч Ю. Сорак год таму паўсталі веліжане — газ. «Бацькаўшчына». Мюнхен, 1958, № 49—50 (436—437).
[48] «Со святыми упокой» («Синодик» ахвяр бальшавізму 1917—1922 гг., уложаны ў СССР «для келейного и храмового молитвенного поминовения», экземпляр якога ў 1975—1976 гг. трапіў на Захад і апублікаваны — «Религия и атеизм в СССР. Ежемесячный обзор». Мюнхен, октябрь 1976 г., б. 5).
[49] № 278 (перадрук. Комитеты бедноты Белоруссии. Сборник документов и материалов, № 119. АН БССР, Минск, 1958, б. 146).
[50] Там жа.
[51] Там жа.
[52] Круталевіч В. Абвяшчэнне рэспублікі — час. «Полымя», 1968, № 9, б. 178.
[53] Жылуновіч З. Там жа, б. 81—82.
[54] Круталевіч В. Там жа, б. 174.
[55] Там жа, б. 178—179.
[56] Там жа, б. 179.
[57] Турук Ф. Там жа, б. 44; Жылуновіч З. Там жа, б. 85—92; Круталевіч В. Там жа, б. 180—181.
[58] Круталевіч В. Там жа, б. 173—175.
[59] Там жа, б. 181—182, 188.
[60] Там жа, б. 180.
[61] Там жа, б. 181.
[62] Там жа, б. 197.
[63] Там жа, б. 181.
[64] Там жа, б. 182.
[65] БелСЭ, т. 2, б. 260.
[66] Круталевіч В. Там жа, б. 183.
[67] Документы по истории советско-польских отношений, т. 2. Москва, 1964, б. 446.
[68] Образование СССР. Сборник документов. 1917—1924. Москва — Ленинград, 1949, б. 454.
[69] Очерки истории Коммунистической партии Белоруссии, ч. 1. Институт истории при ЦК КПБ, Минск, 1961, б. 348.
[70] Новікава Ф. Перамога Савецкай улады на Беларусі і ўтварэнне БССР — час. «Камуніст Беларусі», 1958, № 4, б. 36—37.
[71] Турук Ф. Там жа, б. 45; БелСЭ, 1974, т. 11, б. 208.
[72] БелСЭ. Там жа.
[73] Круталевіч В. Там жа, б. 189; Круталевіч В. На імя Леніна, б. 103; Очерки... Там жа, б. 350.
[74] БелСЭ, т. 2, б. 260.
[75] Мяснікоў А., Пікель Р., Рэйнгольд І., Іваноў С., Калмановіч М., Андрэеў А. (а ад 7.1.1919 г.— яшчэ Найдзёнкаў Г. і Яркін В.); БелСЭ, т. 11, б. 145.
[76] Круталевіч В. Абвяшчэнне рэспублікі, б. 189.

[77] Там жа; Круталевіч В. На імя Леніна, б. 103.
[78] Круталевіч В. Абвяшчэнне рэспублікі, б. 189—190.
[79] Там жа, б. 190.
[80] Тая ж тэлеграма А. Мяснікова ў Маскву ад 1.1.1919 г. (Там жа, б. 184).
[81] Рэзалюцыя, апублікаваная ў газ. «Звезда» 31.1.1919 г. (Там жа, б. 200).
[82] Там жа, б. 198—201. («Известия...» за 7, 16 і 22 студзеня 1919 г.).
[83] Тая ж тэлеграма А. Мяснікова ў Маскву ад 1.1.1919 г. (Там жа, б. 184).
[84] Пратакол 1-га з'езда Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі. Менск, 1934, б. 15. (Там жа, б. 183—184).
[85] Газ. «Известия...» за 22.1.1919 г. (Там жа, б. 205).
[86] Газ. «Известия Смоленского Совета» за 26.1.1919 г. (Там жа).
[87] Круталевіч В. Там жа, б. 184.
[88] Сакратар ЦК КП(б)Б Кнорын В. У час паміж нямецкай і польскай акупацыямі — зб. «Кастрычнік на Беларусі», вып. 1. Улажыў С. Агурскі, Менск, 1927, б. 287.
[89] БелСЭ, т. 2, б. 260.
[90] Круталевіч В. Там жа, б. 190. (У нас цытуецца пераказ «паведамлення» словамі В. Круталевіча).
[91] Шкляр Я. Старонкі гераічнай гісторыі — час. «Полымя», 1966, № 3, б. 134.
[92] Там жа; Свердлов Я. М. Избранные произведения, т. 3. Москва, 1960, б. 231.
[93] Свердлов Я. М. Там жа, б. 139.
[94] В. Круталевіч у артыкуле «Пасля абвяшчэння рэспублікі» (б. 133—135) на аснове пратакола справаздачы дэлегацыі пасяджэння ЦБ 31.1.1919 г. узнаўляе гэтыя перамовы з Леніным.
[95] Прычым з Горадзенскай губерні — толькі ўсходняя ейная частка; заходняя з самой Горадняй будзе занята Чырвоная Арміяй на кароткі час адно ў ліпені 1920 г.
[96] Свердлов Я. М. Там жа, б. 142—143.
[97] БелСЭ, 1972, т. 6, б. 396; т. 12, б. 199.
[98] ЦБ КП(б)Б у гэтай справе была прынята пастанова: «Выданне беларускай газеты прызнаць непажаданым» — Круталевіч В. Пасля абвяшчэння рэспублікі, б. 141.
[99] Кнорын В. Там жа.
[100] Турук Ф.— газ. «Звезда» за 4.2.1919 г., № 364, б. 45.
[101] Шкляр Я. Там жа, б. 135.
[102] Заміж іх у новы ўрад уводзяцца: П. Пятроў — нарком замежных спраў, Мандэльштам — нарком нацыянальных спраў, Н. Свярдлоў — нарком працы, І. Саваціеў — нарком асветы і А. Гэтнэр — нарком юстыцыі (Круталевіч В. Першы беларускі ўрад — час. «Полымя». 1966, № 1, б. 139).
[103] Там жа, б. 140.
[104] Круталевіч В. Пасля абвяшчэння рэспублікі, б. 139—140.
[105] Круталевіч В. На імя Леніна, б. 106.
[106] Ад былой групы Заходняй камуны ў Прэзідыум ЦВК ЛітБел увайшлі Іваноў і Пікель, а ва ўрад — Калмановіч, Савіцкі, Разенталь і Берсан — БелСЭ, т. 6, б. 396—397.
[107] Александровіч С. Першая беларуская савецкая газета — час. «Полымя», 1968, № 4, б. 226.
[108] БелСЭ, т. 2, б. 243.

[109] Паводле пастановы ЦК злучанай КП(б) Летувы і Беларусі ейнымі прэсавымі органамі ў ЛітБел былі газеты «Звезда» па-расейску, «Mlot» па-польску, «Komunistas» па-летувіску і «Штэрн» па-жыдоўску — «Очерки...», б. 358.
[110] БелСЭ, т. 10, б. 496; т. 9, б. 17.
[111] Там жа, т. 10, б. 496; час. «Беларусь», 1960, № 11, б. 5.
[112] БелСЭ, т. 10, б. 73—74; час. «Полымя», 1973, № 12, б. 154—156; Гісторыя БССР, т. 3. АН БССР, Мінск, 1973, б. 161—162.
[113] Час. «Полымя», 1966, № 4, б. 111; 1968, № 11, б. 164.
[114] Там жа.
[115] Там жа, 1966, № 4, б. 111.
[116] БелСЭ, т. 8, б. 485.

[117] Турук Ф. Там жа, б. 61. (Тут БКА завецца: Камуністычная арганізацыя беларускіх сялян і работнікаў); Ігнатоўскі У. Камуністычная партыя Беларусі і нацыянальнае пытанне — зб. «Беларусь» пад рэд. А. Сташэўскага, З. Жылуновіча, У. Ігнатоўскага. Выд. ЦВК БССР, Менск, 1924, б. 231; БелСЭ, 1975, т. 12, б. 140.
[118] Гл. артыкул І. Шпілеўскага і Л. Баброўіча ў час. «Наш край», 1929, № 3—42, 10; Віцьбіч Ю. Як з'явіўся на мапе беларускі Дзяржынск — газ. «Бацькаўшчына» за 29.6.1952 г., № 25—26 (104—105).
[119] Найдзюк Я. Беларусь учора і сяння. Менск, 1944, б. 179—183; БелСЭ, т. 9, б. 593 і 595.
[120] БелСЭ, 1971, т. 4, б. 357; Ігнатоўскі У. Там жа.
[121] Няпоўных Менскага, Барысаўскага, Слуцкага і Мазырскага паветаў, Ігуменскага і Бабруйскага. Часткі першых 4-х паветаў і паветы Навагрудскі і Пінскі Менскай губерні ў жніўні месяцы 1920 г. адышлі пад Польшчу.
[122] БелСЭ, т. 10, б. 432.
[123] Час. «Полымя», 1971, № 5, б. 156.

## Сяржук СОКАЛАЎ-ВОЮШ

* * *

Стромкія вогнішчы даўніх муроў,
Чыстыя вогнішчы нашага краю,
Белым пажарам у неба шугаюць,
Барвай палаюць між вольных вятроў.

Часу спадужнікі, служкі нябёс,
Срэбна-ірдзяныя сёстры агнісак,
Я каля вас — толькі прывідны прысак
Вашых гаротна-скрываўленых слёз.

Стромкія вогнішчы даўніх муроў,
Полыскі дойлідскіх думак гарачых,
Полыскі гневу і полыскі плачу,
Водгалас продкаў маіх — ваяроў.

Як жа ж у кволыя рукі мае
Аддаяце свой парыў непакорны?
Як зварухнуць мне гісторыі жорны,
Калі на дробнае сіл не стае?

Ноч загараецца ў роснай траве,
Ноч узыходзіць над стомленым светам,
Пахне легендамі, казкамі, летам,
Птушка гібейла крычыць на дрыгве.

Дзе вы, нашчадкі былых муляроў?
Дзе ты, мінулая слава Айчыны?
Клічна палаюць апошняй лучынай
Стромкія вогнішчы даўніх муроў...

Продкі насілі на целе крыжы,
Я ж ад паганскае, даўняе веры,
Раб спракаветны пяра і сякеры,
Сонца, нягоды, сутоння, імжы...

Ціха на жэглішчы. Выстыла кроў.
Меч выцірае раз'юшаны карнік.
Людзі сканалі. Застаўся ахвярнік —
Вечныя вогнішчы даўніх муроў.

# МАГДАЛІНА

Прысягалі на Біблії, крыж цалавалі,
Неадкладнай расправы прасілі ў суда,
Гніль зубоў у таемных усмешках хавалі
І чакалі знішчэння. Гула грамада:
— Пакарай яе, Божа!
— На згубу!
— На згубу!
— Асудзі за распусту!
— О! Гнеў наш — святы! —
Сакаўныя, слінявыя, звялыя губы,
Ледзяныя, гарачыя, злыя раты.
— Хай карае народ,— войт сказаў свае слова.
— Мы з народам,—прамовілі старцы. І вось
Гайдануўся натоўп і, прыўзняўшы галовы,
Плюхнуў гучна на плошчу святарную злосць.
Кожны кінуў камень. Хто у твар, хто у грудзі,
Нават самы апошні, лядашчы слабак.
— Чужаложніца!
— Сука! Нястомная ў блудзе!
— Атрымай!
— Атрымай! —
І спусцілі сабак.
Іклы дралі распуснае белае цела,
Па ільнах валасоў расцякалася кроў,
І слязінкі на вуснах з вачэй адгарэлых,
І на склычаным стане сляды кіпцюроў...

Вось і ўсё... Вось і ўсё... Моргаў зоркамі вечар,
Перапуджана думаў, якую гасіць;
І расою знявечаны труп чалавечы,
Быццам боскай слязою, збіраўся зрасіць.
А па лёхах мястэчка, па гумнах прадмесцяў,
Пасля дзікай расправы і дзённых турбот
На кабеце чужой, на ўдаве ці нявесце
Хтось адводзіў душу. Весяліўся народ.

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ*

# ВЫГНАНЕЦ

## АПАВЯДАННЕ

Левы бераг Ракі быў нізкі і балоцісты. За ім пачынаўся шырокі поплаў з затокамі і старыцамі, а далей ажно да самага небакраю сінелі непраходныя лясы. Старыя казалі, быццам за тымі лясамі ёсць вялізнае возера, у якім жыве Цмок. І быццам калісьці гэты Цмок паслаў на зямлю патоп і тады загінула шмат людзей; звяроў таксама патапілася нямала. Але гэта было так даўно, калі яшчэ вадзіліся агромністыя звяры з рудою поўсцю, хобатам і двума загнутымі ікламі ў чалавечы рост.

Хто ведае, ці быў той патоп? Праўда, і цяпер часам Рака залівае ўсё навокал. А вось у тым, што такія вялізныя звяры вадзіліся, можна было пераканацца за Белай Гарою, дзе вада вымывала з берага іх вялізныя косткі. О, такой упаляванай дзічыны чалавечай ардзе магло б хапіць на цэлую зіму! Але тыя ж старыя казалі, што даўней і зімы былі шмат даўжэйшыя. Так што можна было б з'есці і пару такіх жывёлін.

Дык вось — левы бераг быў нізкі і балоцісты, а правы высока ўздымаўся над плынню Ракі, падстаўляючы сонцу і вятрам паласаты бок з гліны, пяску і жвіру.

У мясціне, дзе Рака крутой лукою загіналася на ўсход, з вады як вырастала Белая Гара — вапняковая скала, уся ў драпінах, што засталіся ад апошняга ледавіка. Калі ўсё наваколле, як сягнуць вокам, пакрывала зеляніна лесу і хмызнякоў, то вяршыня Белай Гары была голая і выгладжаная часам, і толькі ў западзінах рос верас, а над ім уздымаліся невысокія пакручастыя дрэўцы. Здалёку скала была падобная на лысіну Уу — старэйшага паляўнічага арды.

Белую Гару яшчэ называлі Гарой Важака. Бо толькі ён мог ступіць на яе. Іншыя ж павінны плаціць за гэта жыццём. Праўда, меўся шанец застацца на гэтым свеце, але гэта калі б у двубоі ўдалося забіць Важака. Але той быў як з каменю, і ўсесакрушальная была яго сукаватая доўбня. Ды смельчакі часам усё ж знаходзіліся, асабліва сярод маладых і гарачых воінаў. І тады іх знявечаныя целы плылі па Рацэ...

Крыху вышэй Белай Гары ў Раку ўпадала Рэчка, а на яе паўднёвым беразе, пры хвойніку, туліліся буданы арды, зробленыя з жэрдак, кары і шкур.

Раней стаянка арды была каля самай Ракі. Але аднойчы берагам ішлі рудавалосыя. Яны разбурылі буданы і захапілі некалькі жанчын. Арда ж уцякла ў лес, бо находнікаў было шмат. Калі чужакі пайшлі, людзі перасяліліся далей ад чужога вока.

---

Як толькі пачало віднець, стары Уу пайшоў аглядаць пасткі, якія з вечара насцярожыў на звярыных сцежках.

Густая раса студзіла ногі, а калі Уу прадзіраўся праз гушчар, цэлыя вадаспады кропель абрыньваліся на лысіну і плечы. Але скура старога амаль не адчувала холаду — за доўгія гады задубела, стала падобная да кары дрэва.

Дайшоўшы да першай пасткі, чалавек спыніўся і са шкадаваннем зацокаў языком — у ёй ляжаў яшчэ цёплы, але моцна абгрызены лісіцамі заяц. Паляўнічы выцягнуў акрываўлены камяк і адкінуў убок, не забыўшы паслаць праклён на галовы рыжых хітрух. Затым Уу павярнуў у неглыбокі, зарослы маліннікам яр. Але праз колькі крокаў спыніўся і пачаў трывожна нюхаць паветра, шырока раздзімаючы ноздры — ледзь чутна пацягнула дымам. На ўсякі выпадак ён падняў з зямлі камень і пачаў красціся па яру далей. Пах дыму мацнеў, а потым да яго дамяшаўся і пах чужога чалавека.

«Добра, што адтуль вецер, мяне не пачуюць»,— усцешыўся Уу.

У канцы яру паляўнічы лёг на зямлю і нячутна, як вужака, папоўз. Дабраўшыся да краю малінніку, асцярожна рассунуў галіны і зірнуў на вузкую лугавіну каля Ракі.

На ўскрайку лугавіны слаба курэла амаль пагаслае вогнішча. Каля яго драмаў юнак, абапіраючыся на сукаватку. Крыху далей, прыкрыўшыся шкурамі, спалі стараваты мужчына, жанчына і двое малых дзяцей. Па колеру валос незнаёмых Уу дадумеўся, што гэта былі рудыя. Але, можа, дзе непадалёку яшчэ былі чужакі? Каб праверыць, стары асцярожна працікаўся ўздоўж берага... Не, больш нікога тут не было.

Тады Уу, наколькі дазвалялі старэчыя ногі, патрухаў да стаянкі і пабудзіў арду:

— Каля Ракі рудыя!

Жанчыны і дзеці спрасоння ўсчалі крык і хацелі ўцякаць у пушчу, але паляўнічы супыніў іх:

— Рудых толькі пяцёра. І яны спяць.

Тады людзі, узброіўшыся сукаваткамі, доўбнямі, кіямі і вострымі крамянёвымі секачамі, згрудзіліся вакол Важака.

— Толькі ціха! — пагрозліва трос доўбняю Важак.— Каторы будзе крычаць — растаўку галаву. Падкрадземся да рудых і пазабіваем сонных.

І людзі арды рушылі да Ракі. Там яны абкружылі лугавіну і па знаку Важака з ваяўнічым рэвам кінуліся на чужакоў. Тыя, хоць і паспелі падхапіцца, адразу ж упалі пад уда-

рамі. Толькі адзін спрытны, як мыш, малы слізгануў каля ног напаснікаў і кінуўся наўцёкі. Але Важак за некалькі скачкоў дагнаў яго і, паваліўшы на зямлю, прыціснуў каленам.

Арда радасным лямантам святкавала перамогу. Мужчыны і жанчыны махалі зброяй, падскоквалі і выхваляліся адзін перад адным:

— Гэта я яго першы!

— Не, я!

— А я яго якраз па галаве!

Да Важака падышла жанчына з арды і пацягнула руку:

— Аддай мне малога.

— Ідзі прэч! — адштурхнуў яе Важак.— Гэта смачнае мяса.

— Аддай ёй хлопца,— заступіўся за кабету малады паляўнічы.— Ці ты забыўся, што яе дзіця мы аддалі Рацэ, калі тая пачала залівацъ берагі? Хай ёй будзе за сына.

— Ты зноў на маёй сцежцы, Рун! — зароў Важак.— Сыдзі з яе, пакуль не позна! Гэта мая здабыча!

І Важак узмахнуў секачом над галавой малога. Але Рун паспеў перахапіць руку. Напяліся жылы на руках паляўнічага і Важака, напружыліся мышцы. Кожны стараўся перамагчы. Малады не паддаваўся. Тады Важак крутануўся і знянацку выцяў праціўніка ў жывот. Рун сагнуўся ад болю, а стары падхапіў з зямлі доўбню і ўдарыў яго па галаве.

Арда моўчкі назірала за сутычкай. Храбры Рун і паляўнічы, можа, найлепшы, але гарачы. Навошта лезці пад руку дужэйшага?

Важак замахнуўся быў яшчэ раз доўбняй над Рунам, які ляжаў на зямлі, але не ўдарыў. Па законах продкаў забіць са сваёй арды можна было толькі на Белай Гары. А з якой асалодай раструшчыў бы ён Руну галаву або перарэзаў горла. Ужо даўно ненавідзіць яго Важак, бо бачыць, як з кожным годам мацнее юнак, як горнуцца да яго маладзейшыя, як блішчаць вочы ў дзяўчат, што часта пазіраюць на маладога паляўнічага. Асабліва ў Наі...

Рун паступова ачуньваў. Нарэшце яму ўдалося падняцца на ногі. Стаяў хістаючыся, а перад вачыма расплываліся каляровыя кругі.

— Ты ўжо можаш трымацца на нагах, Рун?! — зноў пачаў крычаць Важак.— Тады ідзі прэч з арды! Ідзі і не вяртайся!

— Ідзі прэч з арды! — падтрымалі Важака ягоныя прыхільнікі.

Астатнія ж, апусціўшы галовы, маўчалі.

— Хай ён ідзе адсюль! — наступаў на маўчуноў Важак і шчэрыў жоўтыя зубы.

— Ідзі прэч! — нарэшце пачалі крычаць і астатнія. «Сам вінаваты. Хочаш памерыцца сілаю з Важаком — ідзі на Белую Гару. У іншым месцы яму не пярэч».

Нарэшце каляровыя кругі зніклі, і Рун мог усё бачыць навокал. Паглядзеў на суродзічаў і сустрэў іх вочы. Яны былі розныя: злосныя, абыякавыя, спачувальныя. На Важака не стаў глядзець: не хацеў бачыць ягоны твар, скрыўлены пераможнай усмешкай.

Потым юнак павярнуўся і пабрыў уброд цераз Рэчку.

— І каб нагі тваёй не было на нашай зямлі! — яшчэ пачуў кінутае яму ўслед Важаком.

Доўга ішоў Рун на поўнач, у пушчу, далей ад людзей Важака, якія маглі высачыць і забіць. Перабраўся на супрацьлеглы, больш бяспечны бераг Ракі. Зладзіў будан. Жывіўся тым, што траплялася пад руку. З кавалка крэменю зрабіў сякач, з яго дапамогаю змайстраваў доўбню. З ёю і вырушыў на першае паляванне...

...Праз нейкі час, згаладнелы, ён сядзеў на траве і ўспамінаў сваё адзінокае паляванне. Хаця Рун быў спрытны і дужы, але звер аказаўся спрытнейшы. У тое імгненне, калі доўбня са свістам рассякала паветра, аленіха вялізным скачком сiганула ўбок, а потым кінулася наўцёкі. Услед за гэтым зямля здрыганулася ад тупацення мноства капытоў, і гулавіна ўмомант апусцела, быццам тут нікога і не было. Толькі некалькі збітых лістоў ападала на зямлю, ды ўвачавідкі выпросталася прымятая трава.

Так, з гэтага палявання нічога не выйшла. Рун не надта перажываў няўдачу, бо на поспех вялікага спадзявання не меў. Вось каб ішлі загонам, тады іншая справа. Як гэта рабілі ў ардзе — схаваюцца паляўнічыя з доўбнямі ў якім гушчары, а жанчыны і дзеці з крыкам і лямантам заганяюць дзічыну. Тут раз-другі не пацэліш, але ўрэшце пад тваю доўбню амаль абавязкова трапіць якая ачмурэлая ад жаху жывёліна.

Натужліва думаў Рун, што б гэта зрабіць, каб здабыча не паспела ўцячы з-пад удару. не надта моцна замахвацца — толькі скалечыш, а не заб'еш. Вось каб... Каб вострым секачом як-небудзь моцна торкнуць куды ў шыю. Але ж рука кароткая, не дастанеш. А доўбняй так рабіць няма сэнсу — яна тупая. Іншая рэч, каб мець такі доўгі, як доўбня, сякач...

З такімі думкамі хадзіў Рун каля сваё хвоі-схованкі, круціў у руках то сякач, то доўбню, разглядаў іх, закідваў галаву ўверх, быццам чакаў нейкай падказкі з неба. А калі б мець такую вострую, як сякач, доўбню? І, шкадуючы, што не ўмее гэтага зрабіць, юнак прыставіў крэмень да канца сваёй драўлянай зброі. І тут шчаслівая здагадка мільганула ў галаве: а калі сякач прывязаць? Сарваў з сябе плецены пас і прыкруціў ім крэмень да доўбні!

Вось толькі цяжкаватая прылада атрымалася...

Тады Рун надсек і зламаў доўгую і моцную ляшчэвіну, пачаў мацаваць да яе канца сякач. Гэта зрабіць было лёгка, бо, як адломваў, на канцы палкі незнарок атрымалася трэшчына. Але калі чалавек замахнуўся — крэмень выпаў. Тады Рун зноў уставіў яго ў трэшчыну і прывязаў пасам.

І вось выгнанец узняў вынайдзеную ім дзіду і стукнуў па дрэву. Крамянёвы наканечнік прабіў кару і глыбока ўлез у драўніну. Юнак ледзь выдраў яго адтуль.

О, якая зброя апынулася ў руках Руна! Такой ніколі і ніхто не меў у іхняй ардзе. Ды і ў рудых былі толькі секачы, доўбні і касцяныя кінжалы.

Неўзабаве Рун зноў пайшоў да вадапою. Затаіўся ў тым самым кусце і стаяў так доўга, нерухомы і дужы, зліваючыся загарэлым целам з паўзмрокам. А калі танканогая казуля наблізілася да вады, з маланкавай хуткасцю ўдарыў яе дзідай. Жывёліна тузанулася і ўпала.

Спачатку паляўнічы напіўся цёплай крыві, што струменіла з раны. Потым узваліў здабычу на плечы і панёс да сваёй стаянкі. Казуля важыла шмат, але гэта быў прыемны цяжар.

Рун паклаў здабычу пад хвою і пачаў адразаць кавалачкі мяса, якія адразу ж запіхваў у рот.

Пакідаць казулю на ўсю ноч без нагляду было небяспечна, бо магло знайсціся ці мала ахвотнікаў ёю паласавацца. Таму выгнаннік пачаў рассякаць яе на часткі і ўсцягваць на дрэва. Толькі паклаў на памосце адзін кумпяк і пачаў злазіць за другім, як пачуў унізе гырчанне і ляскание зубоў. Прыгледзеўшыся, убачыў, як мітусяцца ў змроку постаці лясных сабак. Доўга не думаючы, ён проста з ніжніх сукоў скокнуў у гушчу няпрошаных гасцей.

Сабакі адскочылі, але, убачыўшы, што чалавек адзін, раз'юшана кінуліся на яго. А было драпежнікаў, колькі пальцаў на абедзвюх Рунавых руках.

І тут юнак адчуў, як узняліся дыбком валасы ў яго на галаве, як ашчэрыліся зубы і па-каршуноваму скурчыліся пальцы. Не, Рун ужо не быў чалавекам. Зараз ён ператварыўся ў дзікую жывёліну са згустку мышцаў, скуры, зубоў і пазногцяў, з вырачанымі вачыма, што сыпалі іскры.

Сабакі кідаліся на выгнанца, стараючыся ўчапіцца ў цела, але ён і сам кусаў іх, выкручваў лапы, раздзіраў пашчы. Адзін з драпежнікаў скокнуў паляўнічаму на спіну і ўпіўся ікламі ў плячо. Рун з усяе моцы выцяўся аб хвою, трушчачы зверу косткі.

Сабакі крыху адступілі, але не збіраліся здавацца. На іх раз'ятраны брэх далёка ў лесе адгукнуліся іншыя сабакі — ішла падмога. І вось тут, калі наступіў нейкі пярэдых, Рун пазбыўся ўтрапення і зноў адчуў сябе чалавекам. У яго ж была новая зброя! Юнак схапіў дзіду і кінуўся на сабак. Прабіў бок бліжэйшаму, закалоў яшчэ дваіх. Рэшта, падтуліўшы хвасты, кінулася наўцёкі.

У Руна занямела пракусанае плячо, крывавілі ногі. Але гэта нічога, зажыве. Галоўнае, што ён адбіў сваю здабычу ў зграі лясных сабак, перад якімі адступалі часам нават ваўкі.

Чалавек уторкнуў дзіду ў зямлю, апусціўся перад ёю на калені і прытуліўся тварам да дрэўка. Ён дзякаваў гэтай чароўнай рэчы, якая зрабіла яго нашмат мацнейшым. А потым вырваў дзіду з зямлі і ўзняў над галавой. Моцны голас скалануў начную цішыню:

— Я — Рун, чалавек — зараз гаспадар пушчы! Чуеш, воўк, мядзведзь, тур? Я тут гаспадар!

Хоць і быў зараз Рун з мясам і захінуты шкурамі, але наперадзе чакалася зіма. А як зіму перагрываць без агню? Таму выгнанец наважыўся выкрасці агонь з арды. І вось ён зноў адшукаў сваіх.

З хваляваннем назіраў Рун, як прачынаецца родная арда. Вось маленькія чалавечыя постаці пачалі выбірацца з буданоў. Шкада, што на адлегласці нельга было пазнаць — хто гэта? Паболела дыму над Вечным агнём: пэўна, туды падкінулі дроў. Потым грамада згрудзілася вакол вогнішча на сняданак. Пазней вялікая купа людзей пайшла ў лес: мабыць, на паляванне; рэшта ж снаўдалася па паселішчы, займаючыся хто чым. Некаторыя накіраваліся да Рэчкі. Калі яны падышлі бліжэй, выгнанец разгледзеў, што гэта былі дзеці, і сярод іх пазнаў Малога Тупа — свайго брата. Перасохла ў роце, так захацелася паразмаўляць з братам, распытаць: што і як у ардзе. Галоўнае ж — Малы Туп дапаможа займець агонь!

Дзеці рассыпаліся ўздоўж берага, вышукваючы пад карчамі ракаў і рыбу. Падаўся вышэй па Рэчцы і Малы Туп. Рун нячутна споўз з вярбы і стаў цікавацца ўслед брату.

— Малы Туп,— ціха паклікаў Рун.— Я, твой брат Рун, хачу з табою паразмаўляць.

Хлопчык ад нечаканасці ўздрыгнуў і пачаў узірацца ў супрацьлеглы бераг, бо не пазнаў братаў голас — той быў хрыпаты і здаўся зусім чужым.

Калі ж Рун выйшаў з-за куста, Малы Туп, ледзь стрымліваючы радасны крык, кінуўся цераз Рэчку. Падбег да брата і прытуліўся ілбом да яго шурпатых далоняў.

Потым браты прыхаваліся ў хмызняку, і малы пачаў расказваць пра навіны ў ардзе.

— Нядаўна было вялікае паляванне, але зараз мяса скончылася, і мужчыны зноў пайшлі ў лес. Няма старога Уу, яго задраў мядзведзь.

— Ці мой брат памятае, як арда напала на рудых? Што з іхнім малым?

— Ён тут, з намі, на рыбе. Важак яго ўсё ж не забіў.

— А што робіць Ная?

— Ная плача.

— Чаго Ная плача?

— Наю Важак забраў у свой будан. Яна ўцякала, але Важак дагнаў яе і моцна набіў. І зараз Ная прывязаная.

Пачуўшы такое, Рун падхапіўся з травы, заскрыгатаў зубамі і хацеў зараз жа бегчы ў арду. Ужо памкнуўся быў да вады, але ў час перадумаў: пакуль трапіць да буданоў, яму раструшчаць галаву, бо не адзін захоча ўслугаваць Важаку. Не зараз, а крыху пазней дабярэцца Рун да Важака. Рун усё прыпомніць яму: і сваё выгнанне, і Наю, і смачнейшыя кавалкі, якія Важак заўсёды адразаў сабе з агульнай здабычы, ды і шмат чаго іншага...

— Хай ідзе Малы Туп і нікому не кажа, што бачыў Руна. Я прыйду ў арду, але пазней... Можа, нават заўтра.

Узрушаны благой навіною, выгнанец нават не папрасіў прынесці агню. Навошта ён Руну, калі Ная ў будане Важака?

Рун перачакаў у лесе да ночы і, калі зноў сцямнела, паплыў на плыце, нядаўна сабраным з бярвення. Калі параўняўся з камянямі, што выступілі з вады каля падножжа Белай Гары, выскачыў на іх, а плыт паплыў далей, гайдаючыся і круцячыся на вірах. Але выгнанец нават не паглядзеў яму ўслед. Хапаючыся рукамі за кусты і не зважаючы, што калючкі шыпшыны ўядаюцца ў далоні, ён пачаў узбірацца на вяршыню.

Вось і самы верх. Нязвыкла бялеў пад прывідным святлом месяца вапняк, а ў западзінах, дзе ляжала няведама як прынесеная сюды зямля, гусціўся верас, і яго сухаваты пах быў мацнейшы за ўсе пахі ночы.

Рун агледзеўся. Ракі ўжо не было відаць — усё заслаў туман, і толькі ледзь прыкметна шарэў за паплавамі лес.

Рун трапіў на Белую Гару ўпершыню ў жыцці. Гэта была мясціна Важака. Толькі ён меў права прыходзіць сюды, каб раіцца з духамі.

Хлопец лёг на верас.

На небе была поўня, і ў яе святле ледзь праглядаліся зоркі. Рун глядзеў на зіхоткі месячны кружок, які яшчэ ні з чым не мог параўнаць, хіба што з вялікай кропляй застылай жывіцы.

Старыя кажуць, што душы памерлых вандруюць за Сінія Узгоркі. Але калі Рун заўтра загіне, хай яго душа трапіць на месяц. Тады ён глядзеў бы з вышыні і бачыў Раку, арду і, магчыма, Наю. Але не, Рун заўтра не памрэ. Памрэ Важак ад дзіды Руна. І хай душа Важака ідзе ў халодныя віры, а там, у глыбіні, хай жаруць яе чорныя самы.

Яго апанавалі ўспаміны...

Гэта было, калі лісце ўжо апала на траву і пачаліся прымаразкі. Патрывожаны загоншчыкамі тур з налітымі крывёю вачыма знячэўку выскачыў з гушчару і збіў Руна з ног. Шчасце, што яшчэ не паспеў падчапіць яго рогам. Але паляўнічы так моцна ўдарыўся аб мерзлую зямлю, што ляжаў, не могучы варухнуцца. І чуў, як іншыя паляўнічыя шукалі яго па лесе, як гукалі, а ён толькі ледзь чутна шаптаў: «Рун тут, тут Рун...»

Але яго не знайшлі. Наступала ноч, і на зямлю праз блытаніну голых сукоў свяціла такая ж, як зараз, поўня. Падмарожвала, і чалавек ужо пачаў дранцвець. Раптам пачуліся нейчыя крокі, што шапацелі ў сухім лісці, і неўзабаве проста на яго з гушчару выйшла Ная. Быццам пачула ягоны шэпт і прыйшла, каб выратаваць...

Успаміны тумаліліся, бляклі, і нарэшце Рун заснуў.

Спаў моцна, без сноў.

Калі промні ранішняга сонца дасягнулі вяршыні Белай Гары, успыхнуў ружовай прымглёнасцю духмяны, увесь у квецені верас. І Рун прачнуўся. Пацягнуўся, з хрумстам распраўляючы суставы. Быў свежы і моцны, гатовы да бою. Выцягнуў з-за сцёгнавай павязкі загорнутую ў бяросту гліну, якую яшчэ ўчора прыхапіў на беразе. Вымазаў ёю твар і цела — шырокія чырвоныя палосы надалі яму жудасны выгляд — спатрэбіцца для бою. Потым падышоў да краю скалы, адкуль адкрываўся далягляд. Над хвойнікам высока ўздымаўся слуп дыму — арда прачнулася таксама. Крыху счакаўшы, нібы перамагаючы хвілінную нерашучасць, Рун удыхнуў на поўныя грудзі і закрычаў, патрасаючы дзідай:

— Уэ-э-йя-а-а! Уэ-э-йя-а-а!

Быццам выццё звера, ляцеў над ваколіцай баявы покліч Руна. І рэха, як драпежнае скавытанне лясных сабак, перакочвалася паміж берагоў Ракі і Рэчкі: йя-йя-йя!

І тут знізу, ад паселішча, пачуўся ў адказ рэў Важака, які адразу пазнаў покліч Руна. Размахваючы доўбняй, з пенай на вуснах, Важак выскачыў з будана і пабег да Белай Гары.

Уся арда, хто толькі мог хадзіць, рушыла да падножжа скалы, каб там у маўчанні слухаць гукі смяротнага двубою, а потым вітаць пераможцу. Толькі Ная, прывязаная да моцных жэрдак, не магла туды пайсці. Ірвалася са скураных рамянёў, раздзіраючы рукі, і не магла вырвацца — яна таксама пазнала голас Руна.

Важак узняў над галавою сукаватую доўбню і рушыў на Руна. Набліжаўся, як звер падступае да сваёй ахвяры — спружыністымі, упэўненымі крокамі. Дужы быў Важак, і доўбня была як неад'емная частка яго каржакаватага цела.

Калі заўважыў у руках праціўніка нейкую доўгую ляшчэвіну, якую той выставіў уперад, быццам хацеў адштурхнуцца, то зняважліва скрывіўся. Мусіць, звар'яцеў выгнанец у пушчы, калі з гэтай трысцінай адважыўся на двубой.

А Рун адступаў да абрыва, чакаючы нападу. Апынуўшыся на выступе скалы, Важак вырашыў, што адсюль яго вораг не ўцячэ, кінуўся наперад. Малады мужчына спрытна ўхіліўся ад доўбні і тут жа сам узмахнуў дзідай...

Усё адбылося так хутка, што Рун спачатку нават не паверыў у перамогу. Пакратаў нагою нерухомае цела — так, Важак мёртвы. Тады падцягнуў яго да стромы і спіхнуў у прорву.

Арда ўбачыла, як цёмнае цела, павольна перакручваючыся ў паветры, паляцела ўніз і потым цяжка плёхнула ў ваду, узняўшы слуп пырскаў. Людзі закрычалі, завылі. Але ў гэтым лямантце яшчэ чулася няўпэўненасць: не разабраліся здалёк, хто гэта быў. Калі ж Рун з пераможна ўзнятай галавою і з акрываўленай дзідай у руцэ спусціўся з Белай Гары, грымнулі воклічы.

Віталі новага Важака.

# СВОЙ ДВАРОЧАК, ЯК ВЯНОЧАК

Вы заўважалі, напэўна, як нават наш сучаснік, дасведчаны і звышінфармаваны аб усім на свеце, губляецца ў нейкія вызначальныя моманты свайго жыцця — уступлення ў шлюб, нараджэння дзіцяці, провадаў у войска, засялення ў новую кватэру. Так і хочацца, каб нехта мудры і прадбачлівы падказаў, як і дзе ступіць, што сказаць і зрабіць. Тут нашым продкам было значна прасцей: на кожны з гэтых і іншых выпадкаў існавала ў беларусаў цэласная, асэнсаваная сістэма звычаяў і абрадаў, якая дапамагала з годнасцю паводзіць сябе ў вызначальныя моманты жыцця, надавала ўпэўненасці, што дзякуючы традыцыйным паводзінам ён набудзе шчасце, здароўе, дабрабыт.

Будаўніцтва новага дома і яго засяленне не было тут выключэннем. У канцы XIX — пачатку XX ст. звычаі, абрады, традыцыі, што складваліся вякамі, суправаджалі ўсе вузлавыя моманты гэтай важнай падзеі. Разам з тым у гэтых звычаях, абрадавых дзеяннях, уяўленнях знаходзілі адлюстраванне светапогляд нашых продкаў, іх сувязі з навакольным асяроддзем, нарэшце, любоў да прыроды. Звычаі і абрады не былі тады самамэтай ці гульнёй, як гэта часта здараецца ў нашым сённяшнім жыцці. Яны былі арганічнай часткай духоўнай культуры, унутранага свету беларускага сялянства. Больш таго, чалавек разумеў, што дабрабыт сям'і ў многім залежыць ад умення ўлічыць шматлікія з'явы ў навакольным свеце, аж да драбнейшых змен надвор'я. А яшчэ вера ў існаванне разнастайных духаў — дамавых, палявых, лясных і іншых,— зусім натуральная для тагачаснага беларуса. Усё гэтае багацце прыкмет, павер'яў, звычаяў, абрадавых дзеянняў звычайна ўлічваў кожны селянін, які збіраўся пабудаваць для сябе новы дом.

Будаўніцтва хаты пачыналася з выбару будаўнічых матэрыялаў і месца збудавання. Гэта ж колькі ўсяго трэба было ведаць і прадугледзець! Мяркуйце самі. Дрэва на будоўлю, лічылася, лепш за ўсё ссякаць тады, калі месяц знаходзіцца ў сваёй апошняй квадры («ветаху»), тады яно будзе трывалае; а ссечанае ў маладзік нядоўга паслужыць; спілаванае паміж квадрамі месяца («на змянах») сточыць шашаль. Людзі меркавалі: нельга на пабудову браць вывернутае непагаддзю дрэва, бо яго чорт для сябе вывернуў і разам з дрэвам можа перасяліцца ў новую хату. Таксама нельга было ўжываць тое дрэва, што завісла на другім, бо хутка такі будынак згарыць. Вопытны селянін ніколі не браў для будаўніцтва рыплівага дрэва, бо ў збудаванай з яго хаце людзі могуць часта паміраць ці заходзіцца ад кашлю. Не падыходзіла для гэтай мэты і дрэва, што, ссечанае, павалілася на поўнач: у доме чалавек памрэ, а ў хляве — жывёла. Ні адзін бачлівы гаспадар не павінен быў ссякаць дрэва ў трэцюю квадру месяца («сход», «гнілую квадру»), бо ў будыніне будзе вельмі доўга трымацца вільгаць. Самымі спрыяльнымі месяцамі для нарыхтоўкі лесу лічыліся сакавік і красавік, таму што веснавы сок рабіў драўніну мацнейшай.

Вельмі важна было правільна нарыхтаваць мох: гаспадар мусіў пайсці ў панядзелак у лес, наскубці вялікую жменю моху і пакласці на чыстай зямлі; тое ж самае — у аўторак, у сераду і г. д. Падышоўшы ж у нядзелю да тых кучак і падняўшы кожную, глядзеў, пад якою з іх не было мошак, чарвякоў. Толькі ў той дзень тыдня, калі была нарваная гэтая кучка, можна было нарыхтоўваць мох для будаўніцтва. Значыць, спадзяваліся, што ў хаце не завядуцца казюркі.

Згодна з народнымі меркаваннямі, нельга было на падмурак дома браць каменне з могілак, бо ўвесь час будуць непрыемнасці. Пільнаваліся, каб на будоўлю не трапіла дрэва з «ваўком», г. зн. з чорнай сарцавінай,—інакш сям'ю зноў-такі будуць даймаць хваробы і розныя няшчасці.

Як сведчаць этнаграфічныя матэрыялы мінулага стагоддзя, на Беларусі існавала шмат спосабаў, магічных прыёмаў, якімі карысталіся сяляне пры выбары месца пад хату. Так, аблюбаваўшы нейкую мясціну, ставілі на тым месцы чыгунок з павуком; калі за ноч ён пачынаў «ткаць кросны», то лічылася, што месца пад хату выбрана добрае. Шырока бытавала і такое павер'е: калі ў пасудзіне з мёдам, пакінутай на ноч у невялікай выкапанай ямцы на абраным месцы, пад раніцу з'яўляліся мурашы, месца лічылася ўдалым. На Віцебшчыне ж гаспадар, аблюбаваўшы месца пад хату, збіраў з чатырох розных палёў па адным нягладкім камяні, нёс іх ці ў шапцы на галаве, ці «запазушшу», каля голага цела, а пасля клаў на абранае месца чатырохкутнікам (бок яго мусіў быць не большы за 9 крокаў). Увайшоўшы ўсярэдзіну чатырохкутніка, гаспадар клаў шапку на зямлю, чытаў малітву, звяртаўся з просьбай да дзядоў, каб дапамаглі ў будаўніцтве сялібы на аблюбаванай зямлі. Калі праз 3 дні каменне заставалася некранутае, лічылася, што месца для сялібы абрана ўдала.

У народным штодзённым жыцці шырока бытавала перакананне, што нельга будавацца на спрэчнай дзялцы зямлі, бо гэтым будуць накліканы праклёны таго, хто спрачаўся і прайграў. Ніколі не ставілі хату там, дзе былі знойдзены чалавечыя косткі, а таксама там, дзе хто-небудзь пасек сякерай нагу ці руку, парэзаўся сярпом, касой, нажом.

Нарэшце, падрыхтоўчыя работы скончаны, за працу браліся цесляры. На тэрыторыі Беларусі шырока бытаваў звычай пры закладзінах дома хаваць за вугал манеты, кавалкі хлеба ці сыру,

часам галаву пеўня, што было ахвяраваннем дамавому. У некаторых вёсках на канцы доўгай жэрдкі рабілі крыж, і жэрдку тую ставілі ў кут з усходняга боку, дзе яна стаяла аж но да заканчэння будоўлі. Калі клалі першы вянец, то назіралі, куды паляціць першая трэска: трапіць ў сярэдзіну чатырохкутніка, значыць, будуць прыбыткі ў доме. Усе трэскі з першага вянца трэба было сабраць у чатырохкутніку, каб тое, што адбываецца па-за домам, ведалі і ў доме, але каб невядома было на вуліцы, што робіцца ў хаце.

Сярод беларускіх сялян было прынята пад усе 4 вуглы пакласці кавалачак ладану, пасвянцоныя зёлкі ці хвойныя галіны, каб засцерагчы дом ад перуноў. Бытавала ўяўленне, што перунамі праследуюцца нячысцікі, якія, канечне ж, не стануць хавацца там, дзе ляжыць што-небудзь свянцонае. Разам з зёлкамі карысна было пакласці жменю мукі, змолатай на новым млыне ці ў новых жорнах. Лічылася, што калі ў такі дом залезе злодзей, то ён не выйдзе адтуль, пакуль не вызваліць гаспадар. На Гродзеншчыне, закладаючы новы дом, клалі пад покут пад зрубам хлеб, воўну, грошы, каб заўсёды ў гаспадара былі хлеб, грошы, вяліся авечкі. Існавалі і больш складаныя спосабы варажбы пры закладзінах новага дома. Так, у некаторых месцах гаспадар па ўсіх кутках клаў на ноч па кавалачку хлеба. Наступным днём глядзелі: калі ў якім-небудзь кутку хлеба не аказалася, месца лічылася нешчаслівым, і тады падваліны перасоўвалі. Сяляне лічылі, што калі не перасунуць хату, то сям'я будзе ў далейшым цярпець нястачу ў хлебе, а сам гаспадар рана памрэ.

Шмат павер'яў было звязана з апошнім вянцом. Так, пры завяршэнні будаўніцтва гаспадар перакідваў праз апошні вянец асвечанае яйка, якое адразу ж закопвалі на месцы падзення, каб вецер не здзіраў страху. Пасля таго, як на гарышчы быў высланы мох, па ім сеялі авёс і прысыпалі пяском. Авёс узыходзіў і паступова засыхаў, тым самым забяспечваючы багацце ў хаце.

Шырока бытаваў звычай класці паміж бярвеннем разнастайныя травы, сабраныя перад Купаллем, і некалькі сярэбраных манет. Некаторыя абрадавыя магічныя дзеянні суправаджалі і ўкладванне апошняга вянца («запясэчніка»). Так, гаспадыня падавала жыта, хто-небудзь з цесляроў ішоў па апошняму вянцу і сыпаў зярнатамі, жадаючы сям'і шчасця, багацця, здароўя.

Нарэшце, дом збудаваны. Наставаў час перасялення.

Звычайна першым ішоў гаспадар і нёс гаршчок з вуголлем. Следам хатнія неслі маёмасць. Гаспадар абносіў гаршчок з вуголлем уздоўж сцен, спыняючыся на імгненне ў кожным куце, ставіў гаршчок на прыпечак і адразу запальваў у печы. А напярэдадні ў новы дом праз акно запускалі пеўня ці курыцу: калі певень спяваў — гэта лічылася добрым знакам, калі не — дрэнным. У некаторых месцах існавала яшчэ больш складаная сістэма засялення. У першы дзень запускалі пеўня, у другі — гуся, на трэці — парася, на чацвёрты — авечку, на пяты — карову, на шосты — кабылу. Калі ўсе гэтыя жывёліны пераначавалі добра, тады запрашалі свяшчэнніка для асвячэння, і толькі ў сёмую ноч перасяляліся самі.

Пры ўлазінах («уходзінах», «уваходзінах», «вясёлках») трэба было памазаць мёдам усе 4 куты, каб жыццё было салодкае. Як сведчаць шматлікія дарэвалюцыйныя матэрыялы, пераход у новы дом прымяркоўваўся да поўні. Аналагічнае вераванне сустракалася ў гуцулаў. У гэты дзень у старым памяшканні ставілі цеста, а хлеб пяклі ўжо ў новым, прычым дзежку з цестам пераносілі ў новую будынку, пакрыўшы яе кажухом, вывернутым воўнай наверх. Таксама было прынята ўкрасці ў суседзяў качаргу і прынесці яе ў новы дом. Перш за ўсё абавязкова заносілі абраз і стол. У асобных раёнах Беларусі сустракаўся і такі звычай: пры ўваходзінах праз адчыненыя дзверы кідалі клубок нітак. Трымаючыся за нітку, члены сям'і па старшынству ўваходзілі ў хату. Замест ніткі часта выкарыстоўваўся пояс ці плеценыя аборы.

Звычайна ў новую хату патрэбныя прадметы заносілі першымі гаспадар ці гаспадыня. Але, калі яны былі бяздзетныя, па іх даручэнню гэта рабілі іншыя члены сям'і, што мелі дзяцей, або нават староннія людзі; перавага аддавалася цяжарнай жанчыне.

Сярод беларусаў існавала такая прыкмета: хто ў дзяцінстве разбураў птушыныя гнёзды, той за жыццё зменіць столькі сяліб, колькі гнёздаў разбурыў. Лічылася, таксама, што, пакідаючы старое жыллё, нельга было вымятаць смецце, бо той, хто ў гэтую хату ўселіцца, не будзе мець шчасця.

Стол і печ былі ўвасабленнем хатняй святасці, каля іх адбываліся шматлікія сямейныя і каляндарныя абрады. Пры закладванні печы часта збіралі талаку, запрашаючы пераважна моладзь. Маладыя талакоўцы працавалі з песнямі і жартамі. У канцы работы гаспадар частаваў памагатых. Закладванне печы, як і будаўніцтва хаты, прымяркоўвалі да поўні: у гэтым выпадку, лічылася, печ будзе трымаць цяпло ва ўсіх сваіх частках. Калі першы раз палілі ў печы, у яе трэба было ўсыпаць 9 жменяў зерня, ад чаго сценкі пакрываліся слоем глянцу, да якога пазней не прыставаў куродым. Якая б ні рабілася печка — цагляная ці «бітая» (з мятай гліны ўперамешку з камянямі), пад яе належала пакласці тоўчанага шкла, каб лепш пякліся хлеб і пірагі. Трэба адзначыць, што ўлазіны спраўляліся толькі пасля таго, як была зроблена печ.

У дзень перасялення ў новую хату гаспадары запрашалі гасцей, а таксама свяшчэнніка, каб асвяціў новае жыллё. Госці прыносілі падарункі. Увайшоўшы ў дом, госць кідаў грошы на печ, хлеб і соль клаў на стол, зерне — на лаўку. Усё гэта гаспадар новага дома заносіў у клець. Жанчыны прыносілі авечую воўну, посцілкі, абрусы, муку, розныя крупы, яйкі, сала. Гэтыя падарункі прымала гаспадыня дома. На Гродзеншчыне жанчыны неслі абавязкова што-небудзь салодкае (мёд, цукар, печыва), каб у новым доме сям'і «соладка жылося». Некаторыя госці, акрамя таго, прыносілі жывых курэй, трусоў, гусей, якіх, уваходзячы, пускалі ў хату. Святкаванне ўлазін ішло сваім парадкам: песні змяняліся скокамі, скокі — застольнай бяседай. Трэба адзначыць, што на ўваходзінах не было, як, скажам, на традыцыйным вяселлі або радзінах, спецыяль-

ных абрадавых песень, чыноў, гульняў. Застолле вёў найбольш дасціпны і вясёлы з гасцей. Калі гаспадары новай хаты былі маладыя па ўзросту людзі і не мелі яшчэ дзяцей, хто-небудзь з гасцей (мужчына і жанчына) падыходзілі да ложка і правяралі, ці моцны ён. Пры гэтым гучалі гуллівыя жарты. Мужчыны давалі разнастайныя «парады» гаспадару. Часам падкладвалі пад сяннік які-небудзь жалезны прадмет, каб у сям'і нарадзіўся сын.

Агульнапрынятым на Беларусі было імкненне як мага лепш пачаставаць гасцей, бо верылі, што ў гэтым выпадку ў новай хаце сям'я заўжды будзе жыць у дастатку. Госці з іншых вёсак звычайна заставаліся начаваць, а аднавяскоўцы паступова разыходзіліся, выказваючы гаспадарам падзяку і добрыя пажаданні.

Цікавыя звычаі былі звязаны і з выбарам месца для калодзежа. Крыніцу шукалі наступным чынам: пасля заходу сонца клалі на голай зямлі ў месцы, дзе планавалі капаць калодзеж, жменю воўны з белай авечкі і накрывалі новым гліняным гладышом. Калі назаўтра на досвітку на воўне з'яўлялася раса, гэта было надзейным пацвярджэннем, што крыніца тут ёсць. Калі ж воўна была сухая, тады шукалі іншае месца. Пад падлогу студні ці за ўмацаванне клалі двайны арэх (спарыш), каб заўсёды было поўна вады. У іншых месцах жанчыны клалі разам з воўнай яшчэ і лустачку хлеба, таксама прыкрыўшы іх якой-небудзь глінянай пасудзінай.

Пры будаўніцтве лазні імкнуліся карыстацца нават найменшымі паслугамі суседзяў, якія ў гэтым выпадку самі прыходзілі на дапамогу. Такая лазня, лічылася, будзе трымаць добры дух і няхутка згарыць.

Многае са старадаўніх звычаяў страчана беззваротна. Жыццё не стаіць на месцы. І з практычнага боку ўсё гэта нібыта ўжо не трэба сёння. Сапраўды, цяжка ўявіць сабе сучаснага вяскоўца, які б на працягу цэлага тыдня кожны дзень хадзіў у лес скубсці мох, каб выбраць самы ўдалы дзень для далейшай яго нарыхтоўкі. Крыўдна іншае: абраднасць і жыццёвая філасофія зніклі як пласт духоўнай культуры беларусаў. Сапраўды, адкуль, напрыклад, такая сувязь пэўных відаў працы з квадрамі месяца? Або шматлікія перасцярогі, з якімі выбіралася дрэва на будаўніцтва? У традыцыйнай абраднасці нічога не было выпадковым, непатрэбным, там усё падпарадкоўвалася пэўнай мэце і адпавядала пэўным прынцыпам, маральным нормам, светаўспрыйманню. Звярніце ўвагу: тагачасныя беларусы ніколі не будавалі хату там, дзе былі знойдзены чалавечыя косткі, і нават каменне з могілак не бралі на пабудову. А мы зараз руйнуем могілкі, на іх месцы будуем шматпавярховыя гмахі, а пасля здзіўляемся, чаму наша моладзь такая жорсткая і бездухоўная.

Мабыць, пра саміх сябе, пра сувязь чалавека з прыродай, з сусветам, космасам нашы не такія ўжо далёкія продкі ведалі значна больш, чым мы. Напэўна, і мы з цягам часу зможам зразумець многае з таго, што здаецца сёння незразумелым і нават недарэчным, і тым самым пазнаем сябе, сваю душу, псіхалогію, знакаміты беларускі нацыянальны характар.

А некаторыя з пералічаных тут звычаяў і абрадаў маглі б упрыгожыць сучасныя «ўлазіны», «уваходзіны», зрабіць іх шчырым, вясёлым, а галоўнае — адметным святам, каб гаспадарам і гасцям успаміналася не толькі колькасць выпітага і з'едзенага, а нешта большае, нейкі вобраз, рысачка, звязаная з родным домам, якія будуць саграваць і падтрымліваць у цяжкую хвіліну жыцця.

**Таццяна КУХАРОНАК**

# ХРЫШЧЭННЕ ПОЛАЦКАЙ ЗЯМЛІ

На працягу многіх дзесяцігоддзяў пытанне хрысціянізацыі зямель Усходняй Еўропы выклікае спрэчкі па розных аспектах: філасофскіх, культуралагічных, палітычных і ўласна гістарычных. Доўгі час, у прыватнасці ў нашай краіне, пошук ісціны залежаў ад загадзя дадзенай арыенціроўкі пануючай палітычнай ідэалогіі.

У апошні час у сувязі са святкаваннем 1000-годдзя хрышчэння Русі і новым палітычным мысленнем навуковае даследаванне гэтага пытання атрымала новы магутны штуршок; на сённяшні дзень цяжка нават падлічыць агульную колькасць рэлігійна-багаслоўскай і свецкай навуковай літаратуры, якая выйшла толькі за апошнія гады. Тым не менш з усіх гэтых друкаваных прац цяжка даведацца, як жа праходзіў працэс хрысціянізацыі ў так званых «правінцыях», у прыватнасці ў Полацкай зямлі.

З аднаго боку, гэта тлумачыцца тым, што з часоў А. П. Сапунова амаль ніхто не цікавіўся гэтым пытаннем. З другога — было агульнапрынята, што Полацкая зямля хрысцілася аднолькава і аднachасова з Кіевам і Ноўгарадам, што ў сваю чаргу вынікала з тэорыі адзінадзяржаўя зямель Усходняй Еўропы ў рамках Кіеўскай Русі.

Праваслаўныя багасловы лічаць, што пранікненне хрысціянства на землі ўсходніх славян можна звязаць з перыядам ад Андрэя Першазванага да княгіні Вольгі, г. зн. III—IX стст. (Филарет. «Установление христианства на Руси». Богословские труды.— М., 1987, № 28, стар. 33—41). Але трывала яно пачало прыжывацца толькі ў канцы IX ст. Цяжка ўявіць, што, з'явіўшыся ў Кіеве, хрысціянскія місіянеры не праяўлялі цікавасці да іншых зямель Усходняй Еўропы, сярод якіх у той час значна вылучалася і Полаччына. Лёс самога Андрэя Першазванага, які паставіў крыж на Кіеўскай гары,— яскравы таму доказ. У канцы X ст. дзейнасць хрысціянскіх місіянераў значна актывізавалася, пра што сведчаць «спрэчкі аб

веры», прыняцце хрысціянства, збудаванне першых цэркваў у Кіеве. Адгалосак гэтых падзей на Полаччыне ў аднолькавай ступені прысутнічае як у летапісах, так і ў скандынаўскіх сагах. Найбольшую цікавасць тут мае епіскапская «Сага аб хрышчэнні» канца XIII ст. У ёй расказваецца пра падзеі, якія адбываліся ў канцы X ст. (Джаксон Т. Н. «Полоцк в древнескандинавской письменности». Сб. «К 1125-летию Полоцка».— Полоцк, 1987, стар. 17—18). Галоўнай дзеючай асобай аповяда з'яўляецца Торвальд Вандроўнік. Гэты чалавек, які пасля смерці быў узведзены ў сан святога, прымаў чынны ўдзел у хрысціянізацыі Ісландыі. Адтуль ён выправіўся ў Іерусалім, дзе быў у вялікай пашане ў самога імператара і канстанцінопальскага патрыярха. Здзейсніўшы духоўны подзвіг паломніцтва, Торвальд Вандроўнік вяртаўся ў Скандынавію праз Кіеўскую Русь. Тут ён пакінуў аб сабе памяць у выглядзе заснаванага «в Руссии» манастыра Іаана Хрысціцеля. Са спасылкаю на скальда Бранда Вандроўніка, сага апавядае, што Торвальд памёр, так і не дайшоўшы да сваёй радзімы, і пахаваны «у высокай гары па рэчышчы Дроўна», «каля царквы Іаана Хрысціцеля, непадалёк ад Полацка».

Манастыр Іаана Хрысціцеля (Прадцечы) на Востраве ў Полацку дакументальна фіксуецца ў старажытных крыніцах з XIV ст. (Хорошкевич А. Л. «Полоцкие грамоты».— М., 1977, стар. 42, 45). Некаторыя даследчыкі адносяць яго ўзнікненне да XII ст. Але рэшткі самога манастыра дагэтуль не знойдзены. Археалагічнымі і геафізічнымі даследаваннямі апошніх гадоў вызначаны толькі месцы перспектыўных пошукаў. Што тычыцца «высокай гары», то такая існуе сёння непадалёк ад былога манастыра. Пад час Айчыннай вайны 1812 г. на ёй была збудавана артылерыйская батарэя, пазней — Курган Славы 1941—1945 гг. Этнаграфічная назва гары не захавалася. Няма падстаў сумнявацца, што сага прыгадвае менавіта Полацк і полацкі манастыр. Што ж да даты заснавання манастыра, то яе могуць вызначыць толькі археалагічныя даследаванні. Але, на нашу думку, яна наўрад ці выйдзе за межы X—XII стст.

Вяртаючыся да падзей X ст., нельга не адзначыць, што Полацкая зямля разам з князем Рагвалодам была паганскаю. Пра гэта сведчыць хоць бы той факт, што дачка князя Рагнеда згаджалася стаць другою жонкаю кіеўскага Яраполка Святаславіча. Але ж Цвярскі летапіс сцвярджае, што яна стала і першай з тутэйшых манашак, прыняўшы пастрыг пад імем Анастасіі...

Як бы там ні было, сын Рагнеды — першы князь аднаўленай полацкай дынастыі Ізяслаў — услед за бацькам прыняў хрысціянства. Быў гэты князь «ціхі і лагодны», любіў і шанаваў царкву, чытаў святыя пісанні «и слёзен, и умилён, и долготерпелив» (ПСРЛ.— М., 1965, т. IX, стар. 68). Большасць гісторыкаў менавіта з імем гэтага князя звязвае хрышчэнне Полацкай зямлі.

Аргументы важкія: сын Уладзіміра Хрысціцеля (дзейнасць супадае па часе з хрышчэннем Кіева і Ноўгарада) — кніжнік, пры ім, мабыць, пісаліся не толькі граматы, сведчаннем чаго з'яўляецца знойдзеная найстаражытная на землях Усходняй Еўропы віслая пячатка Ізяслава, але і кнігі. Але чаму звестак аб хрышчэнні Ізяславам Полаччыны няма на старонках вядомых нам летапісаў? Калі лічыць прычынай адсутнасць полацкіх летапісаў, то нават у такім выпадку летапісцы-манахі Кіева і Ноўгарада, якія скрупулёзна занатоўвалі ўсе звесткі, наўрад ці абмінулі б такую падзею. Тым больш няма падстаў лічыць працэс прыняцця хрысціянства Полацкай зямлёю гвалтоўным, як пра гэта піша А. М. Рапаў, спасылаючыся на пахавальны абрад і цьмяныя паданні (Рапов О. М. «Русская церковь в IX — первой трети XII в. Принятие христианства».— М., 1988, стар. 373—378). Што-што, а вялікі гвалт, накшталт наўгародскага, у летапіс трапіў бы.

Але вось яшчэ адна думка. Доктар гістарычных навук, археолаг В. В. Сядоў (Масква) лічыць, што няма ніякіх падстаў гаварыць пра суцэльную хрысціянізацыю Полацкай зямлі да канца XII і нават XIII ст., асабліва вёскі (Седов В. В. «Распространение христианства в Древней Руси. Археология и история Пскова и Псковской земли».— Псков, 1988, стар. 128). Адсюль вынікае, што хрысціянства на Полаччыне, як і ў іншых усходнеславянскіх землях, ішло па схеме: князь — дружына — горад — вёска. Паколькі, як вядома, першаштуршком афіцыйнага прыняцця рэлігіі з'яўлялася асоба князя, цікава прасачыць за летапіснымі звесткамі пра полацкіх князёў тых часоў.

У «Аповесці мінулых часоў» пры апісанні падзей пачатку — сярэдзіны XI ст. трапляецца вельмі цікавы, нешматслоўны блок артыкулаў, прысвечаных Полацку: смерць Рагнеды-Гарыславы (1000 г.), смерць Ізяслава (1001 г.), смерць Усяслава (1003 г.), вакняжэнне Брачыслава (1003 г.), паход Брачыслава на Ноўгарад (1021 г.) і яго барацьба з Яраславам Мудрым. У гэтым полацкім блоку апынуўся артыкул «Перенесены святие в святую Богородицу» (1007 г.). На нашу думку і думку некаторых іншых даследчыкаў, мы маем звесткі пра першую полацкую царкву, якая ўзнікла амаль адначасова з Дзесяціннай у Кіеве. Улічваючы памеры артыкула, не будзем прыводзіць цалкам комплекс доказаў, але адзначым, што яны грунтуюцца на тым факце, што першыя кіеўскія (у далейшым — агульнарускія) святыя — Барыс і Глеб — былі кананізаваны ніяк не раней смерці іх бацькі князя Уладзіміра Святаславіча 15 ліпеня 1015 г., а дакладней — паміж 1020 і 1039 гг. (Хорошев А. С. «Политическая история русской канонизации XI—XVI вв.— М., 1986. стар. 15—17). Перанесены ж у новую вышгародскую царкву яны былі яшчэ пазней — у 1072 г. Іншых святых на той час у Кіеве не было і не магло быць, бо ўсходнеславянская царква залежала ад канстанцінопальскай мітраполіі. А ў Полацку у XII ст. існавала дзве царквы Багародзіцы, адна з якіх ужо ў той час звалася «старой» (ПСРЛ.— М., 1962, т. 2, стар. 495). Паўстае слушнае пытанне: хто мог быць вышэйзгаданымі святымі ў Полацкай зямлі пачатку XI ст.? На нашу думку, толькі Торвальд, а разам з ім — Рагнеда, Ізяслаў, малалетні Усяслаў.

Далейшы гісторыка-летапісны лёс Полаччы-

ны XI—XII стст. сведчыць пра актыўную ролю хрысціянства на гэтай зямлі, але са значнымі адрозненнямі ад Кіева і Ноўгарада. Знакаміты полацкі князь Усяслаў Чарадзей (1044—1101 гг.), што, як вядома, праводзіў палітыку пагаднення паміж паганствам і хрысціянствам, збудаваў у Полацку трэці ва Ўсходняй Еўропе і чацвёрты ў свеце храм Сафіі — Мудрасці Божай (каля 1050—1055 гг.). Але першага епіскапа ў Полацку летапісы згадваюць толькі ў 1092 г. і то тады, калі Нікіфар стаў мітрапалітам кіеўскім. Наступны епіскап з'яўляецца ў Полацку толькі пасля смерці Усяслава ў 1104 г. Такая паўза наўрад ці можа сведчыць пра непастаянства Полацкай епіскапскай кафедры. Наадварот, яна павінна была ў любым выпадку дзейнічаць самае позняе ад часу будаўніцтва на Полаччыне першага праваслаўнага храма, а то і задоўга да таго. Але тут трэба прыгадаць, што Міна, пастаўлены ў 1104 г. епіскапам, паходзіў з Кіева, бо менавіта ў тыя часы кіеўская царква дамаглася статуту асобнай мітраполіі, амаль незалежнай ад канстанцінопальскага патрыярха. Гэта і дало ёй магчымасць накіроўваць епіскапаў у іншыя землі. Цалкам аўтакефальнай усходнеславянская праваслаўная царква стала толькі ў 1448 г. (Белевцев Иоанн. «Образование русской православной церкви». Богословские труды.— М., 1987, № 28, стар. 84).

Такім чынам, ёсць пэўныя падставы лічыць, што хрысціянства распаўсюджвалася на Полаччыне ў выніку актыўнасці візантыйскіх місіянераў у X ст. Гэты працэс адбываўся і пашыраўся на першым часе незалежна ад хрысціянізацыі Кіева і Ноўгарада. У сярэдзіне — другой палове XI ст. хрысціянства на Полаччыне уваходзіла ў жыццё тагачаснага грамадства непасрэдна ад імя канстанцінопальскага патрыярха і пры садзейнічанні князёў мясцовай дынастыі. Візантыі гэта давала права непасрэднага духоўнага кіравання і місіянерства, а Полацкай зямлі — падставы для дзяржаўнай самастойнасці, палітыка якой найбольш яскрава праявілася пад час праўлення князёў Брачыслава і Усяслава.

Нельга забываць і тое, што на тагачасныя беларускія землі хрысціянства пранікала не толькі па грэка-візантыйскаму ўзору, але і па рымска-каталіцкаму. Асабліва добра рымскі місіянерскі ўплыў назіраецца з 911 па 1056 г., калі складваецца так званая аттона-салічная і імперска-царкоўная сістэма, якая спрыяла складванню Свяшчэннай Рымскай імперыі. Дзякуючы ёй да другой паловы XI ст. каталіцкая царква авалодвае адной трэццю ўсіх зямель у Заходняй Еўропе.

У другой палове X ст. рымская царква сцвердзіла свой уплыў на землях палякаў, чэхаў, харватаў. Абапершыся на агрэсіўную палітыку германскага караля-імператара Аттона I, яна пранікае на землі венграў, лужычан, палабскіх славян. У канцы X ст. рымскі абрад прыняў польскі князь Мешка, а ў 1000 г. была заснавана самая ўсходняя на той час архіепіскапская кафедра ў Гнёзне. Адна за адной адпраўляюцца ва ўсходнееўрапейскія землі папскія місіі: 960 г.— на чале з Альбертам, манахам кляштара св. Максіміліяна ў Латарынгіі; 979 г.— пасольства ад папы Бенядзікта VII; пасольствы ў 988, 989, 991 і 1000 гг. «Хроніка» Цітмара Мерзебурскага паведамляе без удакладнення даты, што разам з дачкой польскага караля Баляслава Харобрага, якая была аддадзена ў жонкі сыну Уладзіміра — Святаполку, у Кіеў прыехаў яе духоўнік — епіскап калабрэжскі Рэйнберн (Раам Б. Я. «Папство и Русь в X—XV веках.— М.- Л., 1959, стар. 47). Святаполку ў той час належалі Тураў і Тураўскае княства (ПСРЛ.— М., 1962, т. 2, стар. 105). За змову супраць Уладзіміра Святаслававіча Святаполк разам з жонкаю і епіскапам Рэйнбернам быў пасаджаны ў турму-поруб. Там епіскап памёр. Лёс Святаполка, вядомага пад мянушкай Акаянны, таксама быў сумны. Але, магчыма, якраз у тыя часы ўзнікла ў Тураве каталіцкая царкоўная кафедра. Пазней яна прыгадваецца ў Кіева-Пячэрскім пацерыку пад 1105 г. Далейшы лёс каталіцтва на Тураўшчыне невядомы. Тут, як і ў Полацкай зямлі, пачынае панаваць праваслаўе.

Сувязі Візантыі з Полаччынай у X—XI ст. усталяваліся настолькі моцныя, што нават права Кіева прызначаць у іншых землях сваіх епіскапаў не магло іх парушыць. Сведчаннем можа быць уся гісторыя мастацтва і культуры Полацка XI ст. Прыгадайма: у сярэдзіне стагоддзя ў Полацку існуюць 9 праваслаўных храмаў. Сярод іх у Бельчыцкім манастыры так званы «храм-трыконх», адзіны аналаг якога быў ва ўсходніх землях Смаленшчыны. Затое непадалёк ад Візантыі, у Сербіі і Харваціі, падобных храмаў безліч. У гэты ж час у Полацку з'яўляецца дойлід Іаан, які будуе для Ефрасінні Полацкай храм Спаса-Праабражэння. Менавіта яму належыць аўтарства крыжова-купальнага храма з высока ўзнятым барабанам, якіх дагэтуль не будавалі ў землях Кіеўскай Русі. Менавіта тут упершыню з'явіліся ў архітэктуры «какошнікі», якія сталі сімвалам ўсходнеславянскай архітэктуры. Выключнай мастацкай вартасці фрэскі гэтага храма (суровасць лікаў, святасць вуснаў) маюць бліжэйшыя аналагі ў візантыйскім жывапісе. Для Ефрасінні Полацкай і Спаскага храма ў 1161 г. Лазар Богша робіць напрастольны крыж, аздоблены перагародчатымі эмалямі, каштоўнымі камянямі. Крыжы падобнай формы да 1161 г. нідзе не сустракаліся на Кіеўскай Русі, але былі шырока распаўсюджаны ў Візантыі і ў суседніх краінах. І, нарэшце, сама Ефрасіння Полацкая, атрымаўшы каштоўныя падарункі ад імператара Мануіла Комніна і патрыярха Лукі Хрызаверга (у прыватнасці, кнігі і абраз Божай Маці, напісаны самім евангелістам Лукою), выправілася ў святое паломніцтва ў Палесціну праз Канстанцінопаль, дзе і сустрэлі яе з пашанаю...

Можна прыводзіць безліч падобных фактаў. Але мэта нашага артыкула — паставіць пытанне і абудзіць думку навукоўцаў і аматараў роднай гісторыі да пазнання яшчэ адной цікавай старонкі нашай спадчыны.

**Сяргей ТАРАСАЎ**

# БІТВА ЛЯ СІНЯЙ ВАДЫ

Вайсковая гісторыя беларускага народа налічвае нямала слаўных падзей, пра якія мы вельмі мала ведаем. Кожная з іх чакае сваіх даследчыкаў. А наша гаворка пра Сінюю Ваду.

Вядома, што беларускія землі ацалелі ад татара-мангольскага нашэсця. Але Залатая Арда не адмаўлялася ад мэты захапіць іх. Жаданне гэтае ўзрасло, калі на землях Заходняй Беларусі ўтварылася Вялікае княства Літоўскае са сталіцай у Наваградку, які імкнуўся аб'яднаць вакол сябе і ўсходнеславянскія тэрыторыі.

Ужо ў 1258 г. раці Бурундая ваявалі Літву і Нальшаны. Паход не прынёс татарам істотных вынікаў. «Хроніка Літоўская і Жамойцкая», распавядаючы аб бітвах наваградскіх князёў з татарамі, нагадвае таксама пра бітву каля Крутагор'я з ханам Кайданам і падае цікавую звестку, што хан Кайдан меў другое імя — Бурундай. Так што, зусім магчыма, што каля Крутагор'я Міндоўг (ён тады ўладарыў на Літве) разбіў Бурундая. Паданне аб гэтай бітве і трапіла на старонкі «Хронікі».

Другая рашучая спроба Залатой Арды скарыць Вялікае княства Літоўскае прыпадае на 1275 і 1277 гг. Разам з ардынскімі войскамі ў паходах на Беларусь удзельнічалі і дружыны галіцка-валынскіх князёў. Аднак і гэтыя паходы не прынеслі жаданага выніку — Вялікае княства адстаяла сваю самастойнасць. Спусташальныя набегі адбыліся таксама ў 1287 і 1315 гг. У 1324 г. «царь Азбяк послал князей Литвы воевати; и много зла створиша Литве, и со многим пленом придоша в Орду»,— паведамляе летапіс. Гэта быў апошні буйны паход Залатой Арды на Беларусь. Дзесь у сярэдзіне 40-х гадоў XIV ст.— пе́рыяд часовага спаду знешнепалітычнай актыўнасці Арды на захадзе — улада Вялікага княства Літоўскага распаўсюджвалася на Малое Падолле. Юрый, Аляксандр, Канстанцін, Фёдар — сыны наваградскага князя Карыята — на чале наваградскіх дружын і пры падтрымцы Альгерда вызвалілі Малое Падолле ад ардынскага ярма. «Тады тыя княжаты Карыятавічы, прыйшоўшы ў Падольскую зямлю, і ўвайшлі ў прыязнь з атаманамі, пачалі бараніці Падольскую зямлю ад татар і баскакам выхаду не пачалі даваці»,— чытаем у «Хроніцы Быхаўца».

Між іншым, вялікі князь літоўскі Альгерд Віцебскі шукаў варыянты ўсталявання сувязей з Залатой Ардой для барацьбы з Масквой і Польшчай. Так, ён выправіў у Сарай пасольства на чале са сваім братам, наваградскім князем Карыятам. Спроба закончылася няўдачай: хан Джанібек выдаў паслоў маскоўскаму князю Сымону Ганарліваму. Больш удалай аказалася другая спроба: у 1351 г. татара-мангольскае войска разам з беларуска-літоўскім ваюе супраць польскага караля Казіміра за галіцка-валынскія землі. У гэты час Альгерд і мог падрабязна азнаёміцца з тактыкай і баявымі прыёмамі татарскага войска. Ён убачыў пэўную слабасць Залатой Арды і таму задумаў вызваліць ад ардынскага ярма чарнігаўскія, кіеўскія і падольскія землі. Становішча ў Залатой Ардзе дазваляла спадзявацца на поспех: барацьба варожых партый, палацавыя перавароты, вызваленчыя войны паняволеных народаў падрывалі моц мангольскай дзяржавы.

Ды і момант для паходу Альгерд выбраў з улікам сітуацыі ў Залатой Ардзе. У 1362 г. там зноў распачалася міжусобная барацьба за ханскі пасад. Крымская, Перакопская і Ямбалукская орды, пад уладай якіх знаходзілася паўднёва-ўсходняя Украіна, пазбавіліся магчымасці скарыстаць дапамогу цэнтральнай улады. У 1362 г. Альгерд выступіў у «Поля Дикие».

Цікава, каго ён павёў пад сваімі харугвамі? Вядома, што пасля смерці Гедыміна дзяржавай правілі ягоныя сыны Альгерд ды Кейстут. Альгерд, як сведчыць «Хроніка Літоўская і Жамойцкая», «в Вилни на Великом князстве Литовском и Руском, Жомойтском пановал», а Кейстут княжыў «на князстве Троцком», у Гародні, Падляшшы. (Звернем увагу, што сучасныя літоўскія землі па «Хроніцы» не адносіліся да Вялікага княства Літоўскага, а ўваходзілі ў Трокскае княства). У 1362 г. Альгерд не мог звярнуцца па дапамогу да Кейстута. Той якраз ваяваў з крыжакамі ля Коўна. Вялікі князь разлічваў на вайсковыя дружыны са сваіх зямель: Віцебскага і Менскага княстваў, Полаччыны, Палесся, Верхняга Панямоння (гістарычная Літва), Нальшан. У паход выступілі і Карыятавічы з наваградцамі. Як бачым, войска Альгердава цалкам складалася з тых, хто выступаў пад беларускімі харугвамі. На жаль, нельга ўстанавіць дакладную колькасць войска.

Авалодаўшы Кіевам, Альгерд пасадзіў там замест татарскага памагатага князя Фёдара свайго сына Уладзіміра. З Кіева беларускае войска выступіла насустрач татара-манголам, «минувшы Канев и Черкасы». Летапісы не паведамляюць, дзе адбылася гэтая сустрэча. Зноў здагадкі. Даследчыкі лічаць, што Сіняя Вада — гэта назва рэчкі Сінюхі, прытока Паўднёвага Буга; на ёй, маўляў, і сустрэліся войскі. Але дзе менавіта? У «Вялікім чарцяжы», выдадзеным у Маскве ў 1846 г., сказана: «А ўверх па рацэ па Бугу 50 вёрст упадае ў Буг рэчка Сіняя Вада, а па рэчцы па Сіняй Вадзе 70 вёрст ад Буга град Сіняя Вада». Можа, там і адбылася бітва? Адэскі гісторык Браун, які жыў у XIX ст., лічыў, што месца бітвы — непадалёк ад Ачакава, ля Анджыгольскага возера, якое раней, паводле некаторых звестак, называлася Сіняя Вада. Так лічыў і польскі гісторык Сарніцкі.

Пра саму бітву летапісы распавядаюць сціпла. Вось як, напрыклад, апісвае яе ход «Хроніка Літоўская і Жамойцкая»: «А гды пришли до Синей Воды, минувши Канев і Черкасы, указалася им в полю великая орда з трома цариками, на три обозы разделенными, то есть Котлубая (паводле гістарычных дакументаў, крымскага ўладара; значыць, да падольскіх татараў далучыліся і крымскія.— В. Ч.), Катибая, Бекера и Дмитра-солтана. То обачивши, Ольгерд, же до войны готовы татаре, розшиковал войско свое на шесть гуфов,

закривленых з боков, и на чоло розсадивши, абы их татаре танцами звыклыми огорнути и стрелами шкодити не могли. А потом з великою запильчивасцю татаре град железный з луков на Литву густо пустили, але им стрельбою не зашкодили, для порядного ущикования и прудкого розступеня. Литва зас з Русю скочила зараз з копиями и шаблями, потыкаючыся, чоло им перервали и танцы помешали, другие зас з куш белтами, а звлаща новогорожане з Кориятовичами валили их з коней, напираючы на них з боков, летали не иначай як снопы от гвалтовнага ветру татаре розбурены, и не могуж болш Литвы на чоле вытрвати, почали мешатися и утекати по широких полях».

Паспрабуем расшыфраваць гэтае летапіснае паведамленне. Адзначым адразу, што навукай устаноўлена гістарычнасць імён татарскіх уладароў (гл.: Ф. М. Шабульдо. «Земли Юго-Западной Руси в составе Великого княжества Литовского».— К., 1987, стар. 71-72). Так, Катлубая прызнаюць за Кутлуг-Бута, сына крымскага намесніка Кутлук-Цімура. Кацібая лічаць уладаром Перакопскай арды, улада якой распаўсюджвалася на Паўночнае Прычарнамор'е, ад Крыма да Дняпра і Днястра. Уладаром Ямбалукскай арды, качэўі якой знаходзіліся каля Днястра, дзе іх межамі былі Карпаты і нізоўе Прута і Дуная, прызнаецца Дмітр-салтан. У дакументах венгерскага караля Людовіка I згадваецца «татарскі князь Дземетрый».

Татара-мангольскае войска раней прыйшло да месца бітвы і, безумоўна, выбрала лепшыя пазіцыі. Такім чынам, з самага пачатку Альгерд быў пастаўлены ў няроўнае становішча. Перад ім было дысцыплінаванае, добра ўзброенае войска, якое шырока карысталася ў баі шматлікімі тактычнымі хітрасцямі і прыёмамі: засадамі, нечаканымі нападамі, завабліваннем праціўніка наўмысным адыходам і раптоўным пераходам у наступ. Рухомая лёгкая конніца давала татарам магчымасць манеўраваць, мяняць кірункі атакі, хутка адрывацца ад ворага і без страт адыходзіць. Што супрацьпаставіў татарам Альгерд? Віцебскі князь, які «не токмо силою, елико мудростию воеваши», удала расставіў сваё войска, якое было падзелена на шэсць гуфаў (палкоў), што павышала манеўранасць і баяздольнасць. Войска развярнулася шыхтам-«сярпом», вылучыўшы далёка наперад флангі. Атрымаўся «мех» — пастка, у якую Альгерд збіраўся завабіць татарскае войска і пазбавіць яго манеўранасці. Князь ведаў улюбёную тактыку манголаў: удар моцнымі флангамі па флангах праціўніка з мэтаю абысці яго, выклікаць паніку і акружыць. Таму на флангах Альгерд паставіў загартаваныя ў войнах з татарамі навагрaдскія палкі на чале з братамі Карыятавічамі, у цэнтры размясціў «Літву зас з Русю», нальшанцаў, літвінаў, віцяблян, палачан і іншыя дружыны з беларускіх зямель. Альгерд улічыў назапашаны вопыт старажытнарускага баявога майстэрства і, у прыватнасці, тых жа «грозных полочан»: падзел баявога парадку войска па фронту і ўглыб, выкананне кожнай часткай войска сваёй тактычнай задачы, фарміраванне моцных флангаў.

З самага пачатку бітва склалася не на карысць беларускіх воінаў, ім давялося шыхтавацца пад абстрэлам татарскіх лучнікаў. «Але им стрельбою не зашкодили», бо воіны былі ў даспехах. Зрабілі сваю справу і кушы, якія знаходзіліся ў цэнтры. Стральба жалезнымі балтамі аблегчыла задачу воінаў — стрымаць татарскі націск. У цэнтры татарам так і не ўдалося прарваць фронт. Не здабылі яны перамогі і на флангах. Навагрaдцы мужна змагаліся з ворагам, адбілі ўсе яго атакі і самі ўдарылі па татарах, «напираючы на них з боков». Удар навагрaдцаў па татарскіх флангах і прынёс беларускаму войску перамогу. «Трупов теж татарских полны поля и реки были»,— кажа аб татарскіх стратах хроніка. У сечы загінулі і ваяводы Катлубай, Кацібай, Дмітр-салтан.

У адрозненне ад Кулікоўскай бітвы, дзе перамога над татарамі далася рускаму войску вялікімі стратамі, што прывяло да «оскуднення воиньства», у выніку чаго Дзмітрый Данскі так і не вызваліў Русь ад мангольскага ярма і не спыніў нашэсця Тахтамыша, перамога Альгерда мела сур'ёзны плён. Адразу пасля бітвы віцебскі князь вызваліў ад татараў гарады Белую Царкву, Звянігарад, Пуціўль, захапіў татарскія крэпасці Таргавіцу і Ачакаў, «и от Путивля аж до вустя Дону от татаров валко учинили и остранили аж до Волги». Землі ад вусця ракі Серат да Чорнага мора, басейнаў рэк Днястра, Паўднёвага Буга, Паўднёвага Падняпроўя, Чарнігаўшчына былі вызвалены ад татараў, «иж ледве часть их праз Днепр утекла на Черное море и до Перекопу». Краіны Усходняй і Паўднёва-Усходняй Еўропы на доўгія гады, пакуль у Крыме не ўтварылася агрэсіўнае крымскае ханства, пазбавіліся спусташальных татарскіх набегаў. Бітва каля Сіняй Вады аб'ектыўна спрыяла вызваленчаму руху заняволеных народаў супраць татара-мангольскага ярма, натхніла рускі народ на перамогі ў бітвах на Вожы і Кулікоўскім полі — быў пакладзены пачатак разгрому мангольскай агрэсіі ў Еўропе. Нельга не адзначыць яшчэ адну акалічнасць — да нядаўняга часу па вядомых прычынах афіцыйная гістарычная навука характарызавала паход беларускага войска на Падолію як захопніцкі: «Пазбаўленая палітычнага адзінства, акружаная з усіх бакоў ворагамі, прыгнечаная ардынскімі феадаламі Кіеўшчына, Чарнігаўшчына і Падолія не змаглі даць адпору літоўскім захопнікам» («Гісторыя Украіны» — Кіеў, 1982, стар. 37).

Аднак гістарычныя факты абвяргаюць гэтае сцверджанне. Не захопнікамі, а вызваліцелямі прыйшлі беларускія воіны на ўкраінскую зямлю. «Тогда и те княжата Корыятовичи, пришедши в Подольскую землю, в приязнь вошли с атаманами и учали боронити их от татар, и дани не учали давати татарам»,— сведчыць летапіс.

Не рабаваннем, не гвалтам займаліся навагрaдцы пасля бітвы каля Сіняй Вады на Падольскай зямлі, а разам з украінцамі баранілі яе ад татарскіх і валашскіх набегаў, будавалі Бэкат, Смотрыч, Камянец-Падольскі.

Хочацца верыць, што нарэшце адна з яркіх старонак нашай гісторыі, бітва каля Сіняй Вады, атрымае законнае права быць у падручніках гісторыі і памятнай датай згадвацца ў календарах.

**Віктар ЧАРОПКА**

# УНІКАЛЬНАЯ ЗНАХОДКА БЕЛАРУСКАЙ ЗБРОІ

У красавіку 1988 г. вучні 6-га класа СШ № 24 г. Гродна М. Пазнякоў, Я. і А. Ігматуліны, В. Тарукін знайшлі на беразе Нёмана металічныя рэчы, якія здаліся ім старажытнымі. Школьнікі прынеслі знаходкі ў Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей, дзе высветлілася, што гэта набор сярэднявечнага ўзбраення і рыштунку. Супрацоўнікамі музея і аўтарам гэтых радкоў тэрмінова быў арганізаваны агляд месца знаходкі. Нават павярхоўнае вывучэнне рэчаў паказала, што перад намі не выпадковы набор, а комплекс, у які ўваходзяць меч, баявая сякера, наканечнік дзіды, наканечнік дроціка, шлем, фрагмент кальчугі, шпілька, 3 шпоры, цуглі, стрэмя і спражка (апошняя знойдзена пад час агляду месца знаходкі).

Скарб выяўлены на высокім беразе Нёмана прыблізна за 1,5 км ніжэй па плыні ад гістарычнага цэнтра горада. Зброю і рыштунак адрэстаўравалі супрацоўнік навукова-вытворчага аб'яднання «Белрэстаўрацыя» Я. Улез. Пасля рэстаўрацыі на лязе мяча выявіўся знак у выглядзе крыжа, створанага з 4 меншых па памерах крыжыкаў. З дапамогай аналагаў і існуючых навуковых класіфікацый кожная рэч апрацавана мною паасобку.Выявілася, што некаторыя знаходкі мелі шырокі перыяд бытавання, але на пэўным адрэзку час ужывання ва ўсіх рэчах супадае: з 20-х гадоў і да канца XIII ст. Такім чынам атрымалі даціроўку комплексу.

Форма некаторых рэчаў паказвае, што зроблены яны ўсходнеславянскімі майстрамі. Мы можам з вялікай доляй верагоднасці сцвярджаць, што знойдзена самая старажытная беларуская зброя, бо каля Гародні з усходніх славян пражывалі толькі беларусы. Тым больш, што XIII—XIV стст. прынята лічыць пачаткам фарміравання беларускага этнасу.



Старажытныя майстры любілі ўпрыгожваць свае вырабы, але такім чынам, каб не пагоршыць рабочыя вартасці рэчы. Аздобленыя і нашы знаходкі. Шпоры маюць прыгожыя фігурныя спражкі. Вялікая спражка таксама мае складаную канфігурацыю. На спражцы і на адной са шпораў захаваліся сляды інкрустацыі каляровым металам. Па-мастацку аформлена наверша мяча.

На падставе вывучэння скарбу мы можам рабіць яшчэ некаторыя высновы рознай ступені верагоднасці. Так, амаль несумненна, што комплекс належаў аднаму чалавеку. Не выклікае сумненняў яго грамадскі статус — прафесійны воін, які належыў да класу феадалаў. Магчыма, воін быў з дружыны гарадзенскага замка. На замку пад час раскопак у слаі XIII ст. знойдзены наканечнік дзіды, вельмі падобны на наш.

Застаецца невядомым, як комплекс апынуўся на беразе ракі. Можна выказваць шмат здагадак, якія нельга праверыць: напрыклад, пахаванне, смерць гаспадара пад час пераправы ці інш.

Рэдкая знаходка зойме вартае яе каштоўнасці месца ў экспазіцыі Гродзенскага музея.

**Алесь КРАЎЦЭВІЧ**

# АПОВЕСЦЬ ПРА МІНДОЎГА І ВОЙШАЛКА

Ніколі раней так востра, як у XIII ст., не паўставала перад нашымі продкамі пытанне — быць ці не быць! Татара-манголы і нямецкія крыжакі з розных бакоў няўмольна насоўваліся на беларускія землі. У такіх умовах адышлі на другі план ранейшыя спрэчкі і часам залішне гарачыя, да крыві, сваркі крывічоў і дрыгавічоў між сабою і з адзінавернымі славянскімі плямёнамі, а таксама з даўнімі суседзямі — «паганаю літвою».

Гістарычнай неабходнасцю часу стала палітычная кансалідацыя беларускіх зямель, іх больш цеснае тэрытарыяльнае і ваенна-палітычнае аб'яднанне, этнічнае адзінства. Гэты працэс супаў па часе з зараджэннем дзяржаўнасці ў літоўцаў. У канкрэтных гістарычных умовах таго часу склаўся своеасаблівы беларуска-літоўскі ваенна-палітычны саюз, які і выклікаў да жыцця новае палітычнае аб'яднанне ў Еўропе — Вялікае княства Літоўска-Беларускае. Несумненнае прагрэсіўнае значэнне гэтай дзяржавы ў гісторыі беларускага і літоўскага народаў, у абароне іх нацыянальных інтарэсаў, у паскарэнні сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця, этнічнай кансалідацыі, у іх міжнародным самасцвярджэнні.

Аснову эканамічнай і ваенна-палітычнай магутнасці Вялікага княства складалі славянскія (беларускія і ўкраінскія) землі, якія ў XV ст. займалі каля 9/10 усёй яго тэрыторыі. «Славяне, здаўна хрысціяне, стаялі на больш высокім узроўні цывілізацыі,— пісаў Адам Міцкевіч.— Часткова пераможаныя літоўцамі, яны, дзякуючы паступоваму ўплыву, атрымалі маральную перавагу над моцным, але варварскім прыгнятальнікам і паглынулі яго, як кітайцы татарскіх заваёўнікаў». Тая стыхія, якая славянізавала Вялікае княства Літоўскае, была пераважна беларускаю, справядліва ўдакладняў пазней выдатны ўкраінскі гісторык Міхаіл Грушэўскі. Аб панаванні ў гэтай дзяржаве славянскай культуры пераканаўча сведчыць той бясспрэчны факт, што старабеларуская мова на працягу больш як 3 стагоддзяў (з сярэдзіны XIV ст.) служыла ў Вялікім княстве ў якасці агульнадзяржаўнай.

Працэс утварэння Літоўска-Беларускай дзяржавы праходзіў вельмі нялёгка. Былі моманты, асабліва ў XIII ст., калі здавалася, што канчаткова рухне яшчэ не замацаваная аснова гэтага палітычнага аб'яднання, якую няспынна падточвалі ўнутраныя міжусобіцы і знешнія напады. Не ўсе дэталі драматычнай гісторыі ўтварэння Вялікага княства Літоўска-Беларускага добра вядомыя і зразумелыя нам сёння. Аднак некаторыя вельмі важныя моманты гэтага складанага працэсу можна прасачыць дзякуючы каштоўным звесткам Галіцка-Валынскага летапісу, што склаўся ў другой палове XIII ст. у заходняй Украіне і збярогся ў Іпацьеўскім спісе XV ст. Летапіс выразна сведчыць, як цэнтр ваенна-палітычнай актыўнасці на беларускіх землях перамясціўся тады з Верхняга Падзвіння на чале з Полацкам у Верхняе Панямонне са сталіцаю Наваградкам, дзе на беларуска-літоўскім этнічным сумежжы пачало ўтварацца ядро новай дзяржавы. Яе заснавальнікамі былі князі Міндоўг і Войшалк, якім і прысвечаны шэраг яркіх старонак гэтага летапісу.

Не ўдаючыся ў дэталёвы разгляд унікальных звестак (арыгінальная канцэпцыя іх тлумачэння даволі падрабязна выкладзена ў працы Міколы Ермаловіча «Па слядах аднаго міфа»), зазначым, што падзеі тут апісаны з пункту гледжання ўкраінскага летапісца, інтарэсаў Галіцка-Валынскага княства і яго князёў Данілы Раманавіча (1201—1264), яго брата Васількі (1203—1271), Данілавых сыноў Шварна і Льва, якія былі супернікамі Міндоўга і Войшалка. Як сведчыць летапіс, у сваёй палітыцы супраць аб'яднаўчай дзейнасці літоўска-беларускіх князёў галіцка-валынскія князі шырока выкарыстоўвалі ваенную дапамогу палаўцаў і татараў, яцвягаў і жамойтаў, ляхаў і крыжакоў. Аднак, нягледзячы на гвалтоўную смерць Міндоўга і Войшалка, канчатковую перамогу ўсё ж святкавала маладая Літоўска-Беларуская дзяржава, якая змагла мужна выстаяць у цяжкай барацьбе з такой шматлікай, але непастаяннай кааліцыяй.

У змешчаных ніжэй запісах Галіцка-Валынскага летапісу шмат разнастайных звестак і з гістарычнай геаграфіі Літвы, Беларусі і суседніх зямель. Так, з гэтай крыніцы мы даведваемся, напрыклад, што паселішча Здзітава, якое цяпер у Бярозаўскім раёне Брэсцкай вобласці, існавала ўжо ў XIII ст. Асобных жа гарадоў, якія згадваюцца ў гэтым помніку (Варута, Цвірамет, Турыйск), сёння ўжо няма, і іх былое месцазнаходжанне дакладна невядомае.

Галіцка-Валынскі летапіс захаваў нам таксама розныя варыянты назвы старажытнага беларускага горада Навагрудка, якія тады ўжываліся (Новы Гарадок, Новагародак, Ноўгарадак, Наваград, Наваградак), і дакументальна пацвярджае, што сучасная беларуская народная назва Наваградак узыходзіць да XIII ст. Дадзеныя гэтага летапісу і іншых гістарычных крыніц пераканаўча паказваюць таксама, што форма Новагародак, якая дала сучасную назву Навагрудак (праз прамежкавую — Навагродак), узнікла пазней (дзесьці ў XVI ст.) пад польскім уплывам. Таму ўжываць яе ў адносінах да эпохі XIII—XV ст., як гэта робіцца сёння ў папулярных публікацыях, энцыклапедычных даведніках і нават сур'ёзных навуковых працах,— неправамерна.

Выкарыстоўваючы каштоўныя звесткі Галіц-

ка-Валынскага летапісу па гісторыі Літвы, Беларусі і Украіны, неабходна памятаць, што датаванне гістарычных падзей у ім не ўсюды храналагічна дакладнае. Месцамі яно разыходзіцца з сапраўднасцю на 2, 3 і нават 5 гадоў. Справа ў тым, што гэты летапісны помнік спачатку быў складзены як недатаваная гістарычная аповесць. Пазней жа, дзесьці ў XIV ст., першапачатковы тэкст падзялілі на пагадовыя артыкулы і часам адвольна, даволі прыблізна праставілі даты.

**Вячаслаў ЧАМЯРЫЦКІ**

* * *

**У год 6760 (1252)... У той жа год выгнаў Міндоўг сваіх пляменнікаў Таўцівіла і Эдзівіда. Ен паслаў іх разам з іх дзядзькам Выкінтам на Русь ваяваць, к Смаленску, і сказаў: «Хто што захопіць, хай тым і валодае». Сам жа ён, варагуючы з імі, вераломна завалодаў Літвою, захапіў усю зямлю Літоўскую і шматлікае дабро іх і прысвоіў іх набытак. І паслаў Міндоўг услед за імі сваіх вояў, каб забіць іх. Уведаўшы пра гэта, яны ўцяклі да [князёў] Данілы і Васількі і прыехалі ва Уладзімер. Міндоўг жа прыслаў сваіх паслоў, кажучы: «Не чыні ім літасці». Але Даніла і Васілька не паслухалі яго, бо іх сястра была замужам за Данілам.**

**Пасля Даніла дамовіўся з братам сваім [Васількам] і паслаў у Ляшскую зямлю да князёў ляшскіх, кажучы: «Надышоў час ісці хрысціянам на язычнікаў, бо яны ваююць паміж сабою». Ляхі абяцалі, але не стрымалі сваё слова. Даніла і Васілька паслалі Выкінта да яцвягаў, да жамойтаў і да немцаў у Рыгу, і ён падкупіў срэбрам і шматлікімі дарункамі яцвягаў і палову жамойтаў. Немцы ж адказалі Данілу так: «Дзеля цябе ўчынілі мір з Выкінтам, хоць ён шмат нашых загубіў». Нямецкія рыцары абяцалі прыйсці на дапамогу Таўцівілу. Даніла ж і Васілька пайшлі да Наваграда (Нава градка — В. Ч.). Параіўшыся з братам сваім Васількам і са сваім сынам, Даніла паслаў брата свайго на Ваўкавыск, сына на Слонім, а сам пайшоў да Здзітава. Яны захапілі шмат гарадоў і вярнуліся дамоў. Пасля прыслаў пасла Выкінт, паведамляючы, што немцы хочуць прыйсці на дапамогу Таўцівілу. І паслаў Даніла Таўцівіла [ў паход] і даў яму ў дапамогу русаў і полаўцаў, і доўга яны ваявалі. Адтуль Таўцівіл пайшоў з палоннымі Данілы ў Рыгу, і прынялі яго рыжане з вялікаю пашанаю і хрысцілі яго.**

**Калі ўведаў Міндоўг, што Таўцівілу хочуць дапамагаць божыя дваране, і біскуп, і ўсе рыжскія воі, ён спалохаўся і таемна паслаў да Андрэя, рыжскага магістра, і пераканаў яго з дапамогаю багатых дарункаў, улітасцівіў яго, паслаўшы шмат золата і срэбра, і прыгожых срэбрых і залатых сасудаў, і шмат коней. І сказаў ён [магістру]: «Калі ты заб'еш або выжанеш Таўцівіла, атрымаеш яшчэ больш». Магістр жа адказаў: «Не пазбавішся ты ад гэтага, пакуль не пашлеш да папы і не прымеш хрышчэння — не адолееш ворага. Я ж да цябе дружалюбнасць маю». О, горай зла! Золатам асляпіў ён (магістр) вочы свае, і цяпер зноў з-за іх бяды набярэцца.**

**Міндоўг прыслаў да папы і прыняў хрышчэнне. Аднак хрышчэнне яго было няшчырае, ён таемна прыносіў ахвяры сваім багам: першаму Нанадзею, і Целявелю, і Дзіверкізу, заечаму богу, і Мідзяіну. Калі ён выязджаў у поле і выбягаў заяц на поле, ён не заходзіў у лес і не асмельваўся нават дубца выламаць. Міндоўг багам сваім прыносіў ахвяры, целы мёртвых спальваў і адкрыта трымаўся свайго язычніцтва.**

**Таўцівіла ж падтрымлівалі біскуп і пробашч Віржан, якія шкадавалі аб ім, бо ведалі, што калі б Таўцівіла не выгналі, то Літоўская зямля была б у іх руках і паняволі прыняла б хрышчэнне. А што літоўцы не хрысціліся, вінаваты Андрэй. За гэта Ордэн пазбавіў яго сана. Таўцівіл жа прыбег у Жамойць да свайго дзядзькі Выкінта, прыхапіўшы яцвягаў, жамойтаў і дапамогу Данілаву, якую раней князь даў яму, і пайшоў на Міндоўга.**

**Міндоўг жа падрыхтаваўся, але вырашыў не біцца з ім, а ўвайшоў у горад Варута. Ноччу ён выслаў свайго швагра, але яго прагналі русы і яцвягі. Раніцай выехалі немцы з самастрэламі, і паехалі супраць іх русы і полаўцы з [лукамі і] стрэламі і яцвягі з суліцамі, і ганяліся яны па полі, быццам у час гульні. Адтуль вярнуліся ў Жамойць.**

**Прыйшоў Міндоўг, сабраўшы вялікую сілу, на горад Выкінта, называны Цвірамет. Таўцівіл выехаў з горада, а з ім русы і полаўцы Данілавы, і жамойты з імі, і шмат пешых вояў. У пагоні з ім палаўчанін трапіў стралой у сцягно каня Міндоўгавага, і вярнуўся Міндоўг у сваю зямлю. І шмат бітваў было паміж імі. Пад тым горадам [Цвіраметам] забілі Вісімота.**

**У год 6761 (1253). Таўцівіл прыслаў [да Данілы] Роўбу, кажучы: «Ідзі к Наваграду» (Нава градку.— В. Ч.). І Даніла пайшоў з братам [сваім] Васількам, сынам Львом, з полаўцамі і са сваім сватам Цягакам, і прыйшоў к Пінску. Князі ж пінскія былі няшчырыя, іх узялі з сабою на вайну паняволі. Літоўцы прыслалі вартавы атрад, і прайшоў ён праз балоты аж да ракі Шчары. Калі ўсё войска злучылася, учынілі раду і сказалі: «Пра нас ужо ведаюць». Спрачаліся воі, не хочучы ваяваць. І сказаў ім Даніла мудрае слова: «Сорамна нам будзе перад Літвою і іншымі землямі, калі мы не дойдзем і вернемся. Заўтра,— сказаў ён,— учынім раду». Тае ж ночы ён паслаў да ўсіх вояў сказаць: «Ідзіце, няхай убачаць усе тыя, хто не хоча ісці на вайну». І, убачыўшы, што частка вояў пайшла, паняволі пайшлі і іншыя воі. Раніцай жа яны захапілі ўсю зямлю Наваградскую і адтуль вярнуліся назад. Яцвягі таксама прыйшлі на дапамогу Данілу, але не змаглі праехаць, бо снег вялікі выпаў. Адтуль яны вярнуліся, захапіўшы з божаю дапамогаю шмат палонных.**

**Пасля паслаў Даніла з братам сваім [Васількам] і з сынам сваім Раманам сваіх людзей, і ўзялі яны Гарадзень, а самі вярнуліся ад Бельска [дадому]. Пасля Даніла паслаў шмат пешых вояў і**

коннікаў на іх гарады, і яны захапілі ўсе іх вотчыны і землі. Міндоўг жа паслаў свайго сына [Войшалка], і той ваяваў каля Турыйска. У той жа год Міндоўг прыслаў да Данілы [паслоў], просячы міру і жадаючы згоды. Тады ж Таўцівіл прыбег да Данілы ад жамойтаў і яцвягаў і сказаў, што Міндоўг падкупіў іх срэбрам. І Даніла раззлаваўся на іх [з-за гэтага].

У год 6763 (1255)... Учыніў Войшалк мір з Данілам і выдаў дачку Міндоўгаву, сястру сваю, за Шварна. І прыйшоў ён у Холм да Данілы, пакінуўшы сваё княжанне, і пастрыгся ў манахі. Ён аддаў Раману, сыну караля [Данілы], Новагарадок (Нава градак — В. Ч.) ад Міндоўга, а ад сябе Слонім і Ваўкавыск і ўсе гарады, сам жа прасіўся ісці ў Святую гару. І знайшоў яму кароль [Даніла] дарогу праз [землі] караля Угорскага. Але не змог [Войшалк] дайсці да Святой гары і вярнуўся назад праз Балгарыю.

У год 6770 (1262). Пайшлі літоўцы ад Міндоўга ваяваць супраць ляхаў, і Астап Канстанцінавіч з імі, пракляты і беззаконны, які калісьці ўцёк з Разані. Літоўцы разбурылі [горад] Ездаў напярэдадні Іванавага дня, на самае Купалле. Там забілі і князя Семавіта, а сына яго Кандрата паланілі, і шмат палонных узялі, і так вярнуліся дамоў.

Успомніў Міндоўг, што князь Васілька з багатыром [Бурундаем] ваяваў зямлю Літоўскую, і паслаў рацць супраць Васількі, і ваявалі літоўцы каля Камянца. Князь Васілька не пайшоў на іх, чакаючы другой раці. Ён паслаў на іх Жаліслава і Сцяпана Мядушніка, і яны гналіся за імі (літоўцамі.— В. Ч.) аж да самай Ясельды, і не дагналі іх, бо войска было невялікае. [Літоўцы] ўзялі толькі палонных і таму хутка пайшлі. Другая [літоўская] рацць ваявала ў той жа тыдзень каля Мельніка. Быў з імі ваявода Каўдзіжад Тудзіямінавіч. Узялі яны шмат палонных.

Князь жа Васілька паехаў за імі з сынам сваім Уладзімерам, з баярамі і слугамі, спадзеючыся на Бога і на прачыстую яго маці, і на сілу святога крыжа, і дагнаў іх ля горада Небля. Літоўцы ўжо стаялі ля возера і, убачыўшы войска, гатовае да бою, селі, як звычайна, у тры рады за шчытамі. Васілька ж, падрыхтаваўшы свае палкі, пайшоў супраць іх, і пачалася бітва. Літоўцы не вытрымалі і кінуліся наўцёкі, але нельга было ўцячы, бо побач было возера. І пачалі іх секчы, а іншыя ў возеры патапіліся. І так усіх іх перабілі, ні адзін з іх не выратаваўся.

Уведаўшы пра гэта, пінскія князі Фёдар, Дзямід і Юрый прыехалі да Васількі з напоямі і пачалі весяліцца, бо ўбачылі сваіх ворагаў разбітымі, а ўсю дружыну цэлаю. Толькі адзін быў забіты ў войску Васількі — Прайбор, сын Сцяпана Радзівіча. Пасля князі пінскія паехалі дамоў, а Васілька паехаў ва Уладземір з перамогаю і пашанаю вялікаю, славячы і хвалячы Бога, які стварыў цуд — пакарыў ворагаў князю Васільку.

...Прайшоў год, і восенню быў забіты вялікі князь літоўскі Міндоўг, самаўладца ўсёй зямлі Літоўскай. Пра яго забойства так раскажам. Калі ён княжыў у Літоўскай зямлі, пачаў забіваць сваіх братоў і пляменнікаў, а іншых выгнаў з краіны і стаў княжыць адзін ва ўсёй зямлі Літоўскай. І пачаў ён вельмі ганарыцца і пышыцца, лічачы, што няма роўнага яму. Былі ў яго сын Войшалк і дачка. Дачку ён аддаў замуж за Шварна Данілавіча ў Холм.

Войшалк жа пачаў княжыць у Наваградку, будучы язычнікам, і стаў праліваць шмат крыві. Кожны дзень ён забіваў па тры-чатыры чалавекі. Калі ж у які дзень не забіваў нікога, то вельмі смуткаваў, а калі забіваў — тады радаваўся. Пасля ўвайшоў страх божы ў яго сэрца, і задумаўся ён, і захацеў прыняць святое хрышчэнне. І хрысціўся там жа, у Наваградку, і стаў хрысціянінам. Пасля гэтага пайшоў Войшалк у Галіч да князя Данілы і Васількі, жадаючы пастрыгчыся ў манахі. Тады ж Войшалк хрысціў Юрыя Львовіча. Пасля ён пайшоў у Паланіну ў манастыр да Грыгорыя і там пастрыгся ў манахі. У манастыры [Войшалк] прабыў тры гады, а адтуль пайшоў у Святую гару, прыняўшы блаславенне ў Грыгорыя. Грыгорый быў святы чалавек, якога перад ім не было і пасля яго не будзе. Войшалк не змог дайсці да Святой гары, бо тады ў тых землях быў мяцеж вялікі. І вярнуўся ён зноў у Наваградак, стварыў сабе манастыр на рацэ Нёман, паміж Літвою і Наваградкам, і там жыў.

Бацька ж яго Міндоўг дакараў яго за такое жыццё. А ён бацьку свайго вельмі не любіў. У той час памерла княгіня Міндоўгава, і пачаў ён аплакваць яе. Сястра ж была замужам за Доўмантам, князем нальшанскім. І паслаў Міндоўг у Нальшаны па сваю швагерку і так сказаў: «Гэта твая сястра памерла, прыязджай аплакваць сястру сваю». Калі ж яна прыехала аплакваць, Міндоўг захацеў ажаніцца з ёю. І пачаў гаварыць ёй: «Сястра твая, паміраючы, наказвала мне ўзяць цябе за жонку. Яна сказала так — няхай чужая дзяцей не крыўдзіць». І ўзяў яе за жонку. Доўмант, дачуўшыся пра гэта, вельмі засмуціўся і стаў думаць, як бы яму забіць Міндоўга. І знайшоў сабе Траняту, пляменніка Міндоўга, і разам з ім вырашыў забіць Міндоўга. Транята ж быў тады ў Жамойці.

У год 6771 (1263). Паслаў Міндоўг усё сваё войска за Дняпро супраць Рамана, князя бранскага. Доўмант пайшоў разам з імі на вайну, але, выбраўшы зручны час, вярнуўся назад, кажучы: «Варажба паказвае, што мне не трэба ісці разам з вамі». Вярнуўшыся назад, ён шпарка паскакаў, дагнаў Міндоўга і забіў яго і двух яго сыноў, Рукля і Рапек'я. Так учынілася забойства Міндоўга.

Пасля забойства Міндоўга Войшалк, баючыся такога ж [лёсу], уцёк у Пінск і там жыў, а Транята пачаў княжыць па ўсёй зямлі Літоўскай і ў Жамойці. І паслаў ён у Полацк па брата свайго Таўцівіла, сказаўшы так: «Брат, прыедзь сюды, падзелім зямлю і набытак Міндоўга». Калі Таўцівіл прыехаў да яго, пачаў думаць Таўцівіл, як бы забіць Траняту, а Транята стаў думаць, як бы забіць Таўцівіла. Задуму Таўцівіла раскрыў яго баярын Пракоп, палачанін. Транята ж апярэдзіў Таўцівіла і забіў яго і стаў княжыць адзін. Пасля гэтага конюхі Міндоўга, чатыры парабкі, сталі думаць, як бы ім забіць Траняту. Калі Транята ішоў у лазню, яны выбралі зручны момант і забілі яго. Так учынілася забойства Траняты. Дачуўшыся пра гэта, Войшалк пайшоў з пінянамі к Наваградку, а адтуль, узяўшы з сабою наваградцаў, пайшоў у Літву княжыць. Усе літоўцы прынялі яго з радасцю, сына свайго гаспадара.

У год 6772 (1264). Войшалк стаў княжыць па ўсёй зямлі Літоўскай, і пачаў ён вынішчаць сваіх

ворагаў, і перабіў іх безліч, а іншыя разбегліся хто куды. І таго Астапа, праклятага, беззаконнага, ён забіў, пра якога мы раней пісалі.

...Калі Войшалк княжыў у Літве, сталі яго падтрымліваць князі Шварн і Васілька. Назваў ён Васільку сваім бацькам і панам... І прыйшоў з дапамогаю ў Літву да Войшалка. І ўбачыў Войшалк дапамогу Шварна і Васількі, бацькі свайго, і вельмі ўзрадаваўся, і стаў рыхтавацца да вайны, і пайшоў з вялікім войскам і стаў захопліваць гарады ў Дзявойве і Нальшанах. Цабраўшы гарады і перабіўшы сваіх ворагаў, ён вярнуўся дамоў.

У год 6776 (1268)... Пасля Войшалк аддаў сваё княжанне швагруу свайму Шварну, а сам зноў захацеў стаць манахам. Шварн яго вельмі ўпрошваў, каб ён яшчэ княжыў з ім у Літве, але Войшалк не хацеў, так кажучы: «Я шмат саграшыў перад Богам і людзьмі. Ты ж княж, і зямля будзе ў бяспецы». Шварн не змог яго ўгаварыць і стаў княжыць у Літве, а Войшалк пайшоў ва Уграўск, у манастыр святога Данілы, і апрануўся ён у манаскае адзенне, і стаў жыць у манастыры, і так сказаў: «Тут паблізу ад мяне сын мой Шварн, а другі — мой пан і бацька, князь Васілька, і гэтым суцяшаюся». Грыгорый жа Цаланінскі, яго настаўнік, тады яшчэ быў жывы. Войшалк распытаў, ці жывы ён, узрадаваўся і паслаў яму сказаць: «Там мой бацька, прыедзь сюды». І той прыехаў да яго і наставіў яго на шлях манаскі.

У той час Леў прыслаў да Васількі сказаць: «Я хацеў бы з табою сустрэцца, але каб і Войшалк тут быў». Васілька паслаў па Войшалка ў перадвелікодны тыдзень, так сказаўшы: «Прыслаў да мяне Леў, каб мы сустрэліся. [Прыязджай], не бойся нічога». Войшалк жа пабаяўся Льва і не хацеў ехаць, але паехаў на заруку Васількі. Ён прыехаў ва Уладзімер у святую нядзелю (на Вялікдзень.— В. Ч.) і спыніўся ў манастыры святога Міхаіла Вялікага. Немец Маркольт паклікаў усіх князёў на абед: Васільку, Льва, Войшалка. І сталі яны абедаць, піць і весяліцца. Васілька, напіўшыся, паехаў дамоў спаць. Войшалк жа паехаў у манастыр, дзе спыніўся. Пасля прыехаў да яго ў манастыр Леў і пачаў гаварыць Войшалку: «Куме, нап'ёмся!» І пачалі яны зноў піць. Д'ябал, які заўсёды не хоча дабра чалавечаму роду, падбухторыў Льва, і забіў ён Войшалка ад зайздрасці, што той аддаў Літоўскую зямлю яго брату Шварну. Так учынілася забойства Войшалка. Прыбралі цела яго і пахавалі ў царкве святога Міхаіла Вялікага.

Пасля Войшалка княжыў у Літоўскай зямлі Шварн, княжыў ён нядоўга і памёр, і пахавалі яго ў царкве святой Багародзіцы ля труны яго бацькі.

Прадмова і пераклад са старажытнарускай
Вячаслава ЧАМЯРЫЦКАГА

# НОВЫ ЗАПАВЕТ ГОСПАДА НАШАГА ІСУСА ХРЫСТА ПАВОДЛЕ МАЦВЕЯ СВЯТОЕ ДАБРАВЕСЦЕ

Раздзел 25

### ПРЫПАВЕСЦЬ ПРА РАЗУМНЫХ І НЕРАЗУМНЫХ ДЗЯЎЧАТ

1 Тады Нябеснае Царства будзе падобнае да дзесяці дзяўчат, што, узяўшы лямпы, выйшлі насустрач маладому.
2 Пяць з іх было неразумных і пяць разумных.
3 Неразумныя, узяўшы свае лямпы, не ўзялі з сабою алею;
4 Разумныя ўзялі алею ў пасудзінах заадно са сваімі лямпамі;
5 А калі малады затрымаўся, яны ўсе задрамалі і паснулі.
6 Апоўначы ж крык пачуўся: «вось, малады ідзе, выходзьце насустрач яму».
7 Тады ўсхапіліся ўсе тыя дзяўчаты і папраўлілі свае лямпы.
8 Неразумныя ж сказалі разумным: «дайце нам вашага алею, бо нашы лямпы гаснуць».
9 А разумныя казалі ў адказ: «каб не забракла нам і вам, пайдзіце лепей да прадаўцоў і купіце сабе».
10 Пакуль жа яны хадзілі купляць, прыйшоў малады; і гатовыя ўвайшлі з ім на вяселле, і дзверы зачыніліся.

Лук. 13, 25.

11 Пасля ж прыходзіць і рэшта дзяўчат і кажа: «пане! пане! адчыні нам!»

Мац. 7, 21.

12 Ён жа сказаў ім у адказ: «папраўдзе кажу вам: я не ведаю вас».

Пс. 5, 5; Ав. 1, 13.

13 Дык будзьце пільныя: бо вы не ведаеце ані дня, ні гадзіны, калі прыйдзе Сын Чалавечы.

Мар. 13, 33; 1 Кар. 16, 13.

### ПРА ТАЛЕНТЫ

14 Гэтак і адзін чалавек, ад'язджаючы, склікаў сваіх рабоў і перадаў ім сваё дабро.

Лук. 19, 12.

15 І даў ён аднаму пяць талентаў, другому ж — два, а іншаму — адзін, кожнаму паводле яго сілы; і тут жа ад'ехаў.

Рым. 12, 6; 1 Кар. 12, 7, 11.

16 Той жа, хто ўзяў пяць талентаў, пайшоўшы, пусціў іх у абаротак і прыдбаў другія пяць.
17 Гэтак жа і той з двума зарабіў другія два.
18 А той, што ўзяў адзін, адышоўшыся, закапаў у зямлю — і схаваў серабро свайго гаспадара.
19 Праз доўгі ж час прыязджае гаспадар тых рабоў і зводзіць з імі рахунак.
20 І, падышоўшы, той, хто ўзяў пяць талентаў, прынёс другія пяць талентаў, кажучы: «пане! пяць талентаў ты перадаў мне: вось другія пяць талентаў я зарабіў на іх».
21 Яго ж гаспадар сказаў яму: «прыемна, раб добры і верны! У малым ты быў верны, над многім пастаўлю цябе; увайдзі ў радасць твайго гаспадара».

Іс. 61, 7.

22 І, падышоўшы, той, хто ўзяў два таленты, сказаў: «пане! два таленты ты перадаў мне: вось другія два таленты я зарабіў на іх».
23 Яго ж гаспадар сказаў яму: «прыемна, раб добры і верны! У малым ты быў верны, над многім пастаўлю цябе; увайдзі ў радасць твайго гаспадара».
24 І, падышоўшы, той, хто ўзяў адзін талент, сказаў: «пане! я ведаў цябе, што ты чалавек суровы: жнеш, дзе не сеяў, і збіраеш, дзе не рассыпаў;
25 І я збаяўся — адышоўшыся, схаваў твой талент у зямлю: вось маеш тваё».
26 Яго ж гаспадар сказаў яму ў адказ: «баязлівы раб і лянівы; ты ведаў, што я жну, дзе не сеяў, і збіраю, дзе не рассыпаў;
27 Таму трэба было табе даць маё серабро ліхвярам, а я, прыехаўшы, узяў бы ўсё сваё з ліхвою.
28 Вазьміце ж ад яго талент і дайце таму, хто мае дзесяць талентаў.
29 Бо кожнаму, хто мае, будзе дадзена, і ў яго будзе паддастаткам; а ў таго, хто не мае, будзе ўзята і тое, што мае.

Мац. 13, 12; Мар. 4, 25; Лук. 8, 18; 19, 26.

30 А няздатнага раба выкіньце ў цемру

знадворную — там будзе плач і скрыгат зубоў».

Мац. 24, 51.

## АПОШНІ СУД

31 Калі ж прыйдзе Сын Чалавечы ў славе Сваёй і ўсе святыя Анёлы з ім, тады сядзе Ён на пасадзе славы Свае.

Мац. 13, 49; 16, 27; Дзеян. 1, 11.

32 І будуць сабраны перад Ім усе народы; і Ён аддзеліць іх адзін ад аднаго, як пастух аддзяляе авечак ад казлоў;

33 І паставіць Ён авечак праваруч ад Сябе, а казлоў — леваруч.

34 Тады скажа Цар тым, хто праваруч ад Яго: «прыйдзіце, бласлаўлёныя Бацькі Майго! атрымайце ў спадчыну Царства, прызначанае вам ад заснавання свету.

Мац. 20, 23.

35 Бо быў галодны Я, а вы далі мне есці; быў сасмяглы, а вы далі Мне піць; быў падарожны, а вы прынялі Мяне;

Іс. 53, 7; Іез. 18, 7; 2 Цім. 1, 18.

36 Быў голы, а вы адзелі Мяне; быў хворы, а вы адведалі Мяне; быў у цямніцы, а вы прыйшлі да Мяне».

37 Тады адзавуцца Яму праведнікі, кажучы: «Госпадзе! калі мы бачылі Цябе галодным і накармілі? і сасмяглым і напаілі?

38 Калі ж мы цябе падарожным бачылі і прынялі? ці голым і адзелі?

39 Калі ж мы бачылі Цябе хворым або ў цямніцы і прыйшлі да Цябе?»

40 І ў адказ Цар скажа ім: «папраўдзе кажу вам: зрабіўшы гэта аднаму з Маіх найменшых братоў, вы Мне зрабілі».

Прып. 14, 31; 19, 17; Мац. 10, 42.

41 Тады скажа і тым, хто леваруч ад Яго: «ідзіце ад Мяне, праклятыя, у агонь вечны, прызначаны д'яблу і яго анёлам.

Пс. 6, 9; Лук. 13, 27.

42 Бо быў галодны Я, а вы не далі Мне есці; быў сасмяглы, а вы не далі Мне піць;

43 Быў падарожны, а вы не прынялі Мяне; быў голы, а вы не адзелі Мяне; быў хворы і ў цямніцы, а вы не адведалі Мяне».

44 Тады адзавуцца яны, кажучы: «Госпадзе, калі мы бачылі Цябе галодным, ці сасмяглым, або падарожным, або голым, калі хворым, альбо ў цямніцы, і не ўслужылі Табе?»

45 Тады Ён скажа ім у адказ: «папраўдзе кажу вам: не зрабіўшы гэтага аднаму з гэтых найменшых, вы і для Мяне не зрабілі».

46 І пойдуць гэтыя на вечную муку, а праведнікі ў жыццё вечнае.

Дан. 12, 2; Іаан. 5, 29.

Раздзел 26

## ІСУС АПОШНІ РАЗ ГАВОРЫЦЬ ПРА САВЮ СМЕРЦЬ; ЗМОВА ПЕРШАСВЯТАРОЎ І СТАРЭЙШЫН

1 І было: калі закончыў Ісус усе гэтыя словы, сказаў Ён Сваім вучням:

2 Вы ведаеце, што праз два дні будзе Пасха, і Сын Чалавечы будзе выданы на ўскрыжаванне.

Мар. 14§ 1; Лук. 22, 1; Іаан. 13, 1.

3 Тады сабраліся першасвятары, і кніжнікі, і старэйшыны народа ў палац найвышэйшага святара, званага Каіафа,

Пс. 2, 2; Іаан. 11, 47.

4 І дамовіліся хітрасцю схапіць Ісуса і зрабіць.

Пс. 40, 8.

5 Але казалі: толькі не ў свята, каб не ўзнікла замяшанне ў народзе.

## ПАМАЗАННЕ ІСУСА Ў ВІФАНІІ

6 Калі ж Ісус быў у Віфаніі, у доме Сімана-пракажонага,

Мар. 14, 3; Іаан. 11, 2; 12, 3.

7 Падышла да Яго жанчына, што мела алебастравую пляшачку шматкаштоўнага міра, і паліла на Яго галаву, калі Ён ўзлягаў за сталом.

8 Яго вучні ж убачылі гэта і абурыліся, кажучы: навошта такое марнатраўства?

9 Бо можна было б гэта дорага прадаць і аддаць убогім.

10 Але Ісус, зразумеўшы, сказаў ім: навошта робіце прыкрасць жанчыне? бо добры ўчынак зрабіла яна для Мяне.

11 Бо заўсёды ўбогіх вы маеце з сабою; а Мяне не заўсёды маеце.

Друг. 15, 11.

12 Бо, узліўшы гэтае міра на Маё цела, яна падрыхтавала Мяне на пахаванне.

13 Папраўдзе кажу вам: дзе ні будзе абвяшчацца гэтае Дабравесце па цэлым свеце, будуць казаць і пра тое, што зрабіла яна,— на ўспамін пра яе.

## ЗДРАДА ЮДЫ ІСКАРЫЁТА

14 Тады адзін з Дванаццаці, які зваўся Юдаю Іскарыётам, падышоўшы да першасвятароў,

Мар. 14, 10; Лук. 22, 4.

15 Сказаў: што хочаце даць мне, і я вам выдам Яго? Яны вызначылі яму трыццаць срэбранікаў.

Зах. 11, 13.

**16** I з таго часу ён шукаў зручнага выпадку, каб выдаць Яго.

## ВУЧНІ РЫХТУЮЦЦА ДА ПАСХІ

**17** У першы ж дзень праснакоў падышлі вучні да Ісуса, кажучы Яму: дзе хочаш, каб мы падрыхтавалі Табе есці пасху?

Зых. 12, 6, 15; Мар. 14, 12; Лук. 22, 7.

**18** Ён жа сказаў: ідзіце ў горад, да такога і такога і скажыце яму: «Настаўнік кажа: час Мой блізкі; у цябе Я зраблю пасху з Маімі вучнямі».

**19** I зрабілі вучні, як загадаў ім Ісус, і падрыхтавалі пасху.

## ВЯЧЭРА ГАСПОДНЯЯ

**20** Калі ж надышоў вечар, Ён узлёг з дванаццаццю вучнямі.

Пс. 40, 10; Мар. 14, 18; Лук. 22, 14; Іаан. 13, 21.

**21** I, калі яны елі, сказаў: папраўдзе кажу вам, што адзін з вас выдасць Мяне.

**22** I, моцна зажурыўшыся, кожны з іх пачаў казаць Яму: ці не я, Госпадзе?

**23** А Ён казаў у адказ: той, хто абмакнуў са Мною руку ў місе, гэты выдасць Мяне.

**24** Сын Чалавечы адыходзіць, як напісана пра Яго, але бяда таму чалавеку, праз якога Сын Чалавечы прадаецца; лепей было б таму чалавеку не радзіцца.

Пс. 21, 3; Іс. 53, 3; Дан. 9, 26.

**25** У адказ жа Юда, што прадаў Яго, сказаў: ці не я, Равві? Кажа Ён яму: ты сказаў.

**26** А калі яны елі, Ісус, узяўшы хлеб і паблаславіўшы, паламаў і даваў вучням ды казаў: прыміце, спажывайце; гэта — цела Маё.

Мар. 14, 22; Лук. 22, 19; 1 Кар. 11, 24.

**27** I, узяўшы чару і ўзнёсшы падзяку, падаў ім, кажучы: піце з яе ўсе;

**28** Бо гэта кроў Мая Новага Запавету, што за многіх праліваецца дзеля даравання грахоў.

Мац. 20, 28.

**29** Кажу ж вам, што не буду піць з гэтага дня ад гэтага плоду лазы вінаграднай аж да таго дня, калі буду піць яго новым з вамі ў Царстве Майго Бацькі.

**30** I, заспяваўшы хвалебную песню, пайшлі на Аліўную гару.

## ІСУС ПАПЯРЭДЖВАЕ ПЯТРА: ТРОЙЧЫ АДРАЧЭШСЯ АД МЯНЕ

**31** Тады кажа ім Ісус: усе вы з-за Мяне будзеце выпрабаваны ў гэтую ноч, бо напісана: «удару пастуха, і рассыплюцца авечыя чароды».

Зах. 13, 7; Мар. 14, 27; Іаан. 16, 32.

**32** Пасля Майго ўваскрэсення буду чакаць вас у Галілеі.

Мац. 28, 16; Мар. 14, 28.

**33** У адказ жа Пётр сказаў Яму: калі і ўсе засумняваюцца ў Табе, я ніколі не паддамся сумненню.

**34** Ісус сказаў яму: папраўдзе кажу табе, што ў гэтую ноч, перш чым прапяе певень, тройчы адрачэшся ад Мяне.

Мар. 14, 30; Лук. 22, 34; Іаан. 13, 38.

**35** Кажа Яму Пётр: хоць бы мне трэба было і памерці з Табою, не адракуся ад Цябе, Падобна і ўсе вучні сказалі.

## ГЕФСІМАНІЯ

**36** Тады ідзе з імі Ісус у мясцовасць, званую Гефсіманіяй, і кажа вучням: пасядзіце вы тут, пакуль я пайду памалюся там.

Мар. 14, 32; Лук. 22, 39.

**37** I, узяўшы Пятра і двух сыноў Заведзеевых, пачаў журыцца і непакоіцца.

Пс. 114, 3; Іаан. 12, 27.

**38** Тады Ён кажа ім: ахоплена тугою душа Мая аж да смерці, пабудзьце тут і не спіце са Мною.

**39** I, адышоўшыся трошкі, упаў ніцма, молячыся і кажучы: Ойча Мой! калі можна, няхай абміне Мяне гэтая чара; і ўсё ж не як Я хачу, а як Ты.

Мац. 20, 22; Іаан. 5, 30; Філ. 2, 8; Яўр. 5, 7—8.

**40** I прыходзіць да вучняў і знаходзіць, што спяць яны, і кажа Пятру: так і не змаглі адной гадзіны не паспаць са Мною?

**41** Не спіце і маліцеся, каб не ўпасці ў спакусу. Дух бадзёры, а цела слабое.

**42** Зноў, другі раз, адышоўшыся, маліўся, кажучы: Ойча Мой, калі не можа абмінуць Мяне гэтая чара, каб Мне не піць яе, няхай будзе воля Твая!

**43** I, прыйшоўшы, знайшоў, што яны зноў спалі: бо вочы іх абцяжэлі.

**44** I, пакінуўшы іх, Ён зноў пайшоў і памаліўся трэці раз, тое самае слова кажучы.

**45** Тады прыходзіць да Сваіх вучняў і кажа ім: вы ўсё яшчэ спіце і адпачываеце; вось наблізілася гадзіна, і Сын Чалавечы будзе выданы ў рукі грэшнікаў.

**46** Уставайце, хадзем, вось наблізіўся Мой прадаўца.

ЮДАЎ ПАЦАЛУНАК. З КАЛАМІ І МЯЧАМІ ВЫ ВЫЙШЛІ ЎЗЯЦЬ МЯНЕ

**47 І, калі Ён яшчэ гаварыў, вось прыйшоў Юда, адзін з Дванаццаці, а з ім вялікі натоўп з мячамі і каламі ад першасвятароў і старэйшын народу.**

Мар. 14, 43; Лук. 22, 47; Іаан. 18, 3.

**48 Яго прадаўца даў жа ім знак, кажучы: каго пацалую, гэта Ён; хапайце Яго.**

**49 І тут жа, падышоўшы да Ісуса, сказаў: радуйся, Раввi![1] І пацалаваў Яго.**

**50 А Ісус сказаў яму: дружа, чаго ты прыйшоў? Тады, падышоўшы, ускінулі рукі на Ісуса і забралі Яго.**

**51 І вось адзін з тых, што былі з Ісусам, выцягнуўшы руку, выхапіў свой меч, ударыўшы першасвятаровага раба, адсек яму вуха.**

**52 Тады кажа яму Ісус: вярні твой меч на яго месца; бо ўсе, хто возьме меч, ад мяча загінуць.**

Быц. 9, 6; Адк. 13, 10.

**53 Ці думаеш, што Я не магу ўпрасіць цяпер Майго Бацьку і Ён не дасць Мне больш за дванаццаць легіёнаў Анёлаў?**

Дан. 7, 10.

**54 Як жа спраўдзіцца Пісьмо, што гэта павінна адбыцца?**

Пс. 21, 2; Іс. 53, 2; Дан. 9, 26.

**55 У тую ж гадзіну казаў Ісус да натоўпу: як на разбойніка выйшлі вы з мячамі і каламі, каб узяць Мяне! я штодня сядзеў з вамі, павучаючы ў святыні, і вы не ўзялі Мяне.**

**56 Гэта ж усё адбылося, каб спраўдзіліся Пісанні прарокаў. Тады ўсе вучні, пакінуўшы Яго, паўцякалі.**

НА СУДЗЕ СІНЕДРЫЁНА

**57 А тыя, што схапілі Ісуса, завялі Яго да Каіафы, першасвятара, дзе сабраліся кніжнікі і старэйшыны.**

Мар. 14, 53; Лук. 22, 54.

**58 Пётр жа здалёку ішоў услед за Ім аж да першасвятаровага двара; і, увайшоўшы ўсярэдзіну, сеў са слугамі, каб убачыць канец.**

**59 А першасвятары і старэйшыны ды ўвесь сінедрыён шукалі фальшывых сведчанняў супроць Ісуса, каб пакараць смерцю.**

Пс. 26, 12; 34, 11; Мар. 14, 55.

**60 І не знайшлі; і хоць шмат фальшывых сведкаў прыходзіла, не знайшлі; а ўрэшце два фальшывыя сведкі, прыйшоўшы,**

**61 Сказалі: Гэты казаў: «магу зруйнаваць храм Божы і за тры дні збудаваць яго».**

Мац. 27, 40; Мар. 14, 58; Іаан. 2, 19.

**62 Тады першасвятар, устаўшы, сказаў Яму: нічога не адказваеш, што гэтыя сведчаць супроць цябе?**

**63 Ісус жа маўчаў. І першасвятар сказаў Яму ў адказ: заклінаю Цябе жывым Богам, каб сказаў нам, ці Ты Хрыстос, Сын Божы.**

Іс. 53, 7; Дзеян. 8, 33.

**64 Кажа яму Ісус: ты сказаў; да таго ж скажу вам: зараз вы пабачыце Сына Чалавечага, што будзе сядзець праваруч ад Сілы (Божай) і прыходзіць на воблаках нябесных.**

Пс. 109, 1; Дан. 7, 13; Мац. 16, 27; Іаан. 6, 62; Дзеян. 1, 11; Рым. 14, 11; 1 фес. 4, 16; Адк. 1, 7.

**65 Тады першасвятар разарваў сваё адзенне, кажучы: Ён зневажае Бога! навошта нам яшчэ трэба сведкі? Вось цяпер вы чулі богазнявагу Яго!**

**66 Як вам здаецца? Яны ж сказалі ў адказ: варты смерці.**

**67 Тады яны пачалі пляваць Яму ў твар і таўклі Яго кулакамі; другія білі па шчоках,**

Іс. 50, 6; 53, 3.

**68 Прыгаворваючы: скажы нам, Хрысце, хто ўдарыў Цябе?**

АДРАЧЭННЕ ПЯТРА

**69 Пётр жа сядзеў на двары перад домам, і падышла да яго адна служанка і сказала: і ты быў з Ісусам Галілеянінам.**

**70 Ён жа адрокся перад усімі, сказаўшы; не ведаю, што ты кажаш.**

Мар. 14, 68.

**71 А калі ён выходзіў з брамы, убачыла яго другая і кажа тым, што былі там: і гэты быў з Ісусам Назаранінам.**

**72 І зноў ён адрокся з клятвай: я не ведаю Гэтага Чалавека.**

**73 А трохі пазней падышлі тыя, што стаялі, і сказалі Пятру: сапраўды і ты з іх, бо твая гаворка выдае цябе.**

**74 Тады ён пачаў клясціся і бажыцца: я не ведаю Гэтага Чалавека. І тут жа запяяў певень.**

Мар. 14, 72.

**75 І ўспомніў Пётр сказанае яму Ісусам слова: перш чым прапяе певень, тройчы адрачэшся ад Мяне. І, выйшаўшы адтуль, горка заплакаў.**

---

[1] Звычайнае прывітанне, звернутае да настаўніка веры.

## Раздзел 27

### ПІЛАТАЎ СУД; ЮДАВА СМЕРЦЬ

**1 І калі надышла раніца, усе першасвятары і старэйшыны народу зрабілі нараду супроць Ісуса, каб пакараць Яго смерцю.**

Пс. 2, 2.

**2 І, звязаўшы Яго, завялі і аддалі Яго Понцію Пілату, намесніку.**

Мар. 15, 1; Лук. 23, 1.

**3 Тады Юда, Яго прадаўца, убачыўшы, што Яго засудзілі, пакаяўся і вярнуў трыццаць срэбранікаў першасвятарам і старэйшынам,**

**4 Кажучы: саграшыў я, прадаўшы кроў нявінную. А яны сказалі: што нам да таго? глядзі сам.**

**5 І, кінуўшы срэбранікі ў храме, ён адышоў; і, пайшоўшы, павесіўся.**

Дзеян. 1, 18.

**6 А першасвятары, узяўшы срэбранікі, сказалі: нельга іх класці ў скарбніцу, бо гэта плата за кроў.**

**7 А, параіўшыся, купілі яны за іх поле ганчара для пахавання чужаземцаў.**

**8 Вось чаму і завецца тое поле Полем Крыві аж да сённяшняга дня.**

Дзеян. 1, 19.

**9 Тады спраўдзілася сказанае праз прарока Ерамію, які кажа: «і ўзялі трыццаць срэбранікаў, плату Ацэненага, што ацанілі сыны Ізраілевы,**

Іер. 32, 9; Зах. 11, 12.

**10 І далі іх за поле ганчара, як сказаў мне Госпад».**

**11 Ісус жа стаў перад намеснікам; і спытаўся ў Яго намеснік, кажучы: Ты Цар Іудзейскі? Ісус жа сказаў яму: ты кажаш.**

Мар. 15, 2; Лук. 23, 3;
Іаан. 18, 37; 1 Цім. 6, 13.

**12 І, калі першасвятары і старэйшына абвінавачвалі Яго, Ён нічога не адказваў.**

Мац. 26, 63.

**13 Тады кажа Яму Пілат: ці не чуеш, як шмат сведчаць супроць Цябе?**

**14 Ды Ён не адказваў ні на адно слова, так што намеснік надта здзівіўся.**

**15 Меў жа намеснік звычай на свята адпускаць народу аднаго вязня, якога б хацелі.**

**16 Быў жа тады вязень вядомы, што зваўся Варава.**

**17 Таму, калі яны сабраліся, Пілат ім сказаў: каго хочаце, каб я вам адпусціў: Вараву ці Ісуса, што завецца Хрыстос?**

Мац. 21, 11.

**18 Бо ведаў, што праз зайздрасць выдалі Яго.**

**19 Калі ж ён сядзеў на судзейскім пасоцце, паслала да яго жонка яго сказаць: нічога не рабі Таму Праведніку; бо я сёння шмат спакутавала ў сне з-за Яго.**

**20 Але першасвятары і старэйшыны падбілі народ, каб прасіць Вараву, а Ісуса загубіць.**

Мар. 15, 11; Лук. 23, 18;
Іаан. 18, 40; Дзеян. 3, 14.

**21 Намеснік жа сказаў ім у адказ: каго з двух хочаце, каб я адпусціў вам? Яны ж сказалі: Вараву.**

**22 Пілат кажа ім: што ж мне рабіць з Ісусам, што завецца Хрыстос? Усе кажуць яму: укрыжаваць Яго!**

**23 А намеснік сказаў: што ж благое зрабіў Ён? Ды яны пачалі яшчэ мацней крычаць і казаць: укрыжаваць Яго!**

**24 Пілат жа, убачыўшы, што нічога не дапамагае, а ўсчынаецца яшчэ больш неспакой, узяў вады і ўмыў рукі перад народам, кажучы: я не вінаваты ў крыві Гэтага Праведніка; глядзіце самі.**

**25 І ўвесь народ сказаў у адказ: Яго кроў на нас і на нашых дзецях.**

**26 Тады ён адпусціў ім Вараву; а Ісуса пасля бічавання выдаў каб укрыжавалі.**

Мар. 15, 15; Іаан. 19, 1.

### ЦЯРНОВЫ ВЯНОК

**27 Тады намеснікавы воіны, узяўшы Ісуса ў прэторыю[1], сабралі на Яго ўсю кагорту[2]**

**28 І, раздзеўшы Яго, надзелі на Яго пурпуровы плашч,**

**29 І, сплёўшы вянок з цярніны, паклалі Яму на галаву і далі мерны шост у правую руку; і, падаючы на калені перад Ім, насміхаліся з Яго, кажучы: радуйся[3], цар Іудзейскі!**

**30 І, апляваўшы Яго, забралі шост і білі па галаве Яго.**

**31 І калі наглуміліся з Яго, знялі з Яго пурпуровы плашч і адзелі Яго ў Яго адзенне і павялі на ўкрыжаванне.**

### УКРЫЖАВАННЕ ІСУСА ХРЫСТА

**32 Выходзячы ж, яны сустрэлі аднаго кірынеяніна, які зваўся Сіман; яго і прымусілі ўзяць крыж Яго.**

**33 І, прыйшоўшы на месца, званае Галгофа, што значыць: Лобнае месца,**

Мар. 15, 22; Лук. 23, 33;
Іаан. 19, 17; Яўр. 13, 12.

**34 далі Яму піць воцату, змяшанага з жоўцю; і, пакаштаваўшы, Ён не захацеў піць.**

Пс. 68, 22.

---

[1] Тут: намеснікаў палац.
[2] Дробная рымская вайсковая адзінка.
[3] Тут у значэнні «няхай жыве».

35 А ўкрыжаваўшы Яго, яны падзялілі Яго адзенне, кідаючы жэрабя;

Пс. 21, 19.

36 І, пасеўшы, яны пільнавалі Яго там.

37 І змясцілі над Яго галавою надпіс пра Яго віну: гэта — Ісус, Цар Іудзейскі.

38 Тады ўкрыжавалі з Ім двух разбойнікаў: аднаго праваруч, а другога леваруч.

Іс. 53, 12.

39 А тыя, што міма праходзілі, зневажалі Яго, ківаючы галовамі

Пс. 21, 8; 108, 25.

40 І кажучы: Ты, што руйнуеш храм і за тры дні будуеш, уратуй Самога Сябе! калі ты Сын Божы, сыдзі з крыжа!

Мац. 26, 61; Мар. 14, 58.

41 Падобна ж і першасвятары з кніжнікамі і старэйшынамі, насміхаючыся, казалі:

42 Іншых ратаваў, а Сябе Самога не можа ўратаваць! Калі Ён Цар Ізраіля, няхай цяпер сыдзе з крыжа, і мы паверым Яму.

43 Спадзяваўся на Бога: няхай Ён цяпер выбавіць Яго, калі Ён Яму ўгодны. Бо казаў Ён: Я — Сын Божы.

Пс. 21, 9, 18.

44 Таксама і разбойнікі, укрыжаваныя разам з Ім, зневажалі Яго.

## СМЕРЦЬ ІСУСА ХРЫСТА

45 Ад шостай жа гадзіны зрабілася цемра на ўсёй зямлі — аж да гадзіны дзявятай.

Ам. 8, 9.

46 А каля дзевятай гадзіны ўскрыкнуў Ісус моцным голасам, кажучы: Элí, элí, лемá савахфáні? гэта значыць: Божа Мой, Божа Мой! нашто Ты Мяне пакінуў?

Пс. 21, 2; Мар. 15, 34.

47 Некаторыя з тых, што стаялі там, чуючы гэтае, казалі: Ён кліча Ілію.

48 І зараз жа адзін з іх пабег і ўзяў губку і, намачыўшы воцатам і насадзіўшы на мерны шост, даваў Яму піць.

Пс. 68, 22; Іаан. 19, 29.

49 А другія казалі: пачакай, пабачым, ці прыйдзе Ілія ратаваць Яго.

50 Ісус жа зноў ускрыкнуў моцным голасам і аддаў дух.

51 І вось заслона храма разадралася на дзве часткі згары на дол, і зямля затрэслася, і каменне расселася.

Зых. 26, 31; 2 Пар. 3, 14; Яўр. 10, 20.

52 І расчыніліся грабніцы, і паўставала шмат цел памерлых святых.

53 І, выйшаўшы з магіл пасля Яго ўваскрэсення, увайшлі ў святы горад і паказаліся шмат каму.

54 А сотнік і тыя, што з ім вартавалі Ісуса, убачыўшы землятрус і тое, што адбылося, моцна спалохаліся, кажучы: сапраўды Ён быў Сын Божы.

55 Было ж там шмат жанчын, якія прыглядваліся здалёку, і ішлі ўслед за Ісусам з Галілеі і прыслугоўвалі Яму.

56 Між імі была Марыя Магдаліна, і Марыя, маці Іакава і Іосіі, і маці сыноў Зеведзеевых.

## ПАХАВАННЕ ІСУСА ХРЫСТА

57 Калі ж настаў вечар, прыйшоў багаты чалавек з Арымафеі, які зваўся Іосіф і які таксама быў Ісусавым вучнем;

Мар. 15, 42; Лук. 23, 50; Іаан. 19, 38.

58 Гэты, прыйшоўшы да Пілата, прасіў Ісусава цела. Тады Пілат загадаў аддаць цела.

59 І, узяўшы цела, Іосіф абкруціў яго чыстым палатном,

60 І паклаў яго ў сваёй новай грабніцы, якую высек у скале; і, прываліўшы вялікі камень да дзвярэй грабніцы, пайшоў адтуль.

61 А Марыя Магдаліна і другая Марыя сядзелі там насупроць магілы.

## ВАРТАВАННЕ МАГІЛЫ

62 На другі ж дзень пасля пятніцы сабраліся першасвятары і фарысеі да Пілата,

63 Кажучы: Пане! мы ўспомнілі, што той ашуканец яшчэ пры жыцці казаў: пасля трох дзён уваскрэсну.

64 Дык загадай ахоўваць магілу аж да трэцяга дня; каб не прыйшлі Яго вучні ўночы і не ўкралі Яго і не сказалі народу: «Ён уваскрос з мёртвых»; і будзе апошняе ашуканства горшае за першае.

65 А Пілат сказаў ім: маеце варту; ідзіце, ахоўвайце, як ведаеце.

66 І яны пайшлі і ахоўвалі магілу, прыклаўшы пячатку да каменя і паставіўшы варту.

## Раздзел 28

## УВАСКРЭСЕННЕ ІСУСА ХРЫСТА. ПУСТАЯ МАГІЛА

1 А калі скончылася субота, на досвітку першага дня тыдня прыйшла Марыя Магдаліна і другая Марыя паглядзець магілу.

Мар. 16, 1; Лук. 24, 1; Іаан. 20, 1.

2 І вось зрабіўся вялікі землятрус; бо Анёл Гасподні сышоў з неба і, падышоўшы, адваліў камень ад уваходу і сеў на яго.
3 Выгляд жа яго быў, як маланка, а шаты яго белыя, нібы снег;
4 І ад страху перад ім задрыжалі вартаўнікі і зрабіліся як мёртвыя.
5 Але Анёл у адказ жанчынам сказаў: не бойцеся вы; бо ведаю, што вы шукаеце Ісуса укрыжаванага.

Мар. 16, 6.

6 Няма Яго тут; бо Ён уваскрос, як сказаў. Хадзіце паглядзіце месца, дзе ляжаў Госпад.

Мац. 12, 40; 16, 21; 17, 23.

7 Ды ідзіце хутка і скажыце Яго вучням, што Ён уваскрос з мёртвых; і вось папярэджвае вас у Галілеі: там Яго ўбачыце. Вось я сказаў вам.

Мац. 26, 32; Мар. 14, 28; Іаан. 21, 1; Дзеян. 1, 3; 10, 41; 1 Кар. 15, 5.

## ІСУС СУСТРАКАЕ ЖАНЧЫН

8 Яны ж, паспешна пайшоўшы ад магілы, са страхам і вялікаю радасцю пабеглі абвясціць Яго вучням.
9 І вось Ісус сустрэў іх, кажучы: радуйцеся! Яны ж, падышоўшы, абнялі Яго ногі і пакланіліся Яму.

Мар. 16, 9; Іаан. 20, 14.

10 Тады кажа ім Ісус: не бойцеся; ідзіце, абвясціце Маім братам, каб пайшлі ў Галілею, і там яны ўбачаць Мяне.

Іаан. 20, 17; Яўр. 2, 11.

## ПЕРШАСВЯТАРЫ І СТАРЭЙШЫНЫ ПАДКУПЛЯЮЦЬ ВАРТУ

11 А калі яны пайшлі, вось, некаторыя з варты, прыйшоўшы ў горад, расказалі першасвятарам пра ўсё, што адбылося.
12 І яны, сабраўшыся са старэйшынамі і дамовіўшыся, далі немалыя грошы воінам,
13 Кажучы: гаварыце, што Яго вучні, прыйшоўшы ўночы, укралі Яго, калі мы спалі.
14 А калі дачуецца пра гэта намеснік, мы яго ўгаворым і выбавім вас ад клопату.
15 Яны ж, узяўшы грошы, зрабілі, як іх навучылі. І разышлася гэтая пагалоска між іудзеяў аж да сённяшняга дня.

## ІСУС У ГАЛІЛЕІ; ВЯЛІКАЕ ДАРУЧЭННЕ АПОСТАЛАМ

16 Адзінаццаць жа вучняў пайшлі ў Галілею на гару, куды загадаў ім Ісус.
17 І, убачыўшы Яго, яны пакланіліся Яму; а другія засумняваліся.
18 Ды Ісус, падышоўшы, прамовіў да іх, кажучы: дадзена Мне ўся ўлада на небе і на зямлі.

Мац. 11, 27; Лук. 1, 32; Іаан. 3, 35; 13, 3; 17, 2; 1 Пят. 3, 22; Рым. 14, 9; Еф. 1, 10; Філ. 2, 9; Кал. 1, 16; Яўр. 2, 8; Адк. 19, 16.

19 Таму ідзіце, рабіце вучнямі ўсе народы, хрысцячы людзей у імя Айца, і Сына, і Святога Духа.
20 Вучачы іх выконваць усё, што Я даручыў вам. І вось Я з вамі праз усе дні аж да сканчэння веку. Амін.

**Працяг будзе.**

25, 1—13. Паводле ўсходняга звычаю сяброўкі маладой сустракалі маладога ўночы з лямпамі.

26, 7. Міра — алей, які выціскалі з нардавага кораня ў Індыі. Яно каштавала вельмі дорага, а таму захоўвалася і прадавалася ў наглуха закаркаванай пляшачцы.

26, 15. «Трыццаць срэбранікаў» — гэта была вызначаная Законам цана раба. Яе і даюць тут у знак зняважы да Хрыста.

26, 17. Дзень праснакоў — перад Пасхаю выпякалася маца; а гаспадар дома абходзіў усе памяшканні, аглядаючы, каб на Пасху не было нічога «кіслага» ў доме.

26, 28. Як некалі на Сінаі Майсей крывёю ахвяр змацоўваў прымірэнне між Богам і Яго народам, так на крыжы Ісус сваёю крывёю сцвярджае «новае» прымірэнне чалавека з Богам, аб чым казалі прарокі. Гэта кроў даравання, бо без крыві яго не бывае, а, з другога боку, чара, якую Ён дае выпіць вучням, сімвал Новага Запавету — новага духоўнага жыцця.

26, 48. «Каго пацалую» — пацалунак быў звычайным прывітаннем пры сустрэчы.

26, 53. Легіён — самае буйное злучэнне рымскай арміі з 6 000 воінаў.

26, 57. Іосіф Каіафа быў кіраўнічым першасвятаром з 18 па 37 г н. э.

27, 1. «Зрабілі нараду» — начны сход паводле закона не меў юрыдычнай моцы.

27, 2. «Аддалі Яго Понцію Пілату, намесніку».— Са старажытных крыніц і надпісу, знойдзенага ў Кесарыі, вядома, што Пілат быў пракуратарам — асобаю, адказнай за збор падат-

каў і кіраванне Іудзеяй. Яўрэі не мелі права выконваць прысуды смерці. Толькі пракуратар мог зацвярджаць іх, а выносіліся яны першасвятаром і сінедрыёнам.

27, 25. Традыцыйны выраз, які абазначаў, што абвінаваўцы бяруць на сябе адказнасць за прысуд.

27, 26. Рымскае бічаванне рабілася бізуном са свінцовымі шыпамі; яно звычайна папярэднічала ўкрыжаванню.

27, 28. Пурпуровая мантыя — пурпуровы колер быў адзнакаю імператара і членаў яго сям'і; толькі імператар мог насіць адзенне пурпуровага колеру, пісаць пурпуровым чарнілам і г. д.

27, 29. Цярновы вянок на Ісусавай галаве як бы сімвалізаваў царскую карону, а шост у правай руцэ — царскі скіпетр, сімвал улады.

27, 32. Кірынеянін — жыхар Кірынеі, альбо Кірэны, адной з абласцей Егіпта.

27, 33. Галгофа — ад арамейскага «гулголет»: чэрап (адсюль Лобнае месца); узгорак, абрысамі падобны да чалавечага чэрапа.

27, 34. «Воцат, змяшаны з жоўцю» — пітво, якое давалі піць пры ўкрыжаванні, каб аблегчыць пакуты асуджаным.

27, 45. Г. зн. ад дванаццаці да пятнаццаці. Але гэта не было прыродным зацьменнем, бо тады была якраз поўня.

27, 51. Заслона аддзяляла свяцілішча, куды ўваходзілі святары, ад Святога Святых, куды мог уваходзіць толькі першасвятар раз на год у Дзень ачышчэння. Разадраная заслона азначала, што для ўсіх набожных адкрылася цяпер «новая і жывая дарога» ў прыстанішча самога Бога, без патрэбы ў іншых святарах, апроч аднаго Ісуса Хрыста.

27, 59. Плашчаніца — вялікі кавалак ільняной тканіны, у якую, паводле іудзейскага звычаю, закручвалі цела нябожчыка.

**Пераклад і каментарыі**
**Анатоля КЛЫШКІ**

# Вітраж генацыду

Георгий Тарнавский, Валерий Соболев, Евгений Горелик. **Куропаты: следствие продолжается.** Москва, «Юридическая литература», 1990.

Кніга, як абвяшчае яе назва, прысвячаецца Курапатам, тым самым Курапатам, што сталіся чорным знакам сталінскага сацыялізму, увайшлі ў тузін найбольш змрочных сімвалаў XX стагоддзя — Курапаты, Катынь, Хатынь, Лідзіцэ, Майданек, Трасцянец, Хірасіма, Сангмі, Чарнобыль. Змест кнігі склалі вынікі працы Урадавай камісіі БССР па расследаванню фактаў забойства савецкіх людзей у лясным масіве пад Мінскам на працягу 1937—1941 гг. Адзін з аўтараў — Г. Тарнаўскі — быў першым намеснікам старшыні камісіі; адначасна ён — пракурор рэспублікі, які ўзбудзіў крымінальную справу аб Курапатах — першую, дарэчы адзначыць, справу ў Савецкім Саюзе па абставінах масавага знішчэння насельніцтва органамі НКУС.

З'яўленне кнігі, безумоўна, важкая падзея ў маральным і палітычным жыцці ўсіх савецкіх народаў. Бо, па сутнасці, матэрыял «Курапатаў...» адлюстроўвае процістаянне народа і Савецкай дзяржавы, цынічнае падаўленне сацыялістычнай дзяржавай народа ў даваенны час і на пачатку 50-х гадоў.

Напісаць кнігу пра масавыя расстрэлы людзей вельмі цяжка. Літаратура за сваю двухтысячагадовую гісторыю не стварыла адпаведнага жанру, не выпрацавала літаратурных форм для вобразнага асвятлення арганізаванага дзяржавай генацыду. Кнігі такога накірунку — «Архіпелаг ГУЛАГ» Аляксандра Салжаніцына, «Ніколі не забудзем», «Я з вогненнай вёскі...» Алеся Адамовіча, Янкі Брыля, Уладзіміра Калесніка — абапіраюцца выключна на сведчанні цудам выратаваных ахвяр. Тым жа шляхам пайшлі і аўтары «Курапатаў...». Сведчаць жывыя людзі, сведчаць дакументы, раскопы брацкіх магіл, прабітыя кулямі чарапы дзесяткаў тысяч людзей, што прынялі сваю смерць за трохметровай агароджай курапацкай спецзоны.

За дзесяцігоддзі мы звыкліся лічыць праўдзівым рытарычны лозунг: «Ніхто не забыты, ніштo не забыта», якім густа аздоблены плошчы і дахі нашых дамоў. Аднак пра курапацкія ахвяры сталіншчыны наўмысна не згадвалася паўстагоддзя. Дзяржава і партыйнае кіраўніцтва свядома не кранaлі крывавыя тайны сваіх папярэднікаў і іхніх памагатых. Муры забыцця прабілі, нарэшце, вядомы артыкул З. Пазняка і Я. Шмыгалёва і стотысячны недазволены мітынг мінчукоў, арганізатараў якога ўлады не пасароміліся аштрафаваць. Народнае абурэнне прымусіла кіруючыя колы стварыць Урадавую камісію. І высветлілася, што ўсе ахвяры Курапатаў — забытыя. Камісія не знайшла ці не атрымала дакументаў, якія б дазволілі з упэўненасцю назваць хоць адно прозвішча знішчанага на курапацкай бойні савецкага чалавека. Па асцярожнаму заключэнню камісіі ў Курапатах забіта стрэлам з нагана не менш за 30 тысяч асоб. І ўсе яны застаюцца безыменнымі. Дзяржава праз свае шматлікія карныя інстытуты адняла ў іх жыццё, імя, права на памяць, растварыла ў зямлі, як гной. Па ўскосных дадзеных можна скласці спіс вязняў мінскіх турмаў, якія не маглі быць забітыя ў іншым месцы Саюза, апроч Курапатаў, калі, зразумела, паверыць, што курапацкая спецзона была ў Мінскім раёне адзіная. Але такі спіс наўрад ці перабольшыць тысячу асоб. Астатнія афіцыйна прызнаныя 29 тысяч пакутнікаў нібыта і не жылі. З пэўнасцю можна лічыць, што менавіта ў Курапаты пастаўляў сваіх жыхароў так званы Другі Савецкі Дом, у якім з 1921 г. жылі адказныя работнікі ЦК КПБ, СНК, ЦВК БССР. Будынак захаваўся, ён стаіць на рагу вуліц Карла Маркса і Ленінскай. Захавалася і дамавая кніга Другога Савецкага Дома, дзе пазначаны ягоныя насельнікі, што змянялі адзін аднаго ва ўтульных па тым часе кватэрах, каб гужам ісці ў катоўню НКУС, а з яе — на край агульнай магілы ў Курапатах. Тут нарком фінансаў БССР А. Хацкевіч, сакратар Камісіі народнага кантролю В. Лейзер, наркомы земляробства Д. Прышчэпаў, К. Бэнак, М. Нізоўцаў, другі сакратар ЦК КПБ А. Ананьеў, старшыня ЦВК М. Скакун, нарком асветы В. Піваваў, загадчык аддзела культуры ЦК Д. Конік, першы сакратар ЦК КПБ В. Шаранговіч і шмат хто іншы. Да месца будзе працытаваць даведку начальніка палітычнага аддзела УДБ НКУС БССР старшага лейтэнанта дзяржбяспекі Ермалаева: «Из арестованных нами участников антисоветского подполья работали в центральных правительственных и партийных учреждениях: в ЦК КП(б)Б и ЦК ЛКСМБ — 23, в ЦИК и СНК — 16. Арестовано и разоблачено наркомов и их заместителей — 40, секретарей окружных комитетов, горкомов и райкомов — 24, председателей окрисполкомов, горсоветов и райисполкомов — 20, руководящих работников советского и хозяйственного аппарата — 179...»

Але ўсё гэта кропля з таго мора народнай крыві, якой цэментаваў свае бастыёны сталінскі таталітарны сацыялізм, што перамог, як тады выхваляліся, «канчаткова і беспаваротна». Галоўны ўдар наносіўся не па гэтым слою людзей. У той самай даведцы зафіксавана, што ў выніку разгрому антысавецкага падполля ў БССР за два гады арыштавана 2570 яго ўдзельнікаў. «Из них троцкистов и зиновьевцев — 376, правых — 177, национал-фашистов — 138, эсэров — 585, бундовцев — 198, меньшевиков — 7, сионистов — 27, церковников и сектантов — 1015, клерикалов — 57». Цяжка зразумець, як аўтары даведкі адроз-

нівалі царкоўнікаў ад клерыкалаў, але яны разам складалі амаль што палову арыштаваных «антысаветчыкаў». Эсэраў вынішчалі з 1918 г., нават дзіўна, што на 37-ы год ім адвозіўся такі вялікі працэнт сярод «ворагаў народу».

Але ж органы НКУС, ГПУ, ВЧК заўжды рабілі, што ім карцела. Яны стаялі над народам, народ быў сродкам іх самавыяўлення. Выяўляліся болей за ўсё садызм, прага крыві, нянавісць да чалавека. Яшчэ ў 1919 г. газета «Известия Витебского губернского Совета» адзначала на сваіх старонках: «...в связи с образованием бесчисленных белогвардейских фронтов, кулацкими восстаниями и белым террором чрезвычайные комиссии начинают вести беспощадную борьбу, но сами стали быстро разлагаться. Отсутствие гласности, неограниченные полномочия в деле разрешения и ликвидации дел до расстрела включительно привели к тому, что туда пролезли всякие авантюристы, шантажисты и просто уголовные преступники. Это явление начинает принимать массовый характер, и ЧК уже начинают расстреливать своих преступных сотрудников. Однако эта мера мало помогает делу, так как сама система, сама постановка дела способствует тому, что темные дела свивают себе прочное гнездо в ЧК, и они делаются органом, не укрепляющим Советскую власть, а разрушающим ее, дискредитирующим ее в глазах широких масс».

Шырокім масам чэкісты найболей і даліся ў знакі. Далёкія ад праўды тыя сённяшнія прапагандысты, якія намагаюцца даказаць, нібыта самыя цяжкія страты пад час сталіншчыны панесла партыя бальшавікоў.

Камуністы складаюць малую частку ахвяр. Самыя вялікія страты панеслі не партыя, не «клерыкалы» — самыя цяжкія страты панесла наша вёска. Кожная дзесятая вясковая хата на Беларусі была разрабавана апрычнікамі з НКУС, кожная дзесятая сям'я вывезена з роднай зямлі ў Сібір ці Казахстан. Большасць з іх знайшла там сваю безыменную магілу. Мільён толькі сялянскага насельніцтва страціла Беларусь за 10 год калгаснага будаўніцтва. Рабская праца калгаснікаў мела падставай адпаведна жорсткія нагляд і пакаранне. Нечым незадаволены, пярэчыш старшыні — дыверсант, шпіён, вораг народа — у Курапаты. Не так, праўда, хутка і ціха скаралася беларускае сялянства перад д'ябальскай воляй крамлёўскага узурпатара. На гады калектывізацыі, дзяржаўнага прыгнёту, нават паншчыны прыпадае больш за 1000 сялянскіх бунтаў і паўстанняў. Дарэчы прыгадаць, што яны пачаліся яшчэ ў 1920 г. вядомым слуцкім паўстаннем, якое ўзначалілі сацыялісты-рэвалюцыянеры. Багата заглынулі курапацкія магільнікі сялян і з Савецкай, і з Заходняй Беларусі, як да 17 верасня, так і пасля яго.

Упершыню ў савецкай літаратуры кніга падае жудасныя факты здзекаў пагранічнікаў і следчых НКУС з сялян, што па наіўнасці перабягалі ў Савецкі Саюз з заходніх беларускіх зямель. Усіх іх пасля пераходу мяжы арыштоўвалі, лічылі за польскіх шпіёнаў і адпаведна «апрацоўвалі», выбіваючы подпіс пад прызнаннем у варожых намерах, пасля чаго накіроўвалі ў мінскую турму, адкуль па начах палутаркі дастаўлялі няшчасных да месца апошняга прытулку ў Курапатах. Сярод дакументаў, змешчаных у кнізе, самы, бадай што, жахлівы — гэта тлумачэнне сваіх метадаў допыту адным з прафесійных катаў НКУС — малодшым лейтэнантам дзяржбяспекі Быхоўскім. Калі Бермана замянілі Цанавай, Быхоўскі быў арыштаваны і напісаў заяву на імя наркома ўнутраных спраў. Вось як ён апраўдваўся:

«Я хочу рассказать о тех безобразиях, антипартийных, по существу, фашистских методах следствия, которые в Белоруссии процветали на протяжении последних лет... Я начал применять при допросах к арестованным самые разнообразные методы издевательств... Бил их руками, сажал на стул, затем вынимал из-под них стул, и они падали, клал на пол, сгибал вдвое и ставил сверху табурет, садился на него и сидел до тех пор, пока эти лица не начинали давать показания, плевал им в лицо и пр.».

Сярод ахвяр гэтага тыповага сталінскага садыста былі выдатны пісьменнік Міхась Чарот, першы сакратар ЦК камсамола Беларусі А. Аўгустайціс і тысячы менш вядомых. Атрымаў Быхоўскі 10 год лагераў і пазбаўленне вайсковага звання. Ягоныя ахвяры, якіх ён складваў удвая і на якіх сядзеў, усе атрымалі кулю ў патыліцу. НКУС, як бачым, шкадаваў сваіх спецыялістаў.

Можа, сотні разоў кожны з нас бачыў на кінаэкране мастацкія стужкі, дзе гестапаўцы дапытвалі савецкіх людзей, а эсэсаўцы расстрэльвалі іх з аўтаматаў. І словы «гестапа», «эсэс» сімвалізуюць для нас звярыную жорсткасць, вытанчаны садызм, пакуты нявінных. Але калі чытаеш сведчанні вязняў мінскай і іншых турмаў, што былі створаны на Беларусі дзеля хуткай перамогі сацыялізму, procі волі думаецца, што следчыя з чырвонай зоркай на фуражцы нічым не адрозніваюцца ад тых, хто меў на фуражцы чэрап. Перамяні на іх форменныя фуражкі, і мінская турма 1938 г. стане тыповым гестапаўскім засценкам.

Вось як апісвае свае пакуты Іван Кавальчук, што зведаў усе кругі тагачаснага савецкага пекла. «14 верасня 1938 г. я і мае таварышы Кірычук Павел, Дзенісюк Уладзімір і Пракопчык Люба ўзялі на дарогу прадуктаў і выправіліся з сваіх родных вёсак да граніцы, каб перабрацца ў Савецкі Саюз. Ісці да яе было трэба 250 кіламетраў. Савецка-польскую граніцу перайшлі ў раёне Давыд-Гарадка ўначы з 18 на 19 верасня... Вечарам нам далі паесці і адправілі на аўтамабілі на заставу. Тут памясцілі ў камерах турэмнага ізалятара. Мне тады падумалася, што ўсё ў парадку, ідзе звычайная праверка. Але вечарам я раптам убачыў свайго роднага брата Кавальчука Мікіту, які перайшоў граніцу на пачатку жніўня. Разам з ім былі Селівончык Максім, Кірычук Мікалай, Кірычук Іван. На іх страшна было глядзець. Ды і пазнаў я іх толькі па галасах... Праз два дні мяне зноў уначы павялі на допыт. Задавалі тыя ж пытанні, але толькі больш жорстка, з пагрозамі. Калі ж я зноў стаў гаварыць праўду, навалiліся ўтрох і добра пабілі. Потым надзелі кайданкі, прасунулі палку паміж рукамі і каленямі і пад-

весілі галавой уніз на двух замацаваных крэслах. Так, аказваецца, ім было зручней біць па пятах і сцёгнах намочанай вяроўкай і гумай. Гэтая пытка называлася «ветраны млын», бо чалавека можна круціць, як захочацца. Калі я страціў прытомнасць, мяне аблілі вадой і аднеслі ў камеру... У Мінску нас памясцілі ў адну агульную камеру... Усе ляжалі на падлозе. Наша камера адносілася да разраду карцэраў. А ўсяго іх было тры віды: першы — «пасушыць» — у ім давалі на дзень 300 грамаў хлеба і кубак халоднай вады; другі называўся «памачыць» — трымалі ў вадзе па калена; апроч таго, зверху пускалі проста на галаву ці халодны, ці гарачы струмень; трэці менавалі «смірнастойкай» — на вязня надзявалі спецыяльную збрую, ён не мог сесці, яго зусім не кармілі».

Такіх і яшчэ больш жахлівых сведчанняў у кнізе дзесяткі. Раней чым загінуць ад кулі ката, людзям давялося зведаць невыносныя здзекі і пакуты. Скрываўленых, з перабітымі рэбрамі, змардаваных, іх прывозілі ў Курапаты. Колькі ж крыві пралілося ў камерах мінскага турэмнага замка і ў «амерыканцы» — унутранай турме НКУС? Колькі стогнаў, колькі малітваў там прагучала! Колькі апошніх слоў да родных, да маці, да нявест, да дзяцей помняць іхнія сцены? Усе курапацкія пакутнікі былі вязнямі гэтых турмаў. Справядлівасць патрабуе не толькі помніка ў Курапатах. Помнікамі пра генацыд павінны стаць самі турмы, тыя камеры, дзе здзекаваліся з простых людзей нкусаўскія садысты, катоўні, дзе людзей «складвалі ўдвая». Як, напрыклад, гэта зроблена ў Петрапаўлаўскай крэпасці, дзе турысты разглядаюць камеру Горкага ці нарадавольцаў. Але ім «ветраны млын» не рабілі і па калена ў вадзе не трымалі. У мінскіх турмах неабходна адкрыць Музей памяці рэпрэсіраваных, музей дзяржаўнага генацыду, вайны тагачаснага ўрада краіны супроць народа.

Вынікае з кнігі і такая развага. Калі няма ці мала дакументаў, каб даведацца пра лёс большасці пакутнікаў, на чым жа грунтуюцца рэабілітацыя і аднаўленне ў партыі тых партыйцаў, што былі забіты нкусаўцамі? Чаму дакументы ці іх адсутнасць не дазваляюць адрадзіць чыстае імя і грамадзянскія правы таго мільёна так званых кулакоў і сераднякоў, з'едзеных малохам калектывізацыі, тых заходнебеларускіх жыхароў, для якіх дзень уз'яднання з сацыялістычнай Беларуссю стаўся апошнім днём жыцця? Вялікая Айчынная вайна каштавала нашаму народу 2 мільёны 200 тысяч чалавек. Сталіншчына праз свае карныя інстытуты знішчыла 1 мільён 600 тысяч беларускага насельніцтва. Гэта толькі ў даваенны час, але былі ж яшчэ 9 пасляваенных гадоў сталінскага самаўладдзя. Ахвярам вайны пастаўлены тысячы помнікаў. Мільён ахвяр уласнай дзяржавы пакуль што азначаны сціплым каменем у Курапатах.

Аўтары далі сваёй кнізе падзагаловак «Следства працягваецца». Яны мелі рацыю. Следства будзе працягвацца стагоддзі, бо народ толькі пачынае асэнсоўваць, хто і як пераломваў яму хрыбет, прыводзячы да рабскага стану, да пакоры, да ўпэўненасці, што пекла, дзе ён жыве, і ёсць зямны рай.

Кніга прынясе чытачу карысць і паспрыяе ачышчэнню нашых галоў ад ідэалагічнага смецця сталінскай і застойнай эпохі.

К. ЯДВІГА

Мастацкі рэдактар
У. Я. КРУКОЎСКІ.

Карэктар
Б. С. КОГАН.

Тэхнічны рэдактар
З. М. МІКІШЧАНКА.

Адрас рэдакцыі: 220029, Мінск, Старажоўская, 5. Тэл. 34-24-54.

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па друку.

Здадзена ў набор 13.07.90. Падпісана да друку 03.09.90. Фармат $70\times100^{1}/_{16}$. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 5,48. Ум. фарб. адб. 6,75. Улік.-выд. арк. 8,51. Тыраж 11 800 экз. Зак. 853. Цана 60 к.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. 220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79.

Выходзіць штоквартальна
Мінск

«НАСЛЕДИЕ»
(на белорусском языке)



**Антон Карніцкі. Стары. (Ражскі бежанец). Алей, 1943 г.**

Цана 60 кап.

Індэкс 74988




П. Лук. Францыск Скарына. Гіпс, 1986 г.

Спадчына, 1990, № 3, 1—64.